ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

17 лютага 1995 г. № 7 (3779) Кошт 200 руб.





# З ПАВАГАЙ ДА ПРАЎДЫ

## Івану НАВУМЕНКУ — 70

Слаўны юбілей сустрэў адзін са старэйшых і знакамітых нашых пісьменнікаў — Іван Навуменка. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ён прыйшоў у літаратуру як творца, што праўдзіва і ўсебакова паказаў у сваіх апавяданнях мужнасць і гераізм (адначасова і трагізм) пакалення, да якога належыць сам. Тэма мінулай вайны знайшла свой працяг і ў раманах І.Навуменкі. Разам з тым ён пільна прыглядаецца да дня сённяшняга, даючы падзеям прынцыповую і па-мастакоўску дасканалую ацэнку. Важкія набыткі Івана Якаўлевіча і як выдатнага крытыка, літаратуразнаўцы, даследчыка беларускай літаратуры. І ўвогуле ён з тых, кім ганарыцца нацыянальнае прыгожае пісьменства.

Віншуем Івана Якаўлевіча з 70-годдзем! Жадаем яму доўгіх год жыцця, новых яркіх твораў!

*(Артыкул, прысвечаны творчасці юбіляра, чытайце на стар. 7).*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН



***Чалавек просты, ці абывацель, звязвае інфляцыю найперш з ростам курсу долара і, адпаведна, зніжэннем курсу "зайчыка". Любілі спасылацца на гэта і рознага роду начальнікі, якія павышалі цэны то на праезд, то на хлеб, то на камунальныя паслугі. Маўляў, што ж вы хочаце, паглядзіце, як "вырас" долар: інфляцыя... Ужо месяц (рэкорд!) долар на Беларусі "стаіць" на месцы. А цэны? Цэны яго "не слухаюцца". Інфляцыя ў студзені па афіцыйных звестках склала каля 40 працэнтаў. І ўжо чыноўнік з Мінгарвыканкама, спасылаючыся на гэта (а не на долар), тлумачыць чарговае павышэнне цэн на камунальныя паслугі. Вось толькі наш мінімальны заробак ніхто не арыентуе і не прывязвае ні да інфляцыі, ні да "росту" долара.***

## САМІТ ТЫДНЯ

У Алматы адбылася чарговая сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін СНД. На ёй падпісана яшчэ 13 дакументаў, "накіраваных на інтэграцыю краін Садружнасці". Па некаторых пытаннях беларуская дэлегацыя прытрымлівалася прынцыповай пазіцыі. Так, пры абмеркаванні праблем калектыўнай бяспекі А.Лукашэнка заявіў, што не накіруе ніводнага беларускага салдата за межы рэспублікі, паколькі ваенных інтарэсаў ні ў Таджыкістане, ні ў Казахстане, ні ў Расіі ў беларусаў няма. Наконт аховы знешніх межаў Садружнасці было заяўлена: кожная краіна павінна ахоўваць тую мяжу, якая праходзіць па яе тэрыторыі, Беларусь можа дапамагчы Таджыкістану, але толькі тэхнікай, узбраеннем, аб беларускім кантынгенце ў гэтай краіне не можа ісці і размовы... Уздымаліся таксама праблемы святкавання 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Аднак у каторы раз саміт пацвердзіў: усеагульныя сустрэчы ператвараюцца ў простую гаварыльню, фармальна прынятыя дакументы забываюцца адразу пасля раз'езду. Значэнне маюць толькі двухбаковыя — асабістыя — сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў, што адбываюцца падчас саміту. Гэта прызнаў і наш прэзідэнт.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

10 лютага парламент унёс змены ў Закон аб Вярхоўным Савеце, згодна з якімі ў зале пасяджэнняў забаронена з'яўляцца людзям са зброяй, у тым ліку і целаахоўнікам прэзідэнта. Дзіўнага нічога ў гэтым няма: падобная практыка існуе ва ўсіх цывілізаваных краінах, дзе парадак у парламентах ахоўвае спецыяльная служба, прычым не ўзброеная. У нас жа гэтае рашэнне стала працягам супрацьстаяння прэзідэнта і парламента, якое пачалося напрыканцы мінулага года: вы нас выселілі з авальнай залы, мы вам забаронім прыносіць з сабою "цацкі"...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Чачэнцы, як і рускія, немцы, карэйцы і інш., хочуць працвітання радзімы, спакойнай работы, свабоднага гандлю і празрыстых межаў з суседам. Але бачыць на вуліцах сваіх гарадоў і вёсак чужых салдат, жыць па чужым статуце ды яшчэ плаціць суседу падаткі — гэтага мала хто жадае. Хіба што за адчувальныя даброты далучэння да больш высокай цывілізацыі (як вырашыла дзяржава Пуэрта-Рыка, пажадаўшы ў 1952 годзе ўвайсці ў склад ЗША "на правах самакіравання"). Што ў складзе Расійскай Федэрацыі іх краіне жылося б лепш, многія думалі і ў Чачні. Але гэта было да вайны. Цяпер Каўказ убачыў такую Расію, да якой нельга далучацца. Ні на якіх умовах і ні пры якіх абставінах. Нельга далучацца да дзяржавы, якая тры гады настойліва гадуе злачыннасць у адной са сваіх абласцей, а затым раптам штурмуе гэтую вобласць усімі родамі Узброеных Сіл. Нельга далучацца да дзяржавы, якая замест таго, каб перад штурмам вывесці з зоны верагоднай вайны мірнае насельніцтва, лупіць па старых, жанчынах, дзецях артылерыяй усіх калібраў — і нават не лічыць іх у стратах. Нарэшце, нельга далучацца да дзяржавы, якая кідае на смерць неабучаных хлопчыкаў, а загінуўшых пакідае на з'ядзенне сабакам. Пакуль Расія такая (а па прэзідэнтах, міністрах і генералах мяркуюць пра ўсю краіну) — для чаго ж да яе далучацца? Каб самім звар'яцець?"

*(З артыкула Уладзіміра САКАЛОВА "Пастка з мёртвай хваткай", "Общая газета", N 6)*

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

На 127 мільярдаў рублёў выраслі ў студзені ўклады грамадзян Беларусі ў ашчадных банках краіны. Народ паверыў дзяржаве і, пакваціўшыся на высокі працэнт "росту" грошай, стаў даставаць іх з панчох і несці ў банкі. Самы момант чыноўнікам (выпампаваўшы грошы) знізіць гэты працэнт...

## ПУБЛІКАЦЫІ ТЫДНЯ

Некалі, у разгары "перабудовы", самым папулярным і чытэльным жанрам у тоўстых маскоўскіх часопісах ды газетах была публіцыстыка. Да нас, на жаль, гэтая мода не паспела дакаціцца. Мо таму, што так і не з'явіліся ў нас свае публіцысты, якія маглі б аператыўна асэнсаваць сучаснасць і цікава падаць яе чытачам. Прыгадваюцца толькі асобныя публікацыі асобных аўтараў. А зараз і зусім надышоў крызіс жанру: замоўк, патрапіўшы ў кіраўнікі прэзідэнцкай газеты, П.Якубовіч, рэдка выступае, заняўшыся арганізатарскімі справамі, А.Майсеня... Бадай, толькі Анатоль Казловіч радуе і цяпер нас цудоўнай публіцыстыкай. Вось і на мінулым тыдні ягоныя аўтабіяэкалагічныя прытчы "Беларусы паміж небам і зямлёй" у "Народнай газеце" (NN 17, 18 і 19) сталі самай адметнай публікацыяй. (Дарэчы, "Беларусы..." трымаюць цікаўнасць чытачоў да сябе ўжо на працягу некалькіх месяцаў.) Шчырасць і смеласць аўтара спалучаюцца ў прытчах з любоўю да сваёй роднай зямлі, да таго адзінага на планеце куточка, дзе жыве Беларусь...

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Дэпутаты Віцебскага аблсавета У.Скапа, Ю.Лаўрэнаў, В.Мурашкіна і інш. звярнуліся да Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі з адкрытым лістом у сувязі са становішчам, якое склалася з выкананнем Закона аб мовах у Беларусі. "Мы — не праціўнікі рускай мовы, не лічым яе замежнай, далёкай ад моўнай практыкі народа Беларусі, — пішуць дэпутаты. — Падтрымка дзяржаўнасці беларускай мовы пры поўных правах рускай і іншых моў на Беларусі не ёсць праява нацыяналізму, а ёсць жаданне не даць загінуць беларускай мове, культуры, нашаму народу. Мы, дэпутаты абласнога Савета, расцэньваем заявы некаторых палітычных сіл аб антырускай істэрыі на Беларусі, аб наступленні ў нас нацыяналізму не толькі як палітыканства, але і як палітычную правакацыю". Дэпутаты звярнуліся да прэзідэнта з прапановай: "не ствараць напружанасці ў грамадстве вакол моўнага пытання, адхіліць розныя прапановы аб рэферэндумах па такому далікатнаму пытанню".

## НАВІНА ТЫДНЯ

З 1 сакавіка г.г. будзе спынены выпуск у абарачэнне банкнотаў вартасцю 50 капеек, 1, 3 і 5 рублёў. Інфляцыя "з'ела" "вавёрку", "зайца", "бабра" і "ваўка", дабіраецца ўжо і да "зубра"...

## ЗНАХОДЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Гомельскія студэнты правялі акцыю пратэсту ў адказ на збор подпісаў за аднаўленне СССР, які ля ўваходу ва універмаг "Гомель" праводзяць мясцовыя камуністы. Ля таго ж універмага студэнты агітавалі прахожых падпісацца "за ўз'яднанне Рэспублікі Беларусь з Егіптам, народы якіх звязваюць тысячагадовыя братнія сувязі..."

# ГЭТА ПЫТАННЕ МАРАЛІ

## РЭПАРТАЖ З АДНОЙ ДЫСКУСІІ

*"Мова — кветка духоўнага жыцця".*
*К. УШЫНСКІ*

У Нацыянальным інстытуце адукацыі адбыўся навукова-практычны семінар, дзе з розных бакоў разглядалася праблема двухмоўя. За нейтральнай назвай — "Вывучэнне моў у беларускамоўнай пачатковай школе" — стаяла спадзяванне пэўных колаў унесці змены ў пачатковае навучанне: каб руская мова вывучалася з першага класа, а не з трэцяга, як зараз. Разуменне гэтага і падзяліла ўсіх прысутных — прадстаўнікоў Акадэміі навук, БДУ, педагагічнага універсітэта, Міністэрства адукацыі, грамадскіх аб'яднанняў — на два лагеры, дзе беларускі бок прадстаўлялі выключна мужчыны, а "апазіцыю" (то не ўмоўнае вызначэнне, а сутнаснае) — у асноўным дамы.

Перш-наперш была пушчана ў ход цяжкая артылерыя ў асобах прафесараў П. Шубы, Я. Каламінскага, Л. Мурынай, якія беззадносна да рэальнай моўнай сітуацыі даводзілі, што паралельнае вывучэнне моў спрыяе іх засваенню і ўвогуле развіццю дзіцяці. Л. Мурына спасылалася нават на **дарэвалюцыйную** (!) практыку вывучэння моў, і ўсе цытавалі К. Ушынскага.

Беларускі бок не горш ведаў працы выдатнага рускага педагога. Абарваныя цытаты былі прадоўжаны, аргументы паспяхова аспрэчаны. Менавіта К. Ушынскі ў свой час пераканаўча давёў, што другую мову пачынаюць вывучаць тады, калі першая ўкаранілася ў свядомасці дзіцяці.

Адзначалася спецыфіка ў засваенні і суіснаванні блізкароднасных моў. Прагучаў навуковы тэрмін "інтэрферэнцыя" — тое, што мы называем побытавым словам "трасянка". Аказваецца, нічога надзвычайнага або ганебнага ў гэтай з'яве няма, яна распаўсюджана ва ўсім свеце, і не варта з ёй змагацца. Як сказаў кіраўнік гарадской рады ТБМ М. Савіцкі, "гэта руская мова ў беларускім выкананні".

А. Рагуля зрабіў кароткі экскурс у гісторыю. Рускамоўны беларускі горад, або горад-біглот, за 200 год не стварыў узораў літаратуры — ні рускай, ні беларускай. Хіба то не аргумент супраць двухмоўя, супраць далейшага насаджэння рускай мовы? Відаць, некаторыя не хочуць пазбавіцца пачуцця ўяўнай перавагі...

У ходзе дыскусіі адны і тыя ж з'явы разглядаліся з розных пазіцый і, адпаведна, рабіліся супрацьлеглыя высновы. І тыя, і другія спасылаліся на сітуацыю: "Беларуская мова ўжо мае статус дзяржаўнай, ёй нічога не пагражае" — "Дзеці вырастаюць у рускамоўным асяроддзі, з рускай у нас ніякіх праблем няма".

І тыя, і другія папракалі апанентаў у кан'юнктуры: "Вы хочаце стварыць сабе палітычны імідж" — "Вы атрымалі зверху палітычны заказ і выконваеце яго".

"Размова ідзе не толькі аб мове, а аб культуры, духоўнасці, годнасці чалавечай, развіцці асобы", — падкрэсліў Б. Шабановіч, старшыня татарскай суполкі "Аль-Кітаб". Ён нагадаў аб законных правах нацыянальных меншасцяў, якія лічаць Беларусь сваёй радзімай.

Мы абмяркоўваем не палітычнае і не адукацыйнае пытанне, падкрэсліў дырэктар гімназіі У. Колас, — гэта пытанне маралі. І сапраўды (заўважу ад сябе): калі ў зале 40 працэнтаў людзей рускай нацыянальнасці, як некім было адзначана, то з боку гэтых 40 працэнтаў зноў заганяць у падпечак нашу "дзяржаўную" — проста амаральна.

Лагічна паўстае пытанне аб кадравым складзе беларускай педагагічнай навукі, аб узроўні свядомасці работнікаў сістэмы адукацыі.

Чым далей, тым больш накалялася атмасфера, успыхвалі прыватныя спрэчкі, народ кучкаваўся і выгаворваўся нават на перапынку. Масла ў агонь падлівалі прадстаўнікі БНФ і ТБМ. Абураныя іх нястрыманасцю ў абароне крэўнага, некаторыя з "апазіцыі" таксама пераставалі цырымоніцца:

— Принципиально буду говорить по-русски!

— Вы бы родителей послушали...

— Самые нелюбимые предметы у детей "б. г." и "б. м." (г. зн. беларуская гісторыя і мова).

Апошняе было патлумачана: віною наспех зробленыя, недасканалыя падручнікі. Дапаможнік для 4 кл. "Беларусь — мая радзіма" ацэнены як "папяровая работа": там цяжкія пытанні, на якія няма адказаў.

Да заўваг варта прыслухацца, нават калі яны і сказаны ў запале.

Запалу, страсці, непрымання было столькі, што існавала рэальная пагроза зрыву семінара. Ды хіба эмоцыі — падмога ў справах для сур'ёзных людзей? "Мітынговасць" — пройдзены этап для беларушчыны. Што і пацвердзіў сваімі паводзінамі В. Вячорка: ён хваляваўся, але не выгукнуў з месца ні слова.

Такая "тэмпература" гаворкі магла быць выклікана наступнай акалічнасцю: папярэдняе рашэнне наконт уводзення рускай мовы ў 1 класе па сутнасці ўжо прынята, пра неабходнасць яго яшчэ ў верасні мінулага года пісаў міністр Стражаў у "Настаўніцкай газеце". Многія ведалі і пра тое, што ў выдавецтва "Народная асвета" паступіла распараджэнне намесніка міністра Пятроўскага павялічыць тыраж рускамоўных буквароў. Цяпер жа патрабуецца падвесці пад адміністрацыйнае рашэнне навуковую глебу.

Адметнасцю дыскусіі было тое, што супраць беларускай мовы і яе дзяржаўнасці ніхто прама не выступаў. Але, мабыць, дзяржаўнасць разумелі па-свойму: няхай усё будзе як раней — калі адно дыктары і пісьменнікі размаўлялі па-беларуску, а ў школе родная мова вывучалася як прадмет.

З выключнай вытрымкай і тактам правёў бурнае пасяджэнне дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі **У. Валадзько.** Вось яго думкі адносна ўзнятых праблем:

— Аднаўленне нацыянальнай свядомасці — галоўны прыярытэт дзейнасці нашага інстытута. Пры гэтым важна не выклікаць адмоўнай рэакцыі, г. зн. улічваць псіхолага-педагагічныя аспекты. Зараз распрацоўваецца праект рэформы школы, і ў перспектыве школа ва ўсіх яе звеннях будзе працаваць на беларускай мове. Гэта стратэгічны накірунак, тут сумненняў быць не можа. Іншая справа — як перайсці да такога становішча. Мы якраз і перажываем пераходны перыяд.

Што тычыцца двухмоўя і той праблемы, якая абмяркоўвалася на семінары, то вучоны савет інстытута прыме па ёй спецыяльнае рашэнне. На маю асабістую думку, узаконены білінгвізм — пагібель для беларускай мовы. А без дзяржаўнай мовы няма дзяржавы.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# НАЦІСНУЎ КНОПКУ І...

## СУМНЫ ОДУМ ПАСЛЯ БРЫФІНГУ Ў МУС

Пра няспынны рост злачыннасці ў нас столькі пішуць і гавораць, што, дальбог, усё гэта, нават у крайніх сваіх праявах, перастала ўспрымацца як нешта неардынарнае (уласцівасць чалавечай псіхікі?)! І ўсё-такі адно з апошніх здарэнняў гэтага раду — напад на адной з цэнтральных вуліц сталіцы на вядомага ў краіне тэатральнага дзеяча, народнага артыста Расціслава Янкоўскага — прымусіла здрыгануцца: да чаго мы ўсё-такі дакаціліся...

Здарэнне гэтае мне ўспомнілася на брыфінгу, наладжаным для журналістаў Галоўным упраўленнем міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Успомнілася, як гэта ні кашчунна гучыць, нават у крыху іранічным плане. Іранічную ўсмешку не толькі ў мяне выклікаў аповяд начальніка аб'яднання "Ахова" падпалкоўніка міліцыі А. Шчурко, які, расказваючы пра поспехі падначаленай яму службы, не прамінуў абрадаваць прысутных тым, што надалей справы ў іх пойдуць яшчэ лацвей — набыта новая, самая сучасная камп'ютэрная апаратура, якая дазволіць удасканаліць сістэму сігналізацыі ва ўстановах, прадпрыемствах гандлю, кватэрах і г. д. У дадатак да ўсяго гэтага грамадзяне ў хуткім часе змогуць набываць спецыяльныя электронныя датчыкі, якія можна будзе насіць у кішэні. Пры пагрозе небяспекі ты націскаеш кнопку, і літаральна праз пару хвілін да цябе прымчыць нарад міліцыі...

Так што, каб быў у Расціслава Іванавіча Янкоўскага такі датчык!.. Праўда, з-за прыроджанага журналісцкага скепсісу падумалася, што і той звышсучасны датчык у нас не будзе спрацоўваць. Як не спрацоўвае прысутнасць на вуліцах Мінска 400 міліцыянераў, якія, паводле слоў намесніка міністра ўнутраных спраў Мікалая Крэчкі, што вёў брыфінг, кругласутачна "баражыруюць" горад (дарэчы, у час нападу на Р. Янкоўскага паблізу не аказалася ніводнага стража парадку).

Зрэшты, акрамя аптымістычнага паведамлення А. Шчурко, на брыфінгу прагучала мала чаго суцяшальнага. Пакуль што крыміногенная сітуацыя ў краіне, хоць па вызначэнні кіраўнікоў МУС яна "трымаецца пад кантролем" (вызначэнне гэтае стала ўжо штампам), прымушае жахацца. Мяркуйце самі: у 1994 годзе было зарэгістравана 120254 злачынствы, што на 16,4 працэнта больш, чым пазалетась. У тым жа леташнім годзе здзейснена 962 забойствы, 1784 чалавекі атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні, 672 жанчыны і дзяўчыны былі згвалтаваны. І яшчэ дзве красамоўныя лічбы: у мінулым годзе за правапарушэнні ў сферы грамадскага парадку да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута больш за паўтара мільёна чалавек. Для Беларусі з яе дзесяцімільённым насельніцтвам лічба, пагадзіцеся, гучыць пагражальна. І далей: сёння ў месцах зняволення знаходзіцца 50 тысяч асуджаных.

Як адзначалася на брыфінгу, адна з самых набалелых праблем — рост колькасці злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення. Менавіта такіх злачынстваў у мінулым годзе зарэгістравана больш як 20 тысяч. Практычна кожнае другое забойства здзейснена ў нецвярозым стане. П'янства моцна памаладзела: летась у медвыцвярэзніках пабыло 7 тысяч падлеткаў.

Пагражальныя памеры, адзначыў М. Крэчка, набывае рэцыдыўная злачыннасць. Каля 9 тысяч злачынстваў учынена людзьмі, якія ў свой час ужо адбывалі пакаранне. Сёння на ўліку ў органах унутраных спраў знаходзіцца 148 тысяч грамадзян, што мелі судзімасць. Сярод іх больш як 2 тысячы асабліва небяспечных рэцыдывістаў.

Злачынцы ўсё часцей выкарыстоўваюць агнястрэльную зброю. Летась з яе прымяненнем было ўчынена 551 злачынства — амаль удвая больш, чым у 1993 годзе.

## БЕЛАРУСЫ СВЕТУ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**У панядзелак, 20 лютага 1995 года адбудзецца нечарговы, 2-гі з'езд беларусаў свету. Мяркуецца, што ў час яго будуць унесены некаторыя папраўкі ў статут, а таксама разгледжаны актуальныя праблемы ўзаемаадносін дыяспары з Бацькаўшчынай. Дарэчы, гэтыя пытанні ўзнімаюцца ў артыкуле Яўгена Лецкі "Хто мы і куды ідзём?", надрукаваным у гэтым нумары "ЛіМа".**

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ЖАРСЦІ



19 лютага Нацыянальная купалаўская сцэна будзе распальваць, а купалаўская зала — прымаць на сябе "Страсці па Аўдзею" У. Бутрамеева. Гэтым лютаўскім разам, аднак, жарсці паводле галоўнага героя ахутаюцца, мовім прыгожа, вэлюмам асаблівага — бенефіснага хвалявання выканаўцы — Генадзя Аўсяннікава. І жарсці, і бенефіс, і гэтая лімаўская нататка-аб'ява прымеркаваны да юбілею знанага купалаўскага акцёра.

*На здымку: на чале стала — Аўдзей. У ягонай ролі — Генадзь Аўсяннікаў.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

## ГАНАРАВАНЫ ДЗЕЯЧЫ МАСТАЦТВА

Як паведаміла газета "Рэспубліка", прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў чарговы пакет указаў, якія тычацца дзеячаў культуры і мастацтва. Такім чынам, прыемныя навіны: прызнаны заслугі ў галіне культуры і мастацтва яшчэ некалькіх добра вядомых асоб. Сярод іх — знаны акцёр Расціслаў ЯНКОЎСКІ, узнагароджаны медалём Францішка Скарыны; мастацкі кіраўнік Акадэмічнага рускага тэатра імя М. Горкага Барыс ЛУЦЭНКА ды актрыса гэтага тэатра Бэла МАСУМЯН, адзначаныя званнем "народны артыст Беларусі". Артыст гэтага ж тэатра Эдуард ГАРАЧЫ ганараваны званнем заслужанага артыста. І яшчэ адзін новы заслужаны артыст з'явіўся ў рэспубліцы — Юры ПАЎЛІШЫН, які працуе ў балетным калектыве Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча.

Ганаровага звання "заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь" удастоеныя кампазітар Віктар ВОЙЦІК, мастак-жывапісец Пётр ДАНЕЛІЯ, намеснік дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Ірына ПАНЬШЫНА, харэограф Ларыса АЛЕКСЮТОВІЧ, прафесар Беларускай акадэміі музыкі Валянціна РАХЛЕНКА і дацэнт гэтай жа ўстановы Ганна ЗЕЛЯНКОВА.

Намеснік міністра выказаў думку, што наспеў час прыняць закон аб зброі, які б дазволіў усім грамадзянам набываць, пры захаванні пэўных умоў, агнястрэльную зброю ва ўласнае карыстанне — "каб кожны чалавек мог сябе абараніць". Думка далёка не бясспрэчная. Адразу ўспомнілася нядаўняя тэлеперадача, прысвечаная гэтай жа праблеме. На пытанне вядучага адзін з удзельнікаў перадачы, дарэчы, міліцэйскі генерал, адказаў, што ён катэгарычна супраць свабоднага продажу агнястрэльнай зброі. Чаму? "Таму што, — адказаў генерал, — усе перастраляюць адзін аднаго". "А як жа ў краінах Захаду?" — спыталі ў яго. "А ў краінах Захаду меней п'юць", — пачулася ў адказ. Коратка і ясна.

Былі на брыфінгу ўзняты і іншыя пытанні, звязаныя з крымінагеннай абстаноўкай у рэспубліцы. У прыватнасці, журналістаў цікавіла, ці не паўплывалі нейкім чынам на яе падзеі ў Чачні. Аказваецца, — не паўплывалі, калі не лічыць пэўнай колькасці бежанцаў адтуль, што апынуліся на тэрыторыі Беларусі без дазволу на гэта адпаведных органаў.

М. Крэчка катэгарычна выказаўся супраць удзелу ў навядзенні грамадскага парадку на вуліцах нашых гарадоў Беларускага згуртавання вайскоўцаў, хоць, заўважым, ухваліў удзел у гэтай справе арміі.

Адказваючы на пытанне аб тэрарыстычнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі, намеснік міністра сказаў, што летась органамі ўнутраных спраў было зафіксавана 167 сігналаў-папярэджанняў аб маючых адбыцца выбухах. У асноўным гэта тычылася школ. Усе сігналы былі правераны на месцах, але ніводнага разу выбуховыя рэчывы спецыялістамі знойдзены не былі. "Мы лічым, — заўважыў з усмешкай Мікалай Крэчка, — што аўтарамі тых "сігналаў" з'яўляюцца школьнікі, якім надакучыла хадзіць на заняткі і якія такім чынам робяць сабе палёгку. Некалькіх такіх "тэрарыстаў" мы знайшлі і строга папярэдзілі іх бацькоў".

У час брыфінгу прадстаўнікамі масмедыя было прад'яўлена нямала прэтэнзій начальніку Упраўлення пашпартна-візавай службы С. Стэсіку за вялізныя чэргі, якія даводзіцца выстойваць пры афармленні замежных пашпартоў, і наогул за фактычны зрыў вырабу і выдачы грамадзянам новых пашпартоў Рэспублікі Беларусь. Як і трэба было чакаць, у спадара Стэсіка на ўсё знайшліся аб'ектыўныя прычыны — не хапае сродкаў, няма спецыяльнага паліграфічнага абсталявання і да т. п.

Завяршыўся брыфінг узаемнымі пажаданнямі: міліцыі — хутчэй пералавіць усіх злачынцаў, а журналістам — лепш, а, галоўнае, больш "аб'ектыўна" асвятляць працу органаў правапарадку. Пакуль што, як можна было зразумець, органы гэтыя працай незадаволены. Пад заслону Мікалай Васільевіч Крэчка будучы, па яго словах, па першай сваёй адукацыі філолагам, агучыў спецыяльна падабраную ім да дадзенага моманту цытату з артыкула нейкага амерыканскага аўтара, артыкула, паводле якога ці не ўсё зло ў свеце — ад журналістаў. "Але асабіста я вас люблю і шаную", — абвясціў намеснік міністра. За што яму вялікі дзякуй.

Хоць за гэта...

**М. ЗАМСКІ**

*Набалела*

# АНТЫ-"БЕЛОРУССКАЯ НИВА"

Новая хваля зацятага змагання з усім беларускім захоплівае нашу краіну. І дарма, што краіна гэта завецца Беларусь. З дня ў дзень беларускаму ж народу ўбіваецца ў галаву думка аб тым, што ў яго не павінна быць нічога беларускага — ні мовы, ні гісторыі, ні культуры. Амаль кожную раніцу на дзяржаўным радыё даюць слова каму-небудзь з ваяўнічых змагароў за "возрождение отечества", пад якім вядома ж разумеюць зусім не Беларусь, а "великую Россию" ў рамках былога СССР. Ідэя аб'яднання з Расіяю зноў узнята над усімі нашымі праблемамі. Сёння ніводнаму цвярозаму палітыку ва ўсім свеце не магла б нават у страшным сне прысніцца думка аб аб'яднанні з краінаю, якая вядзе крывапралітную вайну са сваім народам і здзіўляе ўсё чалавецтва незвычайнай жорсткасцю, прымяняючы ў Чачні зброю, якая паўсюдна забаронена. Ці наш народ ужо забыўся, колькі жыццяў маладых беларускіх хлопцаў каштавала нам вайна ў Афганістане? Ці хочуць сёння беларускія маці пасылаць сваіх сыноў у Чачню ваяваць за імперскія інтарэсы Расіі?

А гэтыя рэаліі ўжо зноў вісяць над нашай галавою. У час візіту ў Мінск міністра замежных спраў Расіі А. Козырава адзін з прадстаўнікоў расійскай дэлегацыі выказаўся аб тым, што, маўляў, расійскія афіцэры ў Чачні пытаюцца, а чаму ж гэта мы адны тут ваюем, чаму нам не дапамагаюць братнія народы. Адным словам, Расіі зноў патрэбна "гарматнае мяса" ў абмен на так званую "таннейшую" нафту для Беларусі. Але кошт гэтай "таннейшай" нафты яшчэ значна вышэйшы, бо за ім стаіць страта незалежнасці нашай дзяржавы.

Наш усходні "старэйшы" брат сёння прыкладае намаганні, каб скасаваць нашу самастойнасць. Вядома ж, у Расіі свае інтарэсы, і гэта можна зразумець. Але ж якія інтарэсы кіруюць тымі, хто ў Беларусі спрыяе гэтаму? Чаму, скажам, газета "Белорусская нива" прадстаўляе сёння свае старонкі карэспандэнту расійскай газеты "Правда" Алегу Сцепаненку, каб аплёўваць нашу нацыянальную сімволіку ў артыкуле "Чужой рыцарь на гербе" (18.01.95)? Хіба ж нехта з нашых журналістаў дазволіў сабе ўмяшацца ва ўнутраныя справы Расіі і выказаць сваё незадавальненне тым, што гэтая краіна аднавіла свой ранейшы сцяг і герб, пад якімі было праліта нямала бязвіннай крыві і пад якімі фарміравалася Расійская імперыя шляхам захопу іншых народаў, у тым ліку і беларускага? Здзіўляе, што ніякія дзяржаўныя органы, якія павінны абараняць нашу Канстытуцыю і інтарэсы Беларускай дзяржавы, ніяк не рэагавалі на падобную публікацыю журналіста замежнай газеты, не паставілі пытанне аб яго далейшай працы ў Беларусі ў якасці карэспандэнта гэтай газеты. Думаю, што ні адна краіна не пацярпела б такога. У нас жа ўсё магчыма.

А "Белорусская нива", тым часам, мае магчымасць і далей настройваць сваіх чытачоў супроць беларускасці. На свае заробленыя цяжкаю працаю на зямлі грошы беларускія сяляне выпісваюць гэтую газету, а яна прыносіць ім у хату непавагу да іх Бацькаўшчыны, да зямлі, да іх продкаў, да роднага слова.

Барацьбу з беларушчынаю гэта газета распачала з першых дзён новага года. У пачатку студзеня (5.01.95) на яе старонках быў змешчаны вялізны артыкул "Белорусы со свастикой", падпісаны рэдактарам аддзела грамадска-палітычнага жыцця гэтай газеты Ігарам Акшэўскім. Зноў аплёўваецца беларуская эміграцыя. З зацятаю ўпартасцю аўтар прадаўжае шукаць ворагаў сярод тых нашых суродзічаў, хто апынуўся на чужыне ў сувязі з ваеннымі падзеямі.

Як вядома, у час другой сусветнай вайны многія беларусы былі адарваны ад роднага дому і параскіданы па свеце. Розныя былі іх шляхі і лёсы. Шмат пісалася пра гэта ў апошні час. Здаецца, усім стала зразумела, што гэта не ворагі і не здраднікі, як раней малявала іх савецкая прапаганда, а звычайныя людзі, якія сумуюць па сваёй радзіме, якія захавалі сваю мову і культуру і якія сёння хвалююцца за лёс Беларусі, стараюцца чым могуць дапамагчы нам. Мне давялося пабываць амаль ва ўсіх беларускіх асяродках па-за межамі Беларусі. І ўсюды я сустракала адкрытых і сардэчных людзей, са шчыраю прыхільнасцю да сваёй радзімы. Разам з прэзідэнтам нашай арганізацыі сп. Радзімам Гарэцкім, мы былі летась і на сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбылася ў Канадзе, у г. Таронта, у верасні. Такія сустрэчы праходзяць раз у два гады ў розных гарадах ЗША і Канады, гэтая сустрэча была 21-я. На ёй вялася гаворка як аб праблемах беларускай эміграцыі ў Амерыцы, так і аб становішчы Беларусі. Удзельнікі сустрэчы прынялі Зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, дзе было выказана вітанне з нагоды яго абрання на гэтую высокую пасаду і спадзяванне на тое, што ён будзе і надалей умацоўваць беларускую дзяржаву. У цэлым гэта было спатканне людзей, якія жывуць інтарэсамі Беларусі і для якіх лёс іх Бацькаўшчыны заўсёды стаіць на першым плане. Інфармацыя пра гэту вельмі значную падзею была ў беларускім друку. Цікавы матэрыял вядомага фотамайстра А. Клешчука, таксама ўдзельніка сустрэчы, быў надрукаваны ў газеце "Звязда", 10.11.94. Менавіта гэта публікацыя і паслужыла повадам для нападак на старонках "Белорусской нивы" як на артыкул, так і на саму газету "Звязда". І. Акшэўскі выказвае сваё незадавальненне і фактам сустрэчы і прысутнасцю на ёй прадстаўнікоў ад грамадскіх арганізацый з Беларусі — БНФ, "Бацькаўшчыны", дэпутата ад апазіцыі. Але найбольшае абурэнне аўтара выклікала тое, што "Звязда" змясціла фотаздымкі ўдзельнікаў і арганізатараў сустрэчы, беларускіх эмігрантаў з Канады — Міколы Ганько і Барыса Рагулі. Як і ў былыя савецкія часы аўтар памфлета прадаўжае называць нашых замежных суайчыннікаў "беларусамі са свастыкай" і выкарыстоўвае ўвесь арсенал былой савецкай прапаганды. Не адзін раз у падобных публікацыях ужо скарыстана гэта вядомая падтасоўка фактаў з братамі Ганько. Мікола Ганько, які зараз жыве ў Канадзе, гэта зусім не той Міхась Ганько, які ўзначальваў у час вайны Саюз беларускай моладзі. Выклікае недаўменне, што газета прыводзіць вытрымкі з дакументаў, у пошуку якіх дапамагаў аўтару начальнік аддзела па наглядзе за выкананнем законаў аб нацыянальнай бяспецы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь сп. І. Сухаверх, за што яму выказана гарачая падзяка. Такіх дакументаў, якія прыведзены ў газеце, у дачыненні да Міколы Ганько не існуе, гэтыя дакументы могуць тычыцца толькі Міхася Ганько, і пра гэта сп. Сухаверх не можа не ведаць. Відавочна, што тут можна гаварыць толькі пра грубую падтасоўку фактаў. Мікола Ганько ў час вайны быў падлеткам і не мог быць такім злачынцам, як гэта напісана ў артыкуле. У яго таксама быў свой лёс і свой шлях на эміграцыю. А Міхась Ганько, як вядома, загінуў у канцы вайны.

Што тычыцца асобы Б. Рагулі, то, здаецца, тут даўно ўжо наспела пытанне аб тым, каб у рэшце рэшт вызначыць сапраўдную ролю тых беларусаў, якія найперш думалі ў час ваенных падзей пра лёс свайго народа, што апынуўся ў цэнтры змагання за сусветнае панаванне дзвюх дзяржаў і які стаў ахвяраю, страціўшы кожнага чацвёртага. Б. Рагуля і многія іншыя беларускія дзеячы ў час вайны не выбралі для сябе ні Гітлера, ні Сталіна, а мелі сваю пазіцыю, стварыўшы ў падполлі Незалежніцкую партыю, што мела на ўвазе дабівацца ў тых умовах адстойвання незалежнасці Беларусі і захавання жыцця яе народа ў той час, калі гэта не цікавіла, па сутнасці, ні адзін з ваюючых на нашай тэрыторыі бакоў. Партыя гэта была знішчана гітлераўцамі. Як гісторык, я магу сказаць, што сапраўдная гісторыя вайны, якой яна была для нас, беларусаў, яшчэ цалкам не напісана. Але з таго, што ўжо вядома зараз, відавочна, што нельга сёння так адназначна кляйміць і аплёўваць людзей, якія таго не заслугоўваюць. Рабіць гэта могуць толькі тыя, каму трэба зноў адрадзіць варожасць паміж той часткаю беларускага народа, што жыве на Бацькаўшчыне, і тымі, каго лёс закінуў на чужыну. Так было доўгія гады, калі беларусы з замежжа нават не маглі наведаць сваіх родных на радзіме, не бачыліся з імі дзесяцігоддзямі, і мы не маглі выязджаць да іх, дапамагаць ім усталёўваць кантакты з той краінаю, адкуль яны родам і дзе іх карані. Гэта былі антычалавечыя, антыгуманныя адносіны. Усе цывілізаваныя краіны ў свеце апякуюць сваіх суродзічаў у замежжы, а ў нас робяць іх ворагамі. Некаму хочацца сёння раз'яднаць сусветную беларускую супольнасць, якая ўжо стварылася на Першым з'ездзе беларусаў свету, што адбыўся ў Мінску ў 1993 годзе. Гэтая супольнасць ужо існуе, жыве і дзейнічае дзеля таго, каб наша краіна адбудоўвалася як незалежная дзяржава, каб у ёй утульна жылося кожнаму чалавеку, незалежна ад яго нацыянальнасці. Грамадская арганізацыя Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" якраз і працуе, каб аб'ядноўваць усіх беларусаў, дзе б яны ні жылі. Таму і нам дасталося ў артыкуле І. Акшэўскага. Ён упікнуў нас у тым, што нашы прадстаўнікі прысутнічаюць на сустрэчах за акіянам і што наша "политическая ориентация достаточно хорошо известна". Аўтар мае рацыю ў тым, што пра нашу арганізацыю і яе дэмакратычную скіраванасць вядома як у Беларусі, так і ў замежжы. Але за нашымі справамі стаіць інтарэс яднання беларускай нацыі ў такі нялёгкі час. Мы хочам, каб Беларусь была добрай, клапатлівай маці для ўсіх яе сыноў і дачок, што жывуць у розных кутках свету. І мэта гэта ўяўляецца нам дастойнаю, каб працаваць дзеля яе. Мы не шукаем ворагаў, а стараемся знайсці шлях для прымірэння, дзеля лепшай будучыні на нашай зямлі.

Больш за ўсё абурае ў артыкуле І. Акшэўскага тое, што ён арыентаваны на прапагандысцкую падрыхтоўку пэўнай накіраванасці да святкавання 50-годдзя Перамогі над фашызмам. Аўтар спрабуе супрацьпаставіць людзей з розным лёсам, у якім яны самі ў большасці не вінаваты, бо не заўсёды жорсткія ўмовы вайны пакідалі магчымасць выбару для чалавека. Вайна была трагедыяю для ўсіх беларусаў. Няма ў нас чалавека, які не быў бы апалены яе полымем. Жорстка абышлася вайна і з маімі бацькамі, з-за баявых ранаў недажыў да гэтага свята і мой бацька. Таму я думаю, што мы павінны зараз адсвяткаваць 50-годдзе, як сапраўдную, вельмі значную дату для Беларусі, якая спыніла тады крывавую віхуру на нашай зямлі і ў якой не было ніякай нашай віны, але менавіта нам дасталося найбольш гора і страт. Трэба ўшанаваць належным чынам памяць тых, хто загінуў, успомніць і падтрымаць тых сучаснікаў вайны, хто дажыў да сённяшняга дня, але не дачакаўся лепшага жыцця і ўзнагароды за свае пакуты і за сваю мужнасць.

А "Белорусская нива" магла б сёння ўдзяліць больш увагі на сваіх старонках сапраўды гаротнаму становішчу, у якім сёння апынулася беларуская вёска і яе жыхары, што калісьці вынеслі на сваіх плячах і цяжар вайны, і пасляваенную разруху, хто хадзіў з асколкамі і ранамі за плугам (як мой бацька), касіў і малаціў, а атрымліваў за гэта капейкі і сёння вымушаны жыць у жабрацтве. А тым часам газета ўзяла накірунак змагацца з нацыянальнай свядомасцю народа, вышукваць сярод яго ворагаў і аплёўваць яго гістарычныя сімвалы. Дык ці мае маральнае права яна насіць такую назву і прадстаўляць найбольш свядомую частку нашага народа — сялянства, якое спрадвеку было і застаецца носьбітам беларускасці? Як выхадцу з вёскі, мне добра вядома, што не на расійскай мове размаўляюць людзі ў беларускіх сёлах і зусім не родная для іх тая мова, на якой выдаецца газета. І. Акшэўскі называе здраднікамі некаторых беларускіх эмігрантаў, абвінавачвае іх у тым, што яны ў вайну змагаліся супроць свайго народа. Гісторыя ўсё расставіць па сваіх месцах. На маю думку, сп. Акшэўскі (разам з газетаю) сам мае больш рэальныя шансы ў будучым быць залічаным да тых, хто не спрыяў свайму народу ў вызначаны для яго час змагання за незалежнасць і выжыванне.

**Ганна СУРМАЧ**

Пошта

# "НЕ ПАМНАЖАЙЦЕ ЁЙ ВОРАГАЎ..."

***Ліст У. Паўлава пад такою назвай, змешчаны ў "ЛіМе" за 20 студзеня г.г., нечакана выклікаў досыць шырокі розгалас. Праўда, водгукі чытачоў, так бы мовіць, неадназначныя. Большасць чытачоў лічыць, што пытанне рэформы нашага правапісу ўсё ж наспела, што рэформа 1933 года, якая, на іх думку, мела выразны палітычны характар, прынесла нашай мове немалую шкоду, што трэба вярнуць у мову тое, што ёю, рэформаю, было бяздумна, неабгрунтавана адкінута.***

***Змяшчаем некалькі чытацкіх водгукаў на згаданую лімаўскую публікацыю.***

## УЗБАГАЧАЙМА НАШУ МОВУ

У сваім пісьме пад назвай "Не памнажайце ёй ворагаў" ("ЛіМ", 1995, N 3) У. Паўлаў закрануў пытанні аб "тарашкевіцы" і аб колькіх словах у нашай мове. Наконт першага ўжо шмат пісалася ў прэсе. Асабіста я перакананы, што многае з таго правапісу неабходна вярнуць, каб не памыляліся каментатары, спевакі, акцёры ў вымаўленні слоў. Але не буду спрачацца з аўтарам аб "тарашкевіцы". Мяне здзівіла іншае. У. Паўлаў палічыў словы **мовіць і выстава** небеларускімі, звяртаючыся да польскага слоўніка. Але навошта спасылацца на польскую мову? Возьмем "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" В. Ластоўскага (Коўна, 1924). Чытаем: "молвить-што, мовіць, мовіцца, моўны". У "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча дзеяслоў **мовіць** перакладаецца на расійскую як **говорить, молвить.** Звернемся да "Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" ў пяці тамах. У трэцім томе (Мн., 1982) чытаем: "мовіць незак. І. У выразе: мовіць пацяры, малітву — маліцца. Наш дзет мовіў пацяры. Груздава Паст. Даўней малітвы мовілі. Паўнача думала назат ісці, пацяры, якія ўмела, мовіла. Кураполле Паст. Пацеры мовіць. Чычалі Швянч. 2. Гаварыць. Яна ёй мовіць: "Соль у вочы, галавешка ў зубы, рох памыш нох!" Ёдлавічы Брасл.; параўн. польск. mówić. Як бачым, тут таксама прыводзіцца параўнанне з польскім словам, але тэрыторыя, з якой бралі вышэйпрыведзеныя прыклады, не з'яўляецца польска-беларускім памежжам. Цікава, што ў першым томе "Русско-белорусского словаря" (Мн., 1982) расійскі дзеяслоў **молвить**, які тут мае незакончанае трыванне, перакладаецца ў форме закончанага трывання: сказаць, прамовіць. У незакончаным было б **мовіць, прамаўляць.** Такім чынам, мы маем дастатковыя падставы лічыць дзеяслоў **мовіць** беларускім. Відавочна, што ён звязаны з назоўнікам **мова.** І не трэба блытаць дзеясловы **гаварыць** і **мовіць.** Са сказанага вышэй бачна, што часам слова **мовіць** ужываецца ў значэнні "гаварыць", але часцей за ўсё яно мае сваё семантычнае адценне.

Цяпер аб назоўніку **выстава.** Параўноўваючы яго з польскім адпаведнікам, сп. Паўлаў адзначае: "Там слова "wystawa" трактуецца як: "выстаўка", "вітрына", "афармленне спектакля". Так што выстаўку трэба і называць выстаўкай..." Цікавая высноВа! Але можна звярнуцца і да чэшскай мовы, дзе ўжываецца і výstava і vystavka. Праўда, апошні назоўнік мае значэнне "невялікая выстаўка". Няма назоўніка "выстава" ў слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча. В. Ластоўскі падае ў сваім слоўніку назоўнікі **выстаўка** і **спаказ.** Але возьмем першы том вышэйпамянёнага "Слоўніка беларускіх гаворак..." (Мн., 1979). Чытаем: "Выстава ж. Выстаўка. Ён меў жарабца, на выставу ездзіў. Ён агяроў дзяржаў, на выставу ездзіў часта. Гемзы Шальч". Што вынікае са сказанага вышэй? Па-першае: назоўнік **выстава** ўжываецца не толькі ў польскай мове; па-другое: ён захаваўся ў дыялектах беларускай мовы; па-трэцяе: ён мае двухварыянтнасць у націску: **выстава, выстава.** На мой погляд, апошні варыянт гучыць лепш. Як і дзеяслоў **мовіць,** гэтак і назоўнік "выстава" ўжываецца беларускай інтэлігенцыяй. Мова знаходзіцца ў няспынным удасканаленні і развіцці. Вярнуліся ў афіцыйны ўжытак словы: **хвіліна** (у значэнні "мера часу"), **гарбата, мытня.** Ужо пачынаюць зноў ужываць слова **травень** (май). Наогул, кожны чалавек — частка народа, які мае права ствараць і новае слова, калі гэта неабходна. Не могуць два чалавекі аднасчасна прыдумаць адно слова. Меў жа права У. Дубоўка стварыць слова **адлюстраванне.** Думаю, што інтэлігенцыя калі-небудзь разбярэцца і з'явіцца сапраўдны беларускі слоўнік, у якім больш не будзе такіх слоў, як **буквар, рабяты, чарчэнне, савет, яўрэй.** Шмат блытаніны ўнесла слова **рускі** ў значэнні "велікарускі", "велікарус". **Рускі** — прыметнік ад назоўніка **Русь.** Такім чынам, гэта была агульная назва ўсіходніх славянаў — беларусаў (ліцвінаў), маларусаў (украінцаў) і вялікарусаў (расіянаў). Вялікарусы самі ўзялі сабе слова **рускі,** як саманазву, гэта іх права. На нашай мове павінна быць: **расійская мова, расіянін.**

Не трэба баяцца, што з'явіцца больш ворагаў у беларускай мове. Іх будзе больш, калі яна стане беднай, асіміляванай. Гэтак і сп. Паўлаў піша: "Наша мова багатая, але не настолькі, каб пазбавіцца хоць і аднаго слова". Калі так, дык не трэба забывацца на беларускія словы. Іх трэба вяртаць. Таму хачу сказаць: узбагачайма беларускую мову!

**Генадзь КАЖАМЯКІН**

*г. Мінск*

## ЦІ ТРЭБА СЁННЯ СТРЫГЧЫ ГАЛАВУ, ЯКУЮ ЗАЎТРА АДСЯКУЦЬ?

Хацелася б, каб аўтары, тыя, хто ставяць чысціню мовы наперадзе яе жыцця, не былі катэгарычнымі і як мага меней спасылаліся на прыклады. Сёння ўжо і не так важна напісаць **сьнег** ці **снег.** Справа сталася так, што з усіх бакоў шалёна, далікатна, адкрыта, таемна, а сёння ўжо з кулакамі вядзецца наступ не толькі на мову, а і на чалавека, які гаворыць роднай мовай.

Вось пра што трэба гаварыць, крычаць, паўтараць: пра мора памылак, недарэчнасцяў, прыніжэнняў, русізмаў, ігнаравання роднай мовы ва ўгоду чужаземнай у дзяржаўных газетах, радыё, тэлебачанні! Па вымаўленні і моўных памылках і неспецыялісту відаць, што беларускасць у іх фальшывая, старающа яны толькі перад тэлекамерай і мікрафонам. Крок убок — і з беларускасці можна здзекавацца.

Пра бруд, здзекі, абразы, крыўлянне з нашае мовы з боку ворагаў беларушчыны і ў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ. Пра тое, што Міністэрства адукацыі ўводзіць рускую мову ў школе з першага класа! А камітэты бацькоўскія (і небацькоўскія) супраць беларускай мовы, пачуўшы падтрымку прэзідэнта краіны, выйшлі на плошчы! Пра тое, што ў многіх школах, дзе летась дзетак вучылі па-беларуску, сёння беларускай мовы няма!

Поўнае ігнараванне дзяржаўнай мовы дзяржаўнымі дзеячамі і з'едлівае выкарыстанне дзяржаўнай мовы прэзідэнтам у палеміцы, каб прынізіць мову! Прэзідэнт Беларусі: "На гэтай мове нельга выказваць высокія думкі!"

І, нарэшце, дапаўзлі. У Мінску, у цэнтры, сярод белага дня нейкі СС-авец лаянкай і пагрозамі прымусіў жанчыну адрачыся ад роднай мовы і гаварыць толькі па-расійску. У прысутнасці маленькага сына. Спярша фашызм у тэорыі, далей фашызм у дзеянні. Факт пра гэта прачытаў таксама у тым жа нумары "ЛіМа", дзе спадар сакратар СПБ крытыкуе нябожчыцу "Маладзёжную" за **сьнег** і **сьмятану.**

І гэта ж далёка не ўсё. Але ўсе пазіраюць адзін на аднаго і маўчаць. Дык крычыце ж! Бо як будзем маўчаць, то і крычаць прыйдзецца (хто дажыве) на чужой мове!

**У. РЫСЯВЕЦ**

*г. Мінск*

## "ГЭТА ГОРДАЕ СЛОВА — "ТАВАРЫШ" — ЦІ ТРЭБА ЯГО АБАРАНЯЦЬ?

Мне незразумела, хто збіраецца выкідваць з беларускай мовы асобныя словы. Ды ці можна гэта зрабіць? Мова, як і чалавек, — жывая. І кожнае слова, як кожны інструмент у майстра, займае ў мове адпаведнае месца, адпаведную ячэйку. Словам, як і інструментам, людзі карыстаюцца, калі ў гэтым ёсць патрэба.

Слова "таварыш" — прыгожае, цёплае. Яно нібы збліжае людзей. Як сцвярджаюць лінгвісты, у рускай мове яно ўжываецца з даўніх часоў. І Пушкін не мог не скарыстаць яго ў сваёй творчасці. Але нават у рускай мове яно ўжывалася не часта.

А бальшавікі зрабілі яго прымусовай формай афіцыйнага звароту не толькі сяброў па барацьбе, але і паміж усімі людзьмі ўсяго Саюза. Гэтым яны значна збяднілі і рускую і іншыя мовы, бо да рэвалюцыі і ў рускіх, і ў іншых народаў было шмат слоў для гэтага. І ўжываліся яны ў адпаведных выпадках. Бальшавікі вывелі іх з ужытку, нават зганьбілі іх. Нават такое слова, як грамадзянін (гражданин), ужывалася толькі ў двух выпадках: на даведках — "Выдана грамадзяніну" і пры звароце зэкаў да начальства, бо "брянский волк тебе — товарищ". І яно было нейкім ніжэйшым, чым слова "таварыш".

У беларускай гаворцы слова "таварыш" таксама не надта прыжылося. Зразумела, яно гучала па радыё, на канферэнцыях, на сходах. Але ні адзін калгаснік нават да брыгадзіра, не кажучы ўжо аб старшыні калгаса, не звяртаўся са словам таварыш, а казаў: Васільевіч, Іванавіч, Сцяпанавіч.

Дык, можа, не трэба крывадушша, гвалтавання нашай мовы? Кожнае слова ў ёй, як нітка ў прыгожым дыване, павінна займаць адпаведнае месца, тады і дыван будзе прыгожым. І аб гэтым павінны дбаць усе мы і, у першую чаргу, пісьменнікі. А калі каму хочацца ўжываць любое слова ў сваім лексіконе, ужывайце, калі ласка.

**І. ФУРСЕВІЧ**

*г. Докшыцы*

## ВЫСТАВА З ЯПОНІІ



**Выстава японскіх лялек працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Яна арганізавана па ініцыятыве пасольства гэтай усходняй краіны. У экспазіцыі — больш за сем дзесяткаў фігурак традыцыйнай японскай лялькі. Гэтае старажытнае мастацтва бярэ пачатак у III стагоддзі да нашай эры і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Вясной у Японіі наладжваюцца вялікія выставы лялек.**



*На здымках: за аглядам экспазіцыі; экспанаты выставы.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

## У ДОМЕ КОЛАСА — ФЛАРЫСТЫКА



**Напрыканцы студзеня ў мемарыяльным доме-музеі Якуба Коласа гасцінна расчыніла дзверы новая выстава. Тэматычна яна звязана з творчасцю паэта і нават мае назву "Мой родны кут". Але прадстаўленыя на ёй работы не зусім укладваюцца ў межы традыцыйнага мастацтва — яны выкананы з засушаных пялёсткаў кветак, сцяблінак, лістоў.**

**Фларыстыка,так называецца гэты від мастацтва, нідзе, мабыць, акрамя Японіі, афіцыйна не прызнаны і не вывучаны. Таму і прафесіяналаў амаль няма, толькі аматары. Але Дзіну Шымук — аўтара гэтай калекцыі партрэтаў і пейзажаў — да аматараў ніяк не прылічыш. Яна ў сваёй справе знаны прафесіянал. Яе творы экспанаваліся ў СНД і далёка за яго межамі! — у Францыі, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі.**

**З ласкі аўтара карціны можна набыць. Хоць каштуюць яны далёка не танна, жадаючых мець ва ўласнай калекцыі маленькія шэдэўры шмат.**

**Ёсць у Дзіны Мікалаеўны і свой "залаты" фонд — партрэты Ганны Ахматавай, Наталі (зборны вобраз пушкінскіх прыгажунь), трыпціх пейзажаў "Куток майго дзяцінства".**

**Спяшайцеся пабачыць выставу, бо працуе яна толькі да канца лютага. Адрас музея Я. Коласа: пр. Ф. Скарыны, 66-А.**

**Г. ЗАЙЦАВА**

*Падчас адкрыцця выставы (у цэнтры — Дзіна Шымук).*

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

# РАЗЛОМ

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

ПАЛІТЫЧНЫЯ МЕДЫТАЦЫІ

*О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні*
*Такі разлом, туга такая!*
*...І баюць байкі баюны*
*Северо-западного края.*

*Алесь ДУДАР. 1928 г.*

## I

Северо-западный край... Для кагосьці гэты паўзабыты набор лексем гучыць светлым і радасным гімнам, як і абрэвіятура "СССР", для каго — злавесным напамінам пра нядаўняе мінулае. Мы яшчэ ў адной цэльнай масе так і не ўсвядомілі, хто мы і як завецца край, у якім мы жывём. Што ж гэта за такая дзіўная субстанцыя — народ, ад імя якога так апантана, захлынаючыся, "вещают" рускамоўныя баюны? Можа, і праўда няма ніякага беларускага народа, нацыі, а ёсць толькі асобныя суб'екты, якія імкнуцца ацалець любым коштам? Можа, пара нам адысці ад звыклых стэрэатыпаў, перастаць апеляваць у экзальтаваным экстазе да нейкай усярэдненай масы, неакрэсленай і глухой да нашых страсных заклікаў? Можа, і сапраўды замест непадзельнага, цэльнага народа ёсць кангламерат аб'яднаных матэрыяльнымі інтарэсамі суб'ектаў, які называецца сёння модным словам "электарат"? Як бы там ні было, пераважае ў нас усё-ткі электарат калабарацыяністкі, які верыў і працягвае верыць у элементарныя, па-бальшавіцку простыя рэцэпты выйсця з крызісу. "Нашы дні", пра якія пісаў Алесь Дудар, нейкім дзіўным чынам расцягнуліся ў часе, сталі статычнай велічынёю, абсалютам, які ў любым часавым кантэксце захоўвае свае нязменныя рысы і якасці.

## II

**Наш лес здаваўся ціхім і знямелым,**
**І твар ягоны — сонным і маркотным...**
**Ён вёў нас за сабой — натоўп дрымотны,**
**І шлях наш быў зусім незразумелым...**

Цяжка зразумець сёння, куды ж "перамяшчаемся" ў гэтым самым зменлівым часе, "куды ж нясуць гэту крыўду ўсю" шматпакутныя насельнікі нашай зямлі. І ці ёсць такія лідэры, якія могуць знайсці той, адзіна верны кірунак?

Аказваецца, ёсць. Свята месца, як кажуць, пуста не бывае! З'явіліся-такі ў нас "вожди", якія дакладна ведаюць, куды і навошта трэба ісці. Гэтыя нашыя новыя "бацькі" (ці айчымы, бо быў ужо ў нас адзін бацька — Францавіч), здаецца, не маюць ніякіх сумненняў адносна нашай будучыні, проста і даходліва прадэклараваўшы на ўвесь свет свае на гэты конт удумлівыя погляды. Нас "рассоединенных", цяпер збіраюцца "воссоединять". Праўда, у апошні час імпэт такіх выказванняў неяк сцішыўся, але, па ўсім відаць, да часу.

Мы ўжо змаглі ў пэўнай меры ацаніць, што новыя "вожди" — людзі чуллівыя і спагадлівыя, могуць нават і слязу пусціць. Ну чым яшчэ, як не бацькоўскай спагадай і кранальным клопатам пра наш дабрабыт, можна растлумачыць рашучае і пастаяннае павышэнне цэнаў, у той час, як наша бюджэтнае "пособие" замарожваецца, і прыходзіцца яшчэ на пару дзірачак зацягваць свае паясы-папругі? Чым, як не сардэчным клопатам пра нашых дзетак, можна растлумачыць далікатныя намёкі-абяцанні арганізаваць для іх зімою загартоўваючы рэжым?

Ну ніяк мы не хочам ацаніць той высокі "давер", які нам аказваюць — самім выцягваць Беларусь з глыбокай маральна-эканамічнай багны! Не будуць жа ў такой справе браць удзел людзі паважаныя і ўплывовыя. У іх праблем і так хапае — трэба дабудаваць, давесці да толку сваю будучую "нерухомасць". Ды яшчэ (страшна падумаць!) трэба пастаянна трымаць у галаве, дзе, у якіх банках і краінах "нястомнай" працай зробленыя грошыкі-долары параскіданы. Але, як кажуць, бог ім суддзя... Галоўнае, што бедным браткам-беларусам ды і ўсяму "русскоязычному населению" прыйдзецца рыхтавацца да масіраванай аздараўляльнай дыеты. Вучыцца жыць (выжываць) у новых умовах, якія нам арганізавалі старыя і новыя "бацькі" і "айчымы", давядзецца "настоящим образом"...

## III

Але значна лягчэй становіцца на сэрцы, калі паглядзець на нашыя праблемы па-філасофску і ўспомніць, што "ўсе мы разам ляцім да зор". Няпроста, канешне, настройвацца сёння на выратавальную "медытацыю", калі з галавы не ідуць надакучлівыя як смала штодзённыя пытанні жыцця (выжывання, існавання?). Але ўсё ж давайце-такі трошкі "памедытуем". Наша блізкасць да Космасу сёння абсалютна бясспрэчная, бо жывём мы ва ўмовах, вельмі падобных да касмічных. Усё паступова становіцца адносным, былыя — здавалася, непарушныя — ідэалы знікаюць як прыблудныя каметы. А тут яшчэ сабачы холад на вуліцы... У такім небяспечным стане прастрацыі застаецца толькі адно — выратавальны Космас са шматабяцаючым размеркаваннем зорак і планет.

У дадзеным выпадку зоркі і планеты — гэта зусім не якія-небудзь легкадумныя метафары замерзлых і зґалелых нашых паэтаў, а дакладныя паказальнікі ў вірлівым і нестабільным свеце. Таму, відаць, самая папулярная сёння калонка ў газетах: "Хочаце верце — хочаце не!" І мы, канешне, "хочам" — і верым. Бо веруючым лягчэй і зручней. Такім вось чынам перажываем без асаблівых наступстваў і звар'яцелыя цэны, і шматлікія палітычныя пертурбацыі наверсе, ігнаруючы ўсю эканоміку з палітыкай разам. Паколькі "Эканамікс" нам яўна не па зубах, то выжываем мы ў вялікай большасці сваёй даволі нескладана — у каго родныя ці сваякі ў вёсцы засталіся з бульбай і нават салам, каго "дача" ратуе, а хто і проста эканоміць на дробязях... І ўсе пагалоўна вывучаем астралагічныя прагнозы. Бо зоркі — яны вам не кебічы з лукашэнкамі, і калі гавораць і абяцаюць, то ўсё бадай што збываецца!..

## IV

Так, усё вельмі адносна і часова. Мы ўсе часовыя, наша жыццё да смешнага кароткае. Але ёсць катэгорыі вечныя і пастаянныя. Сумленне, мараль, духоўнасць, інтэлект. Сёння, напрыклад, інтэлект нашай нацыі настолькі прыніжаны і зняважаны, што нагадвае нейкі дэкаратыўны, нікому нецікавы і непатрэбны скульптурны партрэт-сімвал, на твары якога значная і важная маска засяроджанага мысляра, а пад маскай — халодная бронза, а то і яшчэ горш — крохкі гіпс... Усе, хто мог **прадаць** (хай даруюць мне за гэта слова!) свой розум, ужо прадалі яго і прадаліся самі, як кажуць не вельмі мілагучна ў народзе, "з вантробамі". А тыя, каго не запатрабавалі (не купілі!), маюць, мякка кажучы, смешнаваты выгляд. Ну каму сёння, выключаючы прыдворныя прыхамаці вялікіх бонзаў, патрэбны таленавітыя гісторыкі, мастакі, літаратары, філосафы (акрамя, канешне, марксісцка-ленінскіх), музыканты?.. Таму і жывуць носьбіты нашага інтэлекту ва ўмовах, якія мала нагадваюць цывілізаваныя. Але, адзначым, церпяць. Церпяць і згаджаюцца жыць на такіх умовах далей, тым самым адсоўваючы сябе за межы цывілізаванага існавання.

Інфляцыя інтэлекту, услед за інфляцыяй фінансавай, дасягнула небяспечнай мяжы. На нашым "рынку" попытам карыстаюцца даволі спецыфічныя веды і здольнасці. Спецыфічнасць вымагаецца нашай дзяржаўнай сістэмай, якая настолькі заблыталася ў сваіх законах і "падзаконніках", што такі вузел, бадай што, без мяча не рассячэш. Меч гэты і ўзняў сёння над намі цёзка знакамітага македонскага заваёўніка, пагрозліва абводзячы арліным зрокам свае (ну амаль што свае) уладанні... Можа, і рассячэ пад добры настрой... Але, па ўсім відаць, інтэлекту нацыі пры любым раскладзе будзе нялёгка і надалей. У народзе, праўда, спакон веку раілі не спаць у шапку і выйсце шукаць самім. Даўно вядома, што толькі нікчэмнасці ва ўмовах жорсткага жыццёвага прэсінгу апускаюць рукі, азлабляюцца і замыкаюцца ў сабе, а Асобы імкнуцца не прыстасоўвацца да абставін, а прыстасоўваць іх да сябе. Гэта тычыцца, відаць, і цэлых народаў. Хто ўспамінае зараз, акрамя вузкаспецыялізаваных гісторыкаў, краіны і народы, якія бясслаўна і бясследна растварыліся ў больш моцных і вялікіх. А жывуць тыя, якія праявілі ў трагічных сітуацыях волю да жыцця і характар, заваявалі Гонар і Славу, ды і месца пад сонцам.

Не апошнюю ролю тут сыграў іх інтэлектуальны патэнцыял.

У спалучэнні са спрадвечнай маральнасцю, не знішчанай аніякімі палітычнымі рэжымамі, наш інтэлектуальны скарб рана ці позна — хочацца верыць — выявіцца, рэалізуецца і спыніць імклівае спаўзанне ў бездань.

## V

... Але чаму ж стала магчымай сённяшняя наша трывалая дрыгаснасць, якая абясцэньвае, нівеліруе наш унікальны Сусвет адметнасці, своеасаблівасці, што па крупінках збіраўся і ствараўся многія тысячагоддзі?

Бадай што самую значную "дапамогу" ў гэтым аказаў нам Яго Вялікасць Хам... Цяжка сёння прасачыць эвалюцыю з'яўлення гэтай з'явы, гэтага своеасаблівага экстракта ліха, якога яшчэ так многа на Зямлі.

Гэты "вялікі і ярасны" Хам скалыхнуў у 1917 годзе шостую частку планеты "до основания..." Нечуваны па сваёй жорсткасці і крывадушшы, што адзначалі ў той час расейскія класікі М. Горкі і У. Караленка, ён зацугляў-такі Расею і стаў (што было нечаканым) у гісторыі гэтай краіны найлепшым, найбольш сканцэнтраваным увасабленнем яе традыцыйнай імперскасці. Відавочна, што гэты фактар адыграў рашаючую ролю ў перамозе бальшавізму, бо менавіта ў бальшавізме многія бачылі тады адзіную сілу, здольную найбольш экспрэсіўна адстаяць цэласнасць велізарнай імперыі. Адсюль "непротивление", пасіўнасць, нават і здрада ідэалам свайго класа, якія падаваліся нязначнымі ў параўнанні з інтарэсамі імперыі.

Імкліва "грянувший" Хам не мог абмінуць і нашу Беларусь. Неўтаймаваны ў сваёй прагнай жорсткасці, высмактваў ён з нашай зямлі жыццёвыя сокі разам з крывёю яе лепшых сыноў, але не наталяў смагу, спажываючы, бы Малох, усё новых і новых ахвяраў...

**І ён сціраў наш твар,**
**Нам вочы асляпляў.**
**У гульбішчы пачвар**
**Наш голас прападаў...**

Пошасць, якая была страшней за чуму і халеру, настолькі прарэдзіла нашыя шэрагі, настолькі прынізіла і дэзарыентавала цэлы народ, паралізуючы сваімі ядавітымі міязмамі ягоную душу, што нацыя беларусаў стала імкліва губляць свой твар, стаў прападаць яе чысты і моцны голас — мова. На змену пачала фармавацца шэрая, маркотная, невыразная маска і нейкі унікальны сурагат мовы, трапна названы "трасянкай".

Але бязлітасны Хам непераможны толькі там, дзе адчувае непраціўленне, рахманасць, згодлівасць, прывыкальнасць. Яго ахвярамі ў першую чаргу станавіліся (ды і становяцца) людзі інтэлігентныя, выхаваныя, памяркоўныя. Мы і зараз кожны дзень сутыкаемся з ім — хто на працы, хто ў грамадскіх месцах. Яго адметнасць — агрэсія, наступальнасць, цынізм... Як толькі ён сутыкаецца з адпорам, сілаю духу, рашучасцю да супраціўлення, то паспешна адыходзіць.

Доўгі час ён убіваў нам пралетарскім молатам сваю "новую культуру", абавязковымі спадарожнымі элементамі якой была алкадэградацыя, звышцынічны мат, які, што казаць, стаў нам блізкім і звыклым. Законы, па якіх мы жылі, часта нагадвалі законы "зоны", з "паханскай" меркай дабра і зла, дзе кіруе, як правіла, самы подлы, самы жорсткі, самы крывадушны...

А што тычыцца сусветнага маштабу культуры Пушкіна, Гогаля, Дастаеўскага, Талстога, Буніна, якую мы шчыра і непрадузята любім і цэнім як неад'емную частку сусветнай цывілізацыі, то якраз яе мы засвоілі не дзякуючы (у чым нас так актыўна сёння пераконваюць), а насуперак гэтаму Хаму, для якога любы высокі дух — варожы і непрымальны.

І ці не гэты Хам — бязладны, некампетэнтны, а часта і малапісьменны — выпусціў у свой час на волю чарнобыльскага джына, які і сёння акуратна бярэ з нас сваю злавесную даніну?..

Хам доўга кіраваў намі (ды, што хаваць, і кіруе!), распараджаючыся нашай маёмасцю, жыццямі, сумленнем, не зважаючы ні на традыцыі, ні на мараль, ні на аб'ектыўныя, апрабаваныя ўсім светам эканамічныя законы.

У апошнія некалькі гадоў, прадчуваючы сваю агонію, ён парадзіў у грамадстве вакханалію нябывалага размаху, што хутка адкінула нас па жыццёвым узроўні амаль у самы канец сусветнага ранжыру.

Гэтаму стварэнню, якое так пакалечыла нашыя душы, наш Богам вызначаны лёс, гісторыя, безумоўна, аддасць належнае... Але спатрэбіцца яшчэ нямала часу, каб стала ў нас моцы скінуць ягоныя ногі з нашага "стала", паказаць нарэшце на дзверы, а потым руплівa адмыць ад яго наш дом, праветрыць ад атрутных і шкодных міязмаў і пачаць нармальнае чалавечае жыццё.

## VI

Хоць прыхільнікі чарговага "рускага цуду" і пацярпелі відавочнае фіяска, ды прыціхлі яны, як ужо адзначалася вышэй, да пары, да часу... "Русский вопрос" балючай стрэмкай тырчаў і будзе яшчэ доўга тырчаць у нашым сэрцы. Адсюль і раскол у грамадстве (а не бачыць яго толькі сляпы), адсюль і няпэўнасць статуса здавалася б незалежнай дзяржавы. Няпэўнасць — бадай што самая характэрная прыкмета сацыяльна-палітычнай палітры нашага часу. Гэтую нашу прастадушную няпэўнасць, невызначальнасць, неакрэсленасць добра адчуваюць і на Захадзе і на Усходзе. Таму і становімся сведкамі цынічнага ігнаравання нават самога факта дзяржаўнасці Беларусі ("Больше наших войск вне пределов России нет..."), здзеклівых "агурковых" опусаў...

Расея, якая сваім велізарным целам накрыла амаль цалкам два мацерыкі і працягвае ўзвышацца побач з намі суровым і няўсмешлівым маналітам, слязам, як вядома, не верыла і ў лепшыя часы. А сёння нашыя "слёзы" і прыніжальныя запабяганні толькі раздражняюць "старэйшага брата". Бо велізарная імперыя зараз сама вельмі хворая. Не трэба быць вялікім палітыкам-аналітыкам, каб бачыць бясконцую і, мякка кажучы, не зусім прыстойную валтузню за самую ўладу і вакол яе ў "лучшем городе Земли"... Гэтая зацятая валтузня, калі не надта выбіраюцца сродкі, якраз і гаворыць пра хваробу, відаць па ўсім, цяжкую і працяглую. На паверхні бурлівага палітычнага мора Расеі аказаўся дзіўны сімбіёз абсалютна несупалучальных паміж сабою палітычных сіл, сярод якіх светлыя і сумленныя галовы — хутчэй выключэнне. Банальны вобраз лодкі (ці карабля), які разгойдваюць, для гэтай краіны сёння самы дакладны. Велізарны, малакіруемы карабель небяспечным чынам хістаецца з боку на бок пад уздзеяннем магутных палярных тэндэнцый. Прытым уздымаюцца такія хвалі, якія лёгка могуць заталіць малыя "лодкі" суседскіх суверэнітэтаў. Уплыў гэтай злавеснай гайданкі на наш лёс найвялікшы. Пакуль уладарная суседка "гонит волну", нам амаль што немагчыма стабілізаваць свой нетрывалы і ненадзейны "плоцік" дзяржаўнасці, які так нечакана для нас усіх аказаўся ў аўтаномным рэжыме плавання...

Гэты фактар, такі выразны і адчувальны, з'яўляецца вызначальным для перспектыў нашай незалежнай еўрапейскай дзяржавы, хочам мы бачыць гэта ці не. Суверэнітэт малых краін існуе і падтрымліваецца раўнавагай уплываў большых масіўных суседзяў — вялікіх дзяржаў. Такі баланс даваў шанцы ацалець, выкарыстоўваючы падчас і супярэчнасці паміж "кітамі". Што ж тычыцца канкрэтнай сітуацыі, то мы маем пастаянны фактар ціску толькі з аднаго боку. З боку Захаду такая супрацьвага яшчэ не сфармавалася. Бо няма яшчэ ў тамтэйшага істэблішменту і ў грамадскай думкі ўсведамлення самога факта існавання былога "Северо-Западного края" Расеі ў якасці суверэннага суб'екта міжнароднай супольнасці. Ні псіхалагічна, ні тым больш эканамічна (не кажучы ўжо пра маральны бок) Захад пакуль што не асэнсаваў свой інтарэс у факце існавання Беларускай дзяржавы.

Не сказаць, што там зусім абстрагаваліся ад гэтых пытанняў. Паступова (праўда, вельмі ўжо марудна) акрэсліваюцца погляды і меркаванні, што незалежнасць былых "сясцёр" Расеі трэба-такі падтрымаць, але ўвогуле гэтыя фрагментарныя імпульсы не набылі яшчэ на Захадзе выгляду цэльнай канцэпцыі ці дактрыны. Пралічваць і падлічваць там усё ўмеюць дасканала, і свой інтарэс, хутчэй за ўсё, з часам усвядомяць. У любым выпадку, як сцвярджае Лех Валенса, "не трэба быць наіўнымі", "калі мы самі сабе не дапаможам, то нам ніхто не дапаможа..." Згадзіцеся, што ўсё гэта — і пра нас з вамі. Вучыцца "хадзіць" і "плаваць" прыйдзецца без нянек.




*Малюнак Л. РАЗЛАДАВА*

# ЗЯРНО ДА ЗЯРНЯЦІ...

**Эпіграфам да часопіса "Беларуская мінуўшчына", як вядома, узяты словы неўміручага Янкі Купалы: "Збіраць пачнем зярно к зярняці, былое ў думках ускрашаць, каб быт на новы лад пачаці, і сеўбу новую пачаць". "БМ" і збірае — прадумана, мэтанакіравана — гэтыя зерні нацыянальнай даўніны, каб праз лёс знакамітых людзей, найбольш значныя падзеі лепш убачыць, дакладней зразумець, аб'ектыўней асвятліць шлях, пройдзены Бацькаўшчынай на працягу стагоддзяў. Ад нумара да нумара вядзецца свайго роду рэпартаж, у якога розныя факты, розныя аўтары, а мэта адна — Адраджэнне Беларусі не на словах, а на справе, пазбаўленне яе ад сну нацыянальнага бяспамяцтва.**

**У гэтым сэнсе апошні, чацвёрты нумар "БМ" за мінулы год (як сведчыць у звароце да чытача галоўны рэдактар Л. Лойка, "у 1995 годзе паспрабуем выдаць не чатыры нумары часопіса, а шэсць"), можна сказаць, і звычайны, падобны на папярэднія, і разам з тым незвычайны. Прынамсі, па кампаноўцы. Матэрыялы падабраны такім чынам, што дазваляюць спатаўліць прагу па самых розных тэмах.**

**Для прыкладу, першая з публікацый — артыкул "Беларуская карта ў якасці літоўскага козыра 1918—1924 гг.", аўтар якога П. Ласоўскі з Польшчы. Не сакрэт, што цікавасць да згаданых падзей апошнім часам узрасла. Па той прычыне, што асэнсоўваюцца яны ўжо зусім не з бальшавіцкага пункту гледжання, а ва ўсёй складанасці, супярэчнасці і нават некаторай непрадказальнасці, з боку тых, хто праяўляў да Беларусі ўласны інтарэс...**

**Апошнім часам вядзецца нямала размоў аб вяртанні населеным пунктам гістарычных назваў. Як бы ў працяг гэтай гаворкі — інтэрв'ю намесніка галоўнага рэдактара "БМ" С. Асіноўскага са старшынёй рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры Акадэміі навук Беларусі В. Лемцюговай "Тапанімічны генацыд, або Як Амерыка стала савецкай". І назва заінтрыгоўвае, а што да самой размовы, дык адно можна сказаць: своечасовая.**

**Уладзімір Арлоў працягвае "Гісторыю Беларусі: год за годам". Узяты гэтым разам пяць знамянальных падзей з гісторыі Бацькаўшчыны, адпаведным чынам змешчаны і матэрыялы: 1523 ("Выйшла ў свет паэма Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра"), 1557 ("Нарадзіўся Леў Сапега"), 1562 ("Сымон Будны выдае першыя на сучасным абшары Беларусі друкаваныя беларускія кнігі"), 1563 ("Войска Жахлівага захапіла Полацк"), 1564 ("Разгром маскоўскага войска на рацэ Уле"). А матэрыялы гэтыя — разгорнутыя нарысы, багатыя на канкрэтныя факты.**

**Адзін з астраўкоў заходнебеларускай... беларускасці паўстае са старонак нарыса В. Сокала "Клецкая гімназія". А вось Г. Прыбытка ("Цуд над Пінаю") запрашае прайсціся старажытным і вечна маладым Пінскам, пазнаёміцца са сведкамі яго даўніны. Да падобнага ж падарожжа, толькі ў Гродню запрашае М. Дзелянкоўскі ("У каралеўскіх палацах"). У У. Анісковіча ("Мінскі абласны..." іншая задача — паказаць, наколькі беражліва, па-навуковаму спагадна ставяцца да захавання унікальных матэрыялаў у Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці. А. Карлюкевіч ("Падтрымайце вёску і сельскую гаспадарку...") расказвае пра Івана Аляксандравіча Сцебута, знакамітага агранома, чый лёс цесна пераплецены з Беларуссю.**

**Не прамініце і нарыс В. Лебедзевай "Палута Бадунова". Пра гэтую выдатную беларускую рэвалюцыянерку, імя якой можна паставіць услед за Цёткай, да нядаўняга часу, калі і ведалі, дык хіба што навукоўцы-гісторыкі. А ўсё таму, што П. Бадунова належала да тых, хто не прызнаў савецкую ўладу. За гэта і паплацілася. І жыццём — як вораг народа была расстраляна, і забыццём...**

**А яшчэ ў нумары — урывак з рамана В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў", "Каляндар "Беларускай мінуўшчыны" на 1995 год, артыкулы В. Шалькевіча "Каліноўскі: Канстанцін, Кастусь ці Вікенцій?", А. Лашкевіча "Нашчадак гуна Зоарда?" (пра паходжанне роду Лышчынскіх), Я. Паўлава "Драматычны лёс польскіх асаднікаў"...**

**Карацей, часопісварты ўважлівага і ўдумлівага чытання, як, дарэчы, разглядання, бо ў ім, як заўсёды, нямала цікавых, унікальных ілюстрацый.**

**Адным словам, зярно да зярняці... Каб каласілася ніва Бацькаўшчыны.**

А. М.

Сярод кніг

# ПА ЗАКОНЕ ПЕРАЦЯКАННЯ

Цяжкае ўражанне пакідае кніга В. Сарокі "SOS: Спасите наши души" (мова — руская). Але, скажам адразу, не ад аўтарскага выканання, а ад таго матэрыялу, жыццёвага рэчыва, якімі запоўнены старонкі гэтай, па-свойму страшнай, аповесці; дададзім — аповесці дакументальнай. Паламаныя лёсы падлеткаў — жывая эстафета дарослых, нейкая першабытна-дзікая, дагістарычная, а можа — і пазагістарычная атмасфера, што пануе ў СІЗА (следчым ізалятары) — вось трагічная тэма гэтага твора. Аўтар аповесці — былы занальны пракурор Беларускай транспартнай пракуратуры быў у свой час абвінавачаны ў парушэнні сацыялістычнай законнасці, асуджаны на чатыры гады ўтрымання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Да вынясення прыгавору сам ён прайшоў цераз следчыя ізалятары Мінска, Рыгі, Варонежа, Саратава, Свярдлоўска, а пасля прыгавору — і іншыя, з яго слоў, зоны бяспраўя. Пра ўсё гэта В. Сарока напісаў некалькі кніжак. Першая з іх, пра якую наша гаворка, распавядае пра сістэму ўтрымання пад аховай падследчых вязняў-падлеткаў у асноўным у мінскай турме. Як работнік праваахоўных органаў, В. Сарока з мэтай яго ўласнай бяспекі быў змешчаны не з дарослымі падследчымі, а ў якасці "старшага", "інструктара" сярод непаўнагетніх.

У адрозненне ад многіх герояў нашых і не нашых дзён свой аповяд ён вядзе не ад трэцяй асобы, а ад сябе асабіста. Аповяд той — не трылерскага кшталту, немудрагелісты, не перасыпаны метафарычнымі бліскавіцамі, але, патрабуючы ўвагі і цярпення, ён перадае чытачу нясцішны боль і трагічныя прадчуванні. Той падлеткавы чалавечы матэрыял, што паўстае са старонак аповесці, у нейкай ступені здаецца ўжо адпрацаваным, хаця ён амаль яшчэ і не ўключаўся цалкам у тканіну жыцця. (Гэта ж трэба — праз гарэлку, атруту, наркотыкі дзеці ловяць кайф: бягуць ад жыцця, найвялікшага Дабра!). А можа — тут жа паўстае пытанне — сёння і сама тая ўся тканіна па ўсіх здаровых вектарах ужо не прываблівае людзей?

Думаць адно, гаварыць другое, рабіць трэцяе; зблытваць і ламаць словы і ўчынкі; з асалодай успамінаць аб п'янках, крадзяжах, гвалтаваннях; непаважліва, цынічна ставіцца да акружаючых і сябе і тут жа імкнуцца ўзнесці сябе над іншымі і безліч падобнага — вось характэрныя рысы калектыўнага, "соборного" партрэта моладзі ў камерах. Такога ж дыяпазону рухі іх душ і на волі. Гэта нейкае атавістычнае існаванне; здаецца, тут спрацоўвае жудасны архетып, укаранёны ў прыроду чалавека. І рухаюць гэтым чалавекам, як прыгледзішся, два фактары: любой цаной набыць матэрыяльныя, хай і не вялікія, даброты і як мага больш улады (зноў жа любой цаной) над сабе падобнымі. А па-над усім гэтым — непадключанасць да вышэйшага, бессмяротнага жыцця.

Цярпліва, да самых драбніц, метадычна, з усёй паступовасцю, ніколькі не змушана асвятляе аўтар дзеянне чыннікаў, што авалодалі маладымі душамі, што прывялі іх у няволю.

Безумоўна, носьбіты такіх маральна-практычных установак маюць і ў пэўнай ступені асаблівую мову (як пра- ці постдзеянне). Складаюць жа яе ў асноўным суцэльная мацюгня ды турэмна-лагерны жаргон. Дарэчы, валоданне апошнім дае права на гонар кожнаму. А вось пачуць тут такое, як "прабачце", "калі ласка" ці, скажам, "Бог" — дарэмнае чаканне, а калі і дачакаешся, то ў атачэнні мярзоты і паскудства. Слова "Бог" зрываецца толькі з вуснаў аўтара, — і то ў адчаі і роспачы — пры спадзяванні, што Ён (Бог) можа выратаваць у гэтай сітуацыі. Дададзім ад сябе, што чакаць чагосьці светлага і ад служак Бога на зямлі не прыходзіцца, бо яны, асабліва іх вярхоўныя іерархі, і ў нашай шыраце таксама, аб чым зусім нядаўна пісала газета "Свабода", заняты і гарэлачным бізнесам, бо і яны дапамагаюць адпіваць мазгі і бацькам і дзецям, самазаганяцца ў разрад маргіналаў, набываць люмпенскі менталітэт.

Аўтарская пазіцыя на працягу ўсяго сумнага аповяду бачыцца гуманістычнай: ён угаворвае, імкнецца пераканаць усіх недарослых насельнікаў СІЗА, унушае ім думкі аб светлым іх прызначэнні на зямлі, імкнецца раскрыць ім вочы на іх пагібельнае, але ўсё ж не безнадзейнае становішча.

Назваўшы тэму кнігі В. Сарокі, не можам не заўважыць аб мэце і задачы, якія яна мае. Па-першае, гэта папярэдзіць тыя юныя дурслівыя галовы ад правапарушэнняў, што вядуць на дно жыцця, і адначасова дарослых, каб і яны ўяўлялі, што чакае іх і іх дзяцей, калі апошнія намерыліся ісці слізкай сцяжынай жыцця. А таму цягу да гэтай сцяжыны трэба пераадольваць і духоўна, і інтэлектуальна, і добрымі ўчынкамі ў побыце, ці, як кажуць, — практычна.

Праглядаецца яшчэ тут і ідэя вяртання да зямлі, да каранёў сваіх і, калі хочаце, да свядомага нацыянальнага жыцця. Сведчаннем таму служаць вобразы Юркі і Васіля — дзяцей вёскі і правінцыі. У адрозненне ад іншых адступнікаў і адшчапенцаў людскасці, у іх менш, чым у іншых, назіраецца рысоўкі, выпендрывання. Яны не зусім з тых, што — на адзін твар, капыл, што з калектыўнага партрэта. Яны яшчэ пакуль — не з растыражаваных цёмнай сілай істот; яны — як бы самі па сабе, яны яшчэ не безнадзейныя. І самае галоўнае — яны пачынаюць усведамляць ступень свайго падзення, таму, відаць, іх душы наведвае раскаянне за здзейсненае зло. Цікавымі бачацца гэтыя хлопцы і тым, што ў крымінальным свеце, які, вядома, інтэрнацыянальны, яны вельмі добра ўсведамляюць, што яны — дзеці зямлі Беларускай: абодва не адмаўляюцца ад беларускасці, больш таго — да бойкі абараняюць у камерных спрэчках годнасць Беларусі. Як ні ў кога, у іх захавалася беларуская (хай у трасянкавым варыянце) мова. (А дзе яна ў большасці сёння не такая?) Праўда, больш за ўсіх хлопцы і церпяць ад сукамернікаў. Але ж яны, асабліва Васіль, дазваляюць гэта толькі да пэўнай мяжы. Потым могуць і ўзарвацца. Парадуемся і за такі пачатак. Тым больш, гэтыя хлапчукі знаходзяць падтрымку ў "старшага", таксама зняволенага і нядрэннага, па словах аўтара, выхавацеля Рыжага.

"SOS: Спасите наши души" з'яўляецца ўдзячным матэрыялам для вывучэння параметраў чалавечай душы і соцыуму, які яе ўтрымлівае, з боку псіхолагаў, калі не псіхіятраў, прававедаў, філосафаў і многіх іншых. Не вельмі даўно аб крымінальным свеце можна было гаварыць як аб нібыта паралельным нашаму, ні ў якім разе не сколку з нашага жыцця, але сёння мы бачым, што паміж імі ляжыць аберацыйная прастора, якая злівае іх у адно. Адным словам, тут спрацоўвае закон перацякання матэрыі і духу. Ці ж не відаць няўзброеным вокам, як вакол нас на кожным кроку (камеру і зону пакуль пакінем убаку) ідзе павальнае абкраданне народа, дзяржавы, як квітнеюць махровым колерам пазастатутныя адносіны ва ўсіх установах і інстытутах нашага жыцця, як паліраюцца рэшткі маралі паўсюль ад цэнтра да недасягальных даляглядаў? Дарэчы, у былым СССР на працягу 1960—1990 гг. па крымінальных справах па розных дадзеных прайшло ад 30 да 60 млн. грамадзян. Гэта толькі тое, што зафіксавана. Як бачым, спадчына — не суцяшальная. Гэта тычыцца і нашай зямлі.

Але ж хто будзе ратаваць нашы душы, калі не мы самі? І першая ўмова тут — патрабаванне ад сябе і іншых выканання маральных і прававых нормаў, якія існуюць ужо вякі.

Калі гаварыць пра недахопы твора, то немагчыма часам не заўважыць нейкую наіўнасць пры ўспрыманні гарманальнага ўзроўню паводзін юных сізаўцаў і, можа, ненаўмысную, але ўсё ж відавочную ўласную самаідэалізацыю, і як вынік — спадарожнае ім неабгрунтаванае рэзанёрства. Названыя агрэхі ні ў якім разе не затушоўваюць, не зніжаюць значэнне і актуальнасць праблем, узнятых у аповесці.

Для арыенціру ў кніжным моры неабходна паведаміць, што "SOS: Спасите наши души" (памер аповесці — амаль 15 аўтарскіх аркушаў ці амаль 300 с.) выдадзена Аграпрадпрыемствам "Ранет-92" напрыканцы мінулага года тыражом у 50 тыс. асобнікаў. Заснавальнікам фірмы, якая мае ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць, з'яўляецца сам аўтар і дзеючая асоба гэтай аповесці.

**Яўген ГУЧОК**

# РАМАН — ГЭТА НАРОД

Іван Чыгрынаў з поспехам выступае і ў галіне публіцыстыкі, крытыкі, літаратуразнаўства. Гэта, прынамсі, засведчыла яго кніга "Новае ў жыцці, новае ў літаратуры", што выйшла ў 1983 годзе. І вось яшчэ адна — ладны том "Паміж сонцам і месяцам" у той жа "Мастацкай літаратуры", "Роздум над жыццём", культурай і і літаратурай" — такі падзагаловак даў пісьменнік сваім турботным развагам. А пачынаецца яна з "Першага ўспаміну" — аўтабіяграфічных нататак, напісаных у 1986 годзе. Сталася так, што мастацкі жыццяпіс Івана Гаўрылавіча надта доўга ішоў да чытача: "Двойчы браўся я за сваю біяграфію. Адна недзе згубілася ў студэнтаў. Другая атрымалася доўгая, не падыходзіць да такой кнігі... (маюцца на ўвазе зборнікі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў, кшталту "Пра час і пра сябе" і "Вытокі песні". — А. М.) Вось трэцяя".

Дарэчы, і гэтая трэцяя прыйшла да чытача з вялікім спазненнем. У свой час пільным супрацоўнікам аднаго вельмі ж пільнага ведамства не спадабалася, што І. Чыгрынаў добрым словам згадвае Масея Сяднёва, успамінаць якога доўгі час забаранялася. Дарэчы, да вобліку Масея Ларыёнавіча аўтар звяртаецца неаднойчы... А наконт аўтабіяграфіі, дык, думаецца, яна каштоўны матэрыял для тых, хто хоча лепей ведаць вытокі творчасці аднаго з нашых таленавітых пісьменнікаў, даведацца, як адбывалася станаўленне яго мастакоўскай індывідуальнасці.

Дарэчы, "Першы ўспамін" адначасова пачынае і раздзел "Публіцыстыка. Дзённікавыя нататкі". У ім — згадкі аб пабачаным падчас паездак, творчых камандзіровак. Як, напрыклад, пра наведванне Беласточчыны ("Паміж сонцам і месяцам") ці колішняй Чэхаславакіі ("Влтава, Дунай і манеты"). У гэтым жа раздзеле — цікавыя назіранні, атрыманыя падчас папярэдняй выбарчай кампаніі ("Бабруйскі кацёл"). Тут жа жаданне зразумець, чым жыве сучасная моладзь ("Хто пойдзе да нефармалаў").

Два наступныя раздзелы ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго — "Літаратурна-крытычныя артыкулы. Эсэ" і "Эскізы да партрэтаў". І. Чыгрынаў прыглядаецца да творчасці калег па пяры, імкнучыся даць зробленаму імі прынцыповую ацэнку. У той жа час ён выходзіць за межы беларускай літаратуры, прыглядаецца і да таго, што робіцца ў іншых літаратурах. Скажам, у артыкулах "Урокі Шолахава", "Пра Канстанціна Сіманава".

І ўсё ж пераважная большасць артыкулаў маюць аглядны характар. Сярод іх і "Раман — гэта народ". У ім аўтар не проста гаворыць пра вартасці ці недахопы пэўных твораў, а закранае асобныя тэарэтычныя моманты, спрабуючы разабрацца, а што ж уяўляе сабой раман як жанр на сучасным этапе, у чым яго прывабнасць для беларускай літаратуры.

Падобны падыход і ў артыкуле "Погляд на беларускую аповесць". Зноў жа для І. Чыгрынава-крытыка, І. Чыгрынава-літаратуразнаўцы найважней зірнуць на праблему канцэптуальна. Наколькі аповесць задавальняе літаратуру? Як удаецца ёй асэнсаваць жыццё, сам час? Дзе сапраўдны мастакоўскі пошук, а дзе звычайная даніна модзе? Гэтыя і іншыя пытанні, безумоўна, аўтарам не ставяцца, як кажуць, у лоб, яны вынікаюць непасрэдна з самога кантэксту гаворкі, імі прасякнуты ўвесь роздум пісьменніка — роздум адкрыты, неабыякавы, заклапочаны.

Што тычыцца заключнага раздзела кнігі — "Адказы на пытанні. Інтэрв'ю", дык, безумоўна, у ім куды больш асабістага. Бадай, нават у дадзеным выпадку лепей падыходзіць гэтае слова — "личностного". Менавіта з адказаў на пытанні найбольш поўна паўстае асоба творцы, бачыцца, наколькі неабыякавы Іван Гаўрылавіч да праблем жыцця і літаратуры. А яшчэ што прываблівае ў гэтых развагах, дык жаданне весці бескампрамісны дыялог. Не замоўчваючы таго, што, магчыма, у нечым трэба было б недагаварыць. Не змякчаючы акцэнтаў, калі, здавалася б, можна гэта было б зрабіць.

Што ж, такі І. Чыгрынаў у жыцці — бескампрамісны і сумленны. Гэткім жа бачыцца ён і са старонак кнігі "Паміж сонцам і месяцам", якая ўжо знайшла свайго чытача і, несумненна, у першую чаргу сярод выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры.

**А. М.**

Віншуем!

# З ПАВАГАЙ ДА ПРАЎДЫ

Як пісьменніка і слыннага даследчыка літаратуры прырода шчодра надзяліла Івана Якаўлевіча Навуменку талентам шчырага, даверлівага голасу і праніклівага эпічнага позірку. І не паскупілася на тое, каб гэты дар маштабна, плённа і адметна выявіўся ў вельмі шырокім дыяпазоне мастацкай, навуковай і грамадскай дзейнасці.

Прыродны талент, аднак, абуджаюць (ды і шліфуюць, фармуюць) нейкія моцныя жыццёвыя імпульсы. Такою магутнаю сілай, якая паклікала І.Навуменку ў нялёгкую пісьменніцкую дарогу, была вайна. Праз пэўны час адзін з герояў яго рамана "Смутак белых начэй" скажа, што гэта была надзвычай цяжкая і самая вялікая вайна, "якая калі-небудзь была на свеце".

Горыч гэтай вялікай усенароднай драмы І.Навуменка зведаў напоўніцу. У юнацкім, семнаццацігадовым узросце ён уключаецца ў падпольнае змаганне з акупантамі, а потым працягвае гэту барацьбу ўжо як разведчык дэсантнай групы, сувязны і баец партызанскай брыгады імя Панамарэнкі. Са снежня 1943 г. І.Навуменка знаходзіцца ў радах Савецкай Арміі, удзельнічае ў цяжкіх баях на Карэльскім перашыйку і заканчвае вайну ва Усходняй Прусіі і Сілезіі.

На небяспечных партызанскіх сцяжынах і пакручастых франтавых дарогах, напэўна, і стала абуджацца ў юнака Навуменкі пісьменніцкае прызванне. Але ўслых загаварыла яно пазней. Пройдуць гады, перш чым убачанае і перажытае на вайне пачне набываць рэальныя мастацкія абрысы характараў, падзей, канфліктаў. Пасля дэмабілізацыі ў снежні 1945 г. І.Навуменка працуе карэспандэнтам газет "Бальшавік Палесся", "Звязда", загадвае аддзелам прозы рэдакцыі часопіса "Маладосць". Плённым, выніковым было для яго першае пасляваеннае дзесяцігоддзе і ў плане вучобы. Ён заканчвае філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру, выкладае беларускую літаратуру.

У гэты перыяд, як можна меркаваць, І.Навуменка ўшчыльную падышоў да той мяжы, калі шматлікія творчыя задумы ўжо выкрышталізаваліся і настроіліся на адпаведныя формы мастацкага ўвасаблення. Першыя творы І.Навуменкі з'яўляюцца ў 1955 г. На значны прамежак часу самай прывабнай жанравай формай становіцца для пісьменніка апавяданне, хоць, праўда, і цяпер навелістычная жанравая мадэль не страціла для яго сваёй прыцягальнай магнетычнай сілы. Тут ён зарэкамендаваў сябе тонкім, удумлівым і арыгінальным майстрам. Толькі за адно дзесяцігоддзе выходзяць аж пяць зборнікаў яго апавяданняў, "Семнаццатай вясной" (1957), "Хлопцы-равеснікі" (1958), "Верасы на выжарынах" (1960), "Таполі юнацтва" (1966), "Вераніка" (1968), ствараюцца аповесці "Снежань" (1958), "Мой сябар Пятрусь" (1958), "Пераломны ўзрост" (1958), "Трымценне дубовага лісця" (1964).

Гэта быў сапраўдны ўсплёск творчай энергіі маладога аўтара. Гэта была і сур'ёзная наватарская заваёва беларускай літаратуры. На шырокім, неабсяжным плацдарме ваеннай тэмы І.Навуменка знайшоў сваю дзялянку. Ён адшукаў, а дакладней будзе сказаць, адкрыў тут і сваіх герояў — учарашніх юнакоў-школьнікаў, якім давялося стаць удзельнікамі самай вялікай і крывавай вайны і вельмі многім з якіх не суджана было вярнуцца пад дах бацькоўскіх хат.

Сам пісьменнік — іх равеснік. Разам з імі ён вучыўся, добра ведаў іх будзённае жыццё, іх псіхалогію. Яго жыццёвыя і ваенныя дарогі — гэта і іх шляхі-дарогі. А самае галоўнае — ён шчыра любіў сваіх юных сяброў-равеснікаў у жыцці і здолеў перадаць іх цеплыню і акрыленасць уласнай душы праз мастацкае слова. Радасць, гора, трывога, клопат, хваляванне маюць у яго ранніх апавяданнях і аповесцях надзвычай шырокую нюансавую гаму прыкмет і адценняў. І ўжо адно гэта пераканальна сведчыла аб тым, што ў нашу літаратуру прыйшоў яркі, цікавы, тонкі, неардынарны мастак.

Узяць хоць бы такое цудоўнае апавяданне І.Навуменкі, як "Салдаты вярнуліся". Радасць, як пэўны стан чалавечай душы, выконвае тут важную характарыстычную функцыю ў вызначэнні духу, настрою эпохі і псіхалогіі чалавека. Людзі радуюцца тут, бо зусім нядаўна вялікай і доўгачаканай перамогай закончылася вайна. Але кожны радуецца па-свойму. І пісьменнік знаходзіць тыя адзіныя словы, якія адлюстроўваюць гэтую адметнасць настрою і пачуцця. Мы добра адчуваем радасць маладых дзяўчат, студэнтак-стацыянарніц, якія, відаць, добра паздавалі экзамены і збіраюцца дамоў на вакацыі. Прыўзняты, радасны настрой пануе і ў душы студэнта-завочніка Гарбача, які прыехаў на экзаменацыйную сесію. Але яго радасць болей вострая і ўмудроная, чым у тых жа дзяўчат-стацыянарніц, бо ўтрымлівае ў сабе трагедыйна-трывожнае адчуванне цяжкіх, "пакутлівых хвілін чакання перад атакай", калі "звычайныя даброты зямнога існавання" здаваліся найвышэйшым шчасцем.

Перажыванні і хваляванні героя гэтага твора, як і шэрагу іншых яго апавяданняў, аповесцей і раманаў, з'яўляюцца адчуваннямі і перажываннямі самога аўтара. Лірыка-рамантычная, прыўзнятая настраёвасць чалавека часта рэзка і крута змяняецца ў іх на журботную і драматычна-трагедыйную танальнасць. Мастацкае слова ў яго сэнсавай і эмацыянальнай пульсацыі пісьменнік скіроўвае на пошукі трывалай унутранай сувязі з самім аб'ектам адлюстравання — суровымі буднямі партызанскай і франтавой вайны, дзе крохкай радасці зямнога быцця штохвілінна пагражала смяртэльная небяспека.

Яркім прыкладам магло б быць тут апавяданне "Дом над морам". Моцнае драматычнае напружанне ствараюць у гэтай навеле кантрастныя фарбы, гукі, пачуцці, якія аўтар памастацку чаргуе, спалучае і лепіць незабыўную карціну вайны. У апавяданні многа святла, музыкі, цудоўных веснавых пейзажаў. Тры маладыя салдаты мараць хутчэй вярнуцца дамоў, сустрэцца з роднымі і каханымі. У кожнага з іх ключом б'е жыццё, ва ўсіх іх прыўзняты і радасны настрой. І вось тады, калі яны амаль поўнасцю забываюць пра небяспеку, гіне адзін з траіх — малады і жыццярадасны Булавенка. Цэлую ноч ён іграў на піяніна, а ў поўдзень "яго забіла асколкам снарада, пад самымі вокнамі белага дома, на пясчаным пляжы..."

Вядома, жыццё кожнага чалавека непаўторнае і неацэннае. Але яшчэ вастрэй і глыбей адчуваецца трагедыйны боль страт, калі гіне жыццё на самым яго ўзлёце і ўздыме. Нельга не здрыгануцца і заставацца спакойным, калі ў аповесці "Трымценне дубовага лісця" аўтарскі голас даносіць да нас такую сумную і журботную статыстыку:"З дзевятага класа пайшло на фронт шаснаццаць, прыйшло толькі чацвёра. Ляжаць яны, хлопцы дваццаць чацвёртага і дваццаць пятага года нараджэння ў брацкіх магілах ля вёсачак і безыменных вышынь ад Дняпра да нямецкай Эльбы. Даруйце ім, дзяўчаты..." Гэтыя хлопцы-равеснікі так і засталіся для нашай будучыні нявыдзейсненай, няспетай песняй, вялікай і таямнічай загадкай.

Думка пра іх, як і наогул дыялог аўтара з чытачом, нярэдка выяўляюцца ў формах адкрытай эмацыянальна-публіцыстычнай манеры. Пры няўмелым карыстанні такі прыём можа толькі нашкодзіць. У апавяданнях і аповесцях І.Навуменкі суб'ектыўна-асабістае слова вынашана, абдумана, перажыта, і таму яно гучыць свежа і натуральна. Хвалюючы і страсны голас аўтара дапамагае шырэй і глыбей зразумець задуму твораў, узмацняе іх лірычную афарбоўку.

Мастацкая проза не можа, аднак, трымацца толькі на эмацыянальна-лірычным пафасе, якім бы глыбокім і шчырым ён ні быў. Яе законы вымагаюць аналітычных падыходаў і асабліва тады, калі гэта дыктуе сам жыццёвы матэрыял. А той матэрыял, да якога звяртаецца ў сваіх творах І.Навуменка, якраз і патрабаваў заглыбленага пошуку адказаў на востра пастаўленыя вайною пытанні: а ці можа чалавек заставацца чалавекам у жорсткіх і абсурдных абставінах кровапраліцця? І калі можа, то якія сілы і стымулы здольны падтрымліваць яго духоўны і маральны патэнцыял?

Пошук адказаў на гэтыя пытанні на доўгі час становіцца для І.Навуменкі-празаіка ключавой, праблематычнай задачай. Гэты інтарэс пісьменніка даволі выразна акрэсліваецца ўжо ў адным з першых яго апавяданняў "Семнаццатай вясной". Героі гэтага твора, семнаццацігадовыя юнакі і дзяўчаты, лічаць, што смяяцца, улюбляцца, "весяліцца, танцаваць у такі час, калі ідзе вайна, проста ганебна". Галоўны іх клопат — абзавесціся вінтовачным абрэзам, дзвюма-трыма лімонкамі, "знайсці з паўпуда аманалу" ды хутчэй "аб'явіць германскаму фашызму бязлітасную вайну". Чытач, відаць, не можа тут не ўсміхнуцца, але разам з тым у яго ўзнікаюць зусім няпростыя і вельмі сур'ёзныя пытанні: а адкуль жа ў гэтых юных герояў-максімалістаў, падчас наіўных і смешных у некаторых сваіх дзеяннях і развагах, такое глыбокае пачуццё Радзімы і грамадзянскай адказнасці за яе лёс?

Адказы на гэтыя пытанні наша літаратура шукае многія гады. Важкі аналітычны ўклад зрабіла тут і мастацкая проза І.Навуменкі. У той час, калі ў ваеннай літаратуры яшчэ досыць актыўна дзейнічаў партыйны функцыянер, як галоўная кіруючая, арганізуючая і натхняючая сіла, у творах Навуменкі гэты дэтэрмінант адыходзіць на задні план. Так, тут дзейнічае і няўмольная сіла загаду (не заўсёды мудрага, разумнага і далікатнага), які трэба было выконваць. Але найбольш дзейсная духоўна-арганізацыйная сіла, як паказвае пісьменнік, і ў той складанай сітуацыі была закладзена ў самім чалавеку, у яго падрыхтаванасці (або няздольнасці, негатоўнасці) прымаць аптымальныя рашэнні і настройвацца на хвалю агульначалавечых маральных каштоўнасцей. У гэтай сувязі невыпадковым з'яўляецца і асаблівая цікавасць празаіка да партызанскай тэматыкі, бо ў сітуацыях лясной вайны чалавеку найчасцей даводзілася пакладацца на самога сябе.

Аналізуючы такія вядомыя раманы І.Навуменкі, як "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці", наша крытыка аддала належнае высокапрафесійнаму і праўдзіваму мастацкаму слову пра партызанскую вайну. Але, як нам уяўляецца, сказана пра іх яшчэ далёка не ўсё. Мы, відаць, не да канца заглыбіліся тут ў сам працэс пакутлівага, ачышчальнага збліжэння чалавека з агульналюдскім маральным вопытам у цяжкіх экстрэмальных жыццёвых умовах. І.Навуменка дапамагае нам зразумець, што сапраўдны катарсіс асобнай чалавечай душы, яе ўзлёт і ўзвышэнне адбываецца менавіта тады, калі ёй удаецца стаць арганічнай часцінкай трывог і болю іншых людзей. Толькі ў такім выпадку, як можна заўважыць, гэта душа становіцца пасапраўднаму чулай, успрымлівай, мужнай і свабоднай, самаахвярна бясстрашнай нават перад немінучай сустрэчай з нейкай грубай, жорсткай і злой воляй-прымусам.

Герой ваеннай эпічнай трылогіі "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах" і "Сорак трэці" "фольксдойч" Аўгуст Эрнэставіч Крамер (паводле аднадушнага прызнання літаратуразнаўцаў, гэты сацыяльна-псіхалагічны тып чалавека — сур'ёзнае мастацкае адкрыццё празаіка) добра разумее, што ўлада, якая і раней не дужа ўважліва і гуманна ставілася да чалавека, наўрад ці стане ўлічваць яго хістанні і пакутлівы шлях да праўды і справядлівасці. Ён не безуважны да свайго ўласнага лёсу і быў бы не супроць, каб у крытычны момант нехта закінуў за яго добрае слова. Але з палону вялікага страху ён ужо вырваўся, а дакладней кажучы, вырвала яго з гэтага палону глыбока спазнаная і выпакутаваная думка аб тым, што ў любых абставінах нікому не зачынены шлях да чалавечнасці. Іменна такога прынцыпу Крамер і прытрымліваецца, памагаючы другім не апускаць, не зніжаць шкалу духоўнасці, і сам імкнецца заставацца чалавекам "сярод суцэльнага бруду, крыві, свінства".

Герой, што прыкладае стаpанні і намаганні ў любых абставінах жыцця застацца чалавекам і не страціць сваю годнасць наогул, з'яўляецца ў творах І.Навуменкі галоўнай дзеючай фігурай. З такім героем пісьменнік уваходзіў у літаратуру. Цікавы і праблемны паварот набывае чыста адвечнае пытанне пошуку чалавекам маральна-сэнсавай сутнасці чалавечнасці і ў такіх яго аповесцях і раманах, як "Замець жаўталісця", "Развітанне ў Кавальцах", "Летуценнік", "Асеннія мелодыі" і інш. Аднак нельга не заўважыць, што ў гэтых і іншых яго творах усё часцей і часцей стаў з'яўляцца герой, які, не ўмеючы ці не жадаючы паставіць сябе пад вымяральнаацэначны кантроль агульначалавечых крытэрыяў, спакойна-абыякава і бестурботна жыве на гэтай зямлі і не спрабуе ўнікнуць у тое, што яго ўнутраная свабода ў любой, нават вельмі асабістай і далікатнай інтымнай сферы, дзе яму быццам бы ніхто не мае права чыніць перашкод, так альбо інакш закранае лёс іншых людзей. А гэта значыць, што і тут ён нясе перад імі асабістую маральную адказнасць.

У рамане "Летуценнік" (здаецца, таксама недаацэненым нашай крытыкай) пісьменнік выкарыстоўвае вельмі шырокую сістэму мастацкай аргументацыі (звяртаецца нават па дапамогу да вучэння Фрэйда) у вытлумачэнні таго, што ўсякі вонкавы націск на закаханага (закаханую) — у чымсьці мяжуе са злачынствам. Бо пачуццё, калі яно яшчэ моцнае і глыбокае, звычайна прымушае халодны рацыяналістычны разлік і падыход пацясніць свае пазіцыі. Правамерна нават зрабіць дапушчэнне, што гэты раман І.Навуменкі — своеасаблівая палемічная рэакцыя на творы, дзе тонкая і далікатная эмацыянальна-пачуццёвая сфера інтымнага жыцця чалавека часта выступае ў жорсткіх межах халоднай логікі і ўсёведнай рацыяналізацыі. Не, тут не ўсё, як паказвае аўтар, укладваецца ў формы і схемы строга і матэматычна вывераных разлікаў і прадпісанняў,а таму і ацэнкі нашы аб чалавеку (і асабліва ацэнкі крытычныя) павінны быць у дадзеным выпадку вельмі і вельмі ўзважанымі і асцярожнымі.

І ўсё ж гераіня гэтага твора медыцынская сястра Маргарыта Асмалоўская трапляе ў поле крытычнай аўтарскай думкі. Але не таму, што, спрабуючы адшукаць асабістае шчасце і вырвацца з межаў "нуднай сямейнай будзённасці", яна, можа, залішне часта і хутка мяняе аб'екты сваёй сардэчнай увагі. Трывожыць і насцярожвае ў яе характары і паводзінах нешта іншае, а менавіта тое, што ўсе гэтыя няпростыя, часта складаныя і драматычныя з'явы і перыпетыі жыцця безбалесна слізгаюць па паверхні яе душы і не пакідаюць там "ніякага следу" і запытальна-аналітычнага водгаласу.

Пісьменнік не катэгарыруе тут сваіх вывадаў і не дае "разгуляцца" асуджальнаму пафасу. У яго творах наогул людзі ўстрымліваюцца ад таго, каб ставіцца адзін да другога варожа, думаць адзін аб другім дрэнна. Такая, відаць, рыса пісьменніцкага таленту. Але і ў дачыненні да той жа гераіні рамана "Летуценнік" вывад нязмушана напрошваецца сам сабой: чалавек траліў у паласу складанага і зацяжнога духоўнага крызісу, і галоўны выхад з гэтага інфантыльнага стану знаходзіцца дзесьці на лініях узаемаўзгодненай сустрэчы чалавека з агульналюдскім вопытам, у якім звычайна ў тугі вузел звязана наша мінулае, сённяшні і заўтрашні дзень.

Для пераважнай большасці герояў І.Навуменкі імкненне намацаць гэту ўнутраную сувязь паміж учора-сёння-заўтра з'яўляецца іх найважнейшай жыццёвай праграмай. Можна дадаць, што гэта — стрыжнявое мастацкае крэда і самога пісьменніка. "На спатканне з адышоўшымі днямі" спяшаецца герой аповесці "Развітанне ў Кавальцах". Галоўны герой рамана "Асеннія мелодыі" таксама "шчыра верыць, што гісторыя прысутнічае ў сучаснасці" і мае свой уплыў "на будучыню", і ў апошняй па часе выхаду ў свет кнізе прозы І.Навуменкі "Гасцініца над Прыпяццю" наш клопатны, у многім бядотны і неспакойны дзень бягучай сучаснасці выступае ў ацэначна-псіхалагічным кантэксце ўспамінаў-роздумаў аб тым, што было ўчора і што можа адбыцца заўтра. Роздум-успамін мае ў творах пісьменніка (асабліва ў раманах і аповесцях) вельмі шырокую і разгалінаваную сюжэтна-кампазіцыйную сістэму і цесную сувязь з самымі рознымі аспектамі нашай нацыянальнай гісторыі, з'явамі роднай прыроды, падзеямі мінулай вайны і прымае чынны ўдзел у агульным руху мастацкай думкі на шляху да яе вялікасці-праўды.

Самай сур'ёзнай размовы заслугоўвае, безумоўна, і вельмі плённая праца І.Навуменкі як удумлівага і арыгінальнага даследчыка літаратуры. Але, здаецца, мы ўжо выкарысталі ліміт газетнай плошчы і таму заўважым пра гэта толькі ў форме некалькіх назыўных сказаў. Пасля выхаду ў свет такіх фундаментальных і шырокавядомых цяпер і школьнаму настаўніку, і студэнту, і вузаўскаму выкладчыку даследаванняў, як "Янка Купала. Духоўны воблік героя" (1967) і "Якуб Колас. Духоўны воблік героя" (1968), нястомная праца І.Навуменкі ў гэтай галіне працягваецца. У 1992 годзе выдавецтва "Навука і тэхніка" выпусціла яго кнігу "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч", у якой пластычна і па-навуковаму тонка намаляваны творчы партрэт пачынальніка новай беларускай літаратуры ў святле адраджэнскіх тэндэнцый і павеваў часу. Завершана і здадзена ў выдавецтва вялікая праца аб жыцці і творчасці З.Бядулі. Па-новаму прачытана творчасць Я.Купалы і аформлена як манаграфічны раздзел для новай Гісторыі беларускай літаратуры. А цяпер для гэтага будучага і, як мы разлічваем, сур'ёзнага фундаментальнага выдання Інстытута літаратуры АН Беларусі І.Навуменка падрыхтаваўся напісаць навуковую працу аб жыцці і творчасці М.Багдановіча.

Без усякага перабольшання мы маем падставу сказаць, што Іван Якаўлевіч Навуменка знаходзіцца ў выдатнай рабочай форме. Дык пажадаем яму ў дзень ягонага юбілею, багатага на мудры жыццёвы вопыт, важкія мастацкія і навуковыя набыткі, моцнага здароўя, даўгалецця і акрыленага творчага настрою.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

Барыс ПЯТРОВІЧ

# ЖЫЦЦЯСОН



(З "ТРЫЗНЕННЯЎ")

1.

Ён спаў і сніў сон, быццам ён спіць і сніць сон пра тое, як ён спіць і сніць сон пра...

Ён прачнуўся і падумаў: каторы я прачнуўся з тых "Я", што спяць і сняць сон пра тое, што яны спяць і сняць сон? Самы першы "Я", альбо апошні? І тое, што вакол мяне цяпер мне сніцца, альбо гэта ява? Няўжо я яшчэ сплю і мне толькі сніцца, што я прачнуўся?..

Калі так, то што такое сон і што такое ява? Дзе сканчаецца сон і пачынаецца ява? І ці не ёсць усё нашае жыццё адно — сон? Няўжо і сапраўды ўсё, што існуе — ёсць сон, а тое, што не сон — не існуе?

Можна прысніць самае неверагоднае, аднак яно будзе яваю, будзе існым, будзе праўдзівым, пакуль не прачнешся. У снах, як і ў жыцці, мы ведаем толькі тое, што ведаем, і не ведаем таго, чаго не ведаем. Сны — працяг жыцця, але маё жыццё ці працяг сну?

Ён заблытаўся ў думках, падхапіўся на руках у ложку, паправіў падушку і зноў лёг. Ён падумаў, што гэтакі сон прысніўся яму невыпадкова. Бо яму неаднойчы хацелася, каб ягонае жыццё было, дакладней — стала, сном. Яму хацелася прачнуцца і стаць ранейшым, тым, якім быў ён да таго трагічнага выпадку, калі на поўнай хуткасці аўтобус, у якім ён ехаў да бацькоў, занесла на павароце, перакуліла і паклала на бок нейкая невядомая сіла... Пасля трох месяцаў бальніцы ён вярнуўся дамоў без ног... І цяпер яму хацелася прачнуцца маладым і здаровым, бадзёрым, паганяць з сябрамі футбольны мячык, пругка і лёгка прайсціся па... проста прайсціся... Але ішлі гады, а ён не прачынаўся.

І тады ён зразумеў: здаровым ён застаўся там, у мінулым. Здаровым застаўся той ён, які, спыніўшыся перад выбарам (паваротам лёсу) на чым ехаць: на аўтобусе альбо на цягніку, паехаў на цягніку. І цяпер паралельна яму гэтаму, існуе недзе ён іншы — здаровы, двухногі (як брыдка гучыць гэта для некага і як настальгічна — для яго), той ён, які паехаў на цягніку. А колькі гэтакіх лёсавырашальных паваротаў было ў ягоным жыцці? А значыць — колькі паралельных светаў з ім у цэнтры існуе ў гэтым сусвеце? Недзе жыве ён той, што паступіў у медінстытут, а не на філфак універсітэта; яшчэ недзе жыве ён той, што ажаніўся на сваёй аднакурсніцы Аліне, а не на цяперашняй жонцы... Кожны раз ягонае жыццё магло пайсці новым, іншым шляхам. Магло ці пайшло? І калі пайшло, то якое з гэтых жыццяў сон, а якое не сон? І якое з іх суцэльныя памылкі, а якое ідэальна правільнае? Тое, што "суцэльныя памылкі" і ёсць гэтае ягонае жыццё, у якім ён зараз бязногі, ён не сумняваўся. Бо азіраючыся назад, на пражытыя гады, памылак, што цяпер не выправіць, бачыў ён надта шмат.

Ён адкінуў падушку да сцяны, пасунуўся, прыціснуўся да яе спінаю — сеў. Ідэя мажлівага існавання дзесяткаў светаў, якія пасля лёсавырашальных, фатальных рашэнняў (памылак?), маглі развівацца адначасна ў розных, часам амаль супрацьлеглых кірунках, захапіла яго. Недзе паралельна гэтаму свету цяпер можа існаваць Германія, якая перамагла ў другой Сусветнай вайне, а недзе — Вялікае княства Літоўскае, якое адбілася ад маскалёў і захавала дзяржаву ад Балтыкі і да Крыма; недзе — не заваяваная барбарамі Рымская імперыя, а недзе ёсць і пабудаваная Бабілонская вежа... І светы гэтыя настолькі тонкія, што існуюць адначасова побач, незаўважныя і невядомыя адзін аднаму. Бо калі ён рабіў, альбо не рабіў памылкі, калі ён можа паралельна жыць і ствараць паваротамі свайго жыцця ўсё новыя і новыя светы, дык чаму не могуць ці не маглі іх ствараць іншыя: Гітлер, Вітаўт, Жахлівы і нават... Бог. Так, Бог. Калі наш свет эксперыментальны, то ці адзін ён? Усялякі эксперымент патрабуе варыянтнасці: некалькіх у чымсьці адрозных доследаў. ("Божа, даруй мне гэты грэх..." — мільганула недзе ў падсвядомасці, аднак спыніць наплыў думак ён ужо не мог.) Варыянтнасці, каб урэшце прыйсці да абсалютна дакладнае высновы — ісціны, каб пракласці адзін ідэальна правільны шлях... Але ці дасягальныя "ідэал" і "абсалют"? Такое ўражанне, што перад усім чалавецтвам і перад ім асабіста якраз і стаіць гэтая задача: дасягненне ідэалу хоць бы ў адным з паралельных жыццяўсветаў. А, можа, і не стаіць, але мы імкнёмся да таго, выдуманага намі, ідэалу. Шляхам спроб і памылак. Сваіх. Шляхам драбнення аднаго лёсу (чалавека, краіны, чалавецтва, сусвету) на дзесяткі, тысячы... мільярды... розных лёсаў, адзін з якіх, урэшце, можа быць ідэальна правільным. І кожны асобны гэты лёс (жыццё) — ёсць ні што іншае, як сон. Бо, як бы там ні было, кожны з нас мае, абавязкова мае пункт адліку, з якое нуль стаў адзінкай — зачацце. "А значыць, — ён зноў прылёг і пачаў думаць з заплюшчанымі вачыма, — увесь гэты свет альбо створаны мною — маімі снамі, трызненнямі — альбо створаны спецыяльна для мяне: ён нараджаецца разам са мною і памірае разам са мною. Па-за мною — яго няма. Я адзін у гэтым свеце, а вы, усе вы — выдуманыя мною, вас няма... Бо вы з'явіліся для мяне разам са мною і знікнеце для мяне разам са мною: памру я і вы памраце адначасна. А таму адзінае, што ёсць каштоўнага ў гэтым свеце — гэта я... Праўда, толькі для мяне самога, а не для ўсіх. Бо ніхто, акрамя мяне, гэтага не разумее і не зразумее, бо кожны носіцца са сваім уласным светам, які загіне разам з ім, а больш дакладна — разам са мною".

Аднак застануцца іншыя светы — тыя, дзе ён здаровы і дужы, альбо дзе яшчэ больш хворы, але пакуль жывы... Паралельныя светы-сны-жыцці. У якіх ён яшчэ спіць і сніць сон пра тое, што ён спіць і сніць сон... У якіх ён ужо прачнуўся... У якіх ён яшчэ не засынаў і не сніў сон пра тое, што ён спіць і сніць сон пра...

2.

Дрэвы — не дрэвы, пальмы — не пальмы, гіганцкая трава — не трава, а нешта невядомае яму, сакавіта-зялёнае, расло абапал нешырокае сцяжыны, якая гублялася недзе наперадзе сярод гэтых дрэваў, ці пальмаў, ці нейкае травы... Ён яшчэ трохі пастаяў разгублены пасярод сцяжыны і пакрочыў наперад, уніз. З-за павароту насустрач яму паказалася трое... (ён спачатку падумаў — чалавек, потым — істотаў, а потым — апранутых, як людзі,.. кракадзілаў, ці не — дыназаўраў, бо на дзвюх нагах)... Яму нічога не заставалася, як набліжацца да іх. Параўняўшыся, паважныя паны-дыназаўры прыўзнялі свае капелюшы ў вітанні, і ён інтуітыўна ці механічна паўтарыў той самы рух — прыўзняў свой капялюш і хітнуў галавою. Паны не здзівіліся яму, прынялі за свайго, а значыць... Ён агледзеў сябе. Галавы сваёй ён не бачыў, але мог уявіць, якая яна. Бо цела ягонае пад касцюмам было — дыназаўравым: такім, як у тых паноў, што павіталіся з ім на сцяжыне. Ён раптам адчуў, што стаяць яму надта зручна — быццам ён сядзіць. Азірнуўся і ўбачыў хвост, на які ён абаперся-прысеў.

Пакуль ён аглядаў сябе, да яго падышоў нейкі дыназаўр у мундзіры, пэўна, міліцыянт і, казырнуўшы, сказаў:

— Вы парушаеце правілы прыстойнасці. У грамадскіх мясцінах нельга з'яўляцца з аголеным хвастом. Схавайце зараз жа. Інакш я вымушаны буду вас арыштаваць.

— А куды ж я яго схаваю? — і праўда, ягоны касцюм не быў прыстасаваны для нашэння хваста гэтак, як у міліцыянта. У таго хвост быў прыхаваны спецыяльнаю накідкаю і амаль незаўважны.

— Зараз жа апраніце накідку, — строга сказаў міліцыянт, — інакш я вымушаны буду прыняць меры, — зноў казырнуў і адышоўся ўбок.

"Мо вярнуцца дамоў?.. Але — куды? Дзе мой дом? Дзе я жыву?" — падумаў ён. І здагадаўся: залез у кішэню і дастаў тонкую жоўтую кніжачку, на якой нейкімі значкамі было нешта напісана. Дакладней не "нейкімі" і не "нешта", бо ён адразу прачытаў: "Пашпарт". Разгарнуў, зірнуў на каляровы здымак. Дык вось ён які цяпер — зялёны, з пукатымі вачыма і з носам, які пераходзіць у рот-пашчу... А вось і адрас, дзе ён жыве (прапіска?): Менск, вуліца Рафіева... Засталося злавіць таксоўку і назваць кіроўцу адрас. А грошы? Вось і грошы, зноў жа, з нейкімі значкамі, якія ён адразу зразумеў і падлічыў: хопіць.

Хаваючы хвост ад сустрэчных, ён выйшаў з парку — так, гэта быў парк, а не лес — на вуліцу горада і падышоў да прыпынку, на якім стаяла з дзесятак дыназаўраў, мяркуючы па вопратцы — мужчынаў і жанчын. Мужчыны пагардліва пазіралі на яго і адварочваліся. Жанчыны адварочваліся таксама, але неўпрыкмет зыркалі з цікавасцю, а дзве дзяўчынкі паглядвалі спадылба і хіхікалі між сабою.

Ён мог зразумець усё, бо не такім ужо і адрозным было дыназаўравае жыццё ад чалавечага. Яно было падобным і знешне: і дамы, і аўтобусы, і самі дыназаўры да людзей, асабліва здалёк. Пазнаў ён і будынак, да якога выйшаў — цырк. Ён разумеў незнаёмую раней мову, чытаў незнаёмыя раней літары... але ён не разумеў аднаго: чаму ён павінен саромецца свайго хваста? Што ў гэтым непрыстойнага альбо смешнага?

Падышла таксоўка. Дыназаўры на прыпынку расступіліся, нібы дазваляючы яму без чаргі заняць машыну. І ён, няўмела прыхоўваючы хвост, кінуўся да таксоўкі, ускочыў у яе і, спяшаючыся, балюча прыціснуў хвост дзвярыма.

Кіроўца скоса зірнуў на яго і спытаў:

— Куды едзем?

Ён дрыготкім голасам прамовіў адрас.

— Гэта будзе каштаваць... — кіроўца назваў такую суму, што я ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці. Таксіст заўважыў гэта і павольна-здзекліва сказаў: — Калі не хочаце — выходзьце. І наогул, у такім выглядзе, — кіўнуў на хвост, — я магу вас зусім не абслугоўваць ці адвезці ў пастарунак, — адвярнуўся пагардліва і прашаптаў сам сабе: — Разапселі зусім: з голымі хвастамі па горадзе ходзяць. Моладзь... Я б за гэта... І каб хвост быў як хвост, а то... Ну едзем? — зноў звярнуўся таксіст да свайго збянтэжанага пасажыра.

Ён маўкліва і роспачна хітнуў галавою ў адказ.

У машыне замест крэслаў стаяла некалькі квадратных пуфікаў і ён сеў на адзін з іх. Зручна... Бо калі б былі крэслы, куды б падзеў ён хвост... Хвост... Нарэшце ён здагадаўся, чаму насіць хвост голым лічылася тут непрыстойным: гэта ўсё роўна, што чалавеку выйсці на вуліцу з голым задам... Але яму і пасля гэтага разумення не стала сорамна, брыдка і агідна за сябе. "Гэтаксама можна саромецца носа і прыкрываць яго, ці яшчэ чаго..."

Раптам ён схамянуўся і падумаў: "Гэта ж сон! Мне сніцца гэтае чужое, дыназаўравае жыццё і я ў ім. А таму — ці варта мне саромецца таго, што сніцца, чаго няма і ніколі не будзе, чаго не ведае ніхто, апроч мяне? За свае ўчынкі ў сне мы не адказваем, бо не мы, ці не зусім мы імі кіруем... Чакай, — спыніў ён сябе, — а з чаго ўзяў ты, што спіш? Ці думаў ты калі-небудзь у сне, што сон — гэта сон? І калі ты ў сне падумаў, што гэта сон, дык ці сон гэта? Такім чынам — сном — можна апраўдаць любы свой кепскі ўчынак. Сказаць сабе: мне гэта сніцца і рабіць усё, што хочацца, з надзеяй, што вось-вось прачнешся і ні за што не будзеш адказваць..."

Яму захацелася прачнуцца. Зноў стаць чалавекам. "Зноў?", "стаць?" — злавіў ён сябе на думцы. Значыць, ён "быў" іншым. Значыць, ён і сапраўды — іншы. Значыць, ён спіць... А, можа, спаў? Раней спаў і сніў сябе чалавекам. І настолькі звыкся з тым жыццем, што ніяк не можа вярнуцца ў гэтае. Таму і выкідвае выкрутасы з хвастом на смех усім...

Ён адчуў сваё бяссілле, немагчымасць выбрацца з лабірынту гэтых думак і даць адзіна правільны адказ: хто ён на самай справе — чалавек ці дыназаўр, спіць цяпер ці жыве...

Кіроўца між тым падвёз яго да дому.

3.

Жыццё ёсць сон, а людзі ў ім — акторы... Дарэмна думаеш ты, што можаш нешта змяніць у сваім жыцці. Кожны паварот лёсу, кожная дробязь — запраграмавана, зрэжысіравана, змены ў сцэнарыі бываюць у выключных выпадках і амаль незалежна ад цябе самога.

Цябе крочаць па жыцці, цябе вучаць жыць. Караюць цела, вучаць душу...

4.

Сон ёсць жыццё і ты ў ім актор. Але не рэжысёр. Не сцэнарыст. Як і ў жыцці. Ты крочыш па абсурдным сюжэце і ўсё, што адбываецца з табою ў сне, табе здаецца звышлагічным... Але ты прыгадай адзін са сваіх сноў. Хоць бы вось гэты: ты міліцыянер. Ты ведаеш, што ты міліцыянер, але ты — голы. Мундзіра на табе няма, ты стаіш пасярод вуліцы і рэгулюеш рух. Машыны стоўпіліся на скрыжаванні, бо не ведаюць, што рабіць: святлафор паказвае адзін кірунак, а ты — супрацьлеглы. Урэшце адна з машын, за рулём якое пекная жанчына, рушыць наперад, туды, куды паказваеш ты. За ёй кіруюць іншыя. І ты таксама едзеш на сваёй машыне ўслед за жанчынаю. Ты даўно цікуеш за ёю. Яшчэ калі яна выйшла з опернага (тэатра), цябе прывабілі ейныя ногі балерыны. О, якія то былі ногі! Вось яны... Ты іх цалуеш. І вышэй, вышэй... Алена, твая сяброўка, не бароніцца, яна заплюшчыла вочы, быццам спіць і таму ўсё табе дазваляе. Ты цалуеш, цалуеш гэтыя мяккія, доўгія, чорныя ногі... цалуеш дарогу, асфальт, нагрэты сонцам, і раптам думаеш: "А навошта я гэта раблю?" Падымаешся з каленяў, азіраешся. Так і ёсць: на цябе даўно звярнулі ўвагу людзі, што стаяць на блізкім прыпынку ля цырка. Стаяць, пасмейваюцца. (Якія брыдкія ў іх твары — на ўвесь экран!) Табе сорамна. Ты некуды бяжыш па вуліцы. У парку — спыняешся. Ясі ягады. Суніцы. Збіраеш іх у слоік. Ты занясеш іх Алене. Ты паглядаеш на слоік. Ён да паловы ўжо напоўнены чырвонымі... чырвоным... чырвонаю крывёю. І кроў усё крапае і крапае з твайго пальца. Ты хочаш заціснуць рану, але рука правальваецца ў дзірку, ныраеш у яе і ты сам, увесь. Як цёмна тут! Але не доўга. Вось сцены тунеля пачынаюць патроху асвятляцца. Насустрач табе ідзе цягнік. Схавацца, хутчэй схавацца! Уцячы! Куды? Гэта метро. Вакол сцены... Цягнік усё бліжэй, бліжэй... Святло балюча апякае твае вочы — жах! — і будзіць цябе... То ранішняе сонца дабралася да тваёй галавы праз незашторанае вакно і сляпіць вочы. Страх яшчэ не прайшоў, але сон ужо забыўся. Ты стараешся прыгадаць, што снілася табе. Нешта жахлівае, думаеш ты, аднак што — не памятаеш.

...Ты не памятаеш свой сон. Сон — жыццё... Жыццё — сон... Замкнутае кола: жыццясон. Які ў рэшце рэшт "скончыцца": ты памрэш. Памрэш — заснеш? Каб прачнуцца зноў — нарадзіцца. І не памятаць свой папярэдні сон — жыццё.

цюра; Г. Вагнер, Канцэрт для габоя; А. Мдзівані, Сімфонія N 6; У. Солтан, Канцэрт для віяланчэлі...

Такі багаты, разнастайны і вельмі складаны рэпертуар вучэбнага сімфанічнага аркестра — з'ява вельмі рэдкая, калі не сказаць беспрэцэдэнтная. Але здзіўляе не толькі складанасць праграм, а ў першую чаргу прафесійны ўзровень выканання. Як вядома, сольны канцэрт — гэта вышэйшая форма выканальніцкага мастацтва, яна накладае на музыкаў вялікі цяжар адказнасці, як перад кампазітарам, так і перад слухачамі. Ад выканаўцаў патрабуецца не толькі паважлівае стаўленне да аўтарскага тэксту, але ў першую чаргу пранікненне ў дух, стыль, сутнасць інтэрпрэтуемага твора.

Сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі, хаця і займае годнае месца сярод іншых нашых аркестраў, — калектыў вучэбны. Але перад ім стаіць задача быць і канцэртнай адзінкай. Бо толькі сцэна выяўляе, у якой ступені студэнты-артысты валодаюць прафесійнымі навыкамі і здатныя да творчасці. А глыбока прадуманая, сістэматычная праца з калектываам яго мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Міхала Казінца — зарука поспеху.

Дырыжор — гэта не толькі капітан, але й душа аркестра. Ад яго патрабуецца асабістая мастацкая адоранасць, высокая прафесійная кампетэнтнасць, складаны комплекс чалавечых якасцей — цвёрдая воля, "жалезная" працаздольнасць, віртуознае валоданне сваімі пачуццямі, высокі ўзровень інтэлектуальнага развіцця і, вядома ж, сапраўднае майстэрства. Усё гэта ўласціва маэстра Казінцу. Ён прыкладае ўсе намаганні, каб кожнае выступленне аркестра — ці то ў родных сценах, ці то ў канцэртнай зале філармоніі — было Святам музычнага мастацтва. Для гэтага патрабуецца самаадданая праца над цэлым і над дэталямі, дзеля дасягнення глыбіні і яскравасці мастацкіх вобразаў, гарманічнасці, прапорцый — дынамічных, тэмбравых, тэмпавых і драматургічных.

Не менш важная роля ў поспеху канцэртнай дзейнасці аркестра належыць салістам.

З аркестрам, які дэманструе майстэрства ансамблевай ігры, ахвотна супрацоўнічаюць лепшыя салісты-інструменталісты Беларусі. Сярод іх такія яркія і розныя піяністы, як В. Шацкі, І. Алоўнікаў, С. Мікулік, Ц. Сергяеня, Д. Марозаў; скрыпачы — М. Яшвілі (прафесар Маскоўскай кансерваторыі), Р. Саркісава, віяланчэліст Я. Ксаверыеў, альтыст А. Хахлоў, габаістка В. Татур, малады трубач А. Кавалінскі, цудоўныя таленавітыя спевакі С. Франкоўскі і Т. Варапай...

Прызнаюся, што на адзін з апошніх значных канцэртаў калектыву я ішоў з нейкай часткай скепсісу ў настроі. Выкананне студэнцкім аркестрам 5-й сімфоніі Д. Шастаковіча — адной з найскладанейшых партытур з глыбокім філасофскім зместам, гэткай "лірычнай трагедыі" з відавочнымі рысамі аўтабіяграфічнасці, выклікала ўсё ж сумненні. Увасобіць на высокім узроўні ў гукавыя вобразы такую складаную мастацкую канцэпцыю не заўсёды ўдаецца нават прафесійным аркестрам... Але мне здаецца, што вучэбны калектыў задачу ў асноўным выканаў. Сакавітае, напоўненае і яскравае гучанне струннай групы, багатая фарбамі ігра драўляных духавых; ансамбль медных крыху саступаў, але "трымаўся" на прафесійным узроўні. Ну, а маладзёжная аўдыторыя з захапленнем слухала Вялікую Сімфонію, насуперак сцвярджэнням крытыкаў наконт неразумення і непрымальнасці сур'ёзнай музыкі падрастаючым пакаленнем...

У бліжэйшых планах маэстра Казінца — удзел аркестра ў традыцыйным свяце "Мінская вясна", дзе ён мусіць пацвердзіць свой высокі творчы ўзровень. Пажадайма ж: так трымаць!

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар**

---

кі жаль, вось гэта апошняе — дакладнае мастацкае ўвасабленне — надараецца вельмі рэдка. Часцей мудрагелістыя рэжысёрскія задумы так і застаюцца на ўзроўні добрых намераў, або ператвараюцца часам у такі "кактэйль" пастановачных штампаў (або сцэнічных іерогліфаў), што яго неабачлівае "ўжыванне" можа надоўга атруціць гледача.

Напрыклад, тыя з мінчукоў, хто любіць рызыку і іншыя вострыя адчуванні, мае магчымасць "паласавацца" такім "кактэйлем" — спектаклем рэжысёра М. Дзінава паводле п'есы Г. Марчука "Пеўчыя" ў тэатры-лабараторыі "Вольная сцэна". Г. Марчук, звярнуўшыся да падзей мінулай вайны, напісаў даволі змястоўную, хоць і шаргова традыцыйную па форме псіхалагічную драму. Яна давала творчую магчымасць стварыць хвалюючы спектакль на тэму, якой цяпер беларускія рэжысёры чамусьці цураюцца... (Прычыны? Думаю, усё тыя ж: кан'юнктурнасць і канфармізм, прышчэпленыя мастакам за многія дзесяцігоддзі таталітарнай сістэмай. Або — пэўная разгубленасць некаторых творцаў ва ўмовах сённяшняга "плюралізму"). Да гонару М. Дзінава, ён не спалохаўся. Але чамусьці вырашыў, што Г. Марчук напісаў... абсурдысцкую драму. Аб жыцці ці не марсіян, якія чагосьці лаюцца, скуголяць, б'юцца, вешаюцца... Такі вось атрымаўся спектакль, у якім асабліва "ўражвае" адзін таямнічы персанаж — у чорным скураным паліто нямецкага афіцэра СД і ў... інваліднай калясцы.

Думаю, не справа крытыка заступацца за сучаснага драматурга, ён можа і сам гэта зрабіць. Праўда, на маёй памяці толькі Кастусь Губарэвіч аднойчы рашуча выступіў супраць рэжысёрскага гвалтавання сваёй п'есы, апублікаваўшы ліст-пратэст на старонках "ЛіМа". А класікі? З імі пастаноўшчыкі асабліва не цырымоняцца. Адзін з апошніх прыкладаў такога, лічу, сапраўднага гвалту — спектакль рэжысёра А. Смелякова паводле п'есы А. Астроўскага "Апошняя ахвяра" ў Гродзенскім тэатры. У гэтым жа калектыве другі рэжысёр В. Баркоўскі (ён даўно праявіў сябе рашучым тэатральным эксперыментатарам) таксама мала што пакінуў ад п'есы Г. Ібсена "Лялечны дом", стварыўшы сваю ўласную сцэнічную версію пад назвай "Нора". З ёю можна спрачацца, але тут хачу заўважыць адзін важны момант: дзякуючы выдатнаму выкананню цэнтральнай ролі Людмілы Волкавай, спектакль В. Баркоўскага набывае прыкметы самастойнага і даволі арыгінальнага сцэнічнага відовішча, якое не пакідае гледача абыякавым. Цешыць яшчэ адна акалічнасць: гродзенскія акцёры іграюць "Нору" на дасканалай беларускай мове (пераклад А. Каляды), што яшчэ раз сведчыць пра рэальную магчымасць паступовага і натуральнага ажыццяўлення беларусізацыі айчыннага сцэнічнага мастацтва.

У спектаклі Р. Баравіка таксама ёсць пэўныя спрэчныя моманты: рэжысёр адвольна перабудоўвае сюжэтную канструкцыю п'есы, уводзіць новыя персанажы, пра якіх драматург, магчыма, нават і не здагадваўся. Так што прыхільнікам літаратурнага пераказу твораў на мове тэатра ёсць выдатная магчымасць праявіць сваю пільнасць і прынцыповасць. На мой погляд, А. Петрашкевічу грэх скардзіцца: спектакль "Дагарэла свечачка..." на сцэне Студэнцкага тэатра вылучаецца канцэптуальнай дакладнасцю, паважлівым стаўленнем да аўтарскай задумы расказаць пра складаны лёс беларусаў у XX стагоддзі. Рэжысёрская канцэпцыя спектакля вылучаецца паглыбленым філасофскім асэнсаваннем некаторых грунтоўных і заўсёды актуальных праблем быцця — жыцця і смерці, духоўнасці, памяці, пераемнасці традыцый і асаблівасцей нацыянальнага светаадчування. Мне падалося, што найбольш выразна і ўражліва ў спектаклі прагучала тэма, якая сёння нікога не можа пакінуць абыякавым, — тэма паміраючай духоўнасці. Паратунак ад гэтай бяды, што запанавала ў сённяшнім постчарнобыльскім існаванні, рэжысёр разам з драматургам бачыць у адраджэнні народнай маралі, народнай памяці, умацаванні спракавечных хрысціянскіх каштоўнасцей. Адсюль скіраванасць усіх сродкаў і прыёмаў сцэнічнай выразнасці (сярод іх дамінуюць прынцыпы псіхалагічнага тэатра) на раскрыццё вобраза Марфы — сялянскай жанчыны, жыццёвы шлях якой увасабляе складаны і цяжкі лёс усяго народа.

Тут прыйшоў час сказаць пра акцёрскае дасягненне Галіны Бальчэўскай. Яе безумоўны творчы поспех абумоўлены перш за ўсё адметным талентам, супадзеннем псіхафізічных даных актрысы і драматургічнага матэрыялу ролі, а таксама, і гэта хачу асабліва падкрэсліць, прафесійна дакладнай педагагічнай рэжысурай Р. Баравіка. Гэта апошняя акалічнасць — педагагічная рэжысура — зрабілася, на мой погляд, вызначальнай у дзейнасці Студэнцкага тэатра, адпавядае яго мэтам і задачам, — практычнаму навучанню будучых майстроў сцэнічнай творчасці. Магу толькі здагадвацца, што шматлікім удзельнікам спектакля было цікава і карысна сачыць за працэсам сумесных пошукаў двух прафесіяналаў у стварэнні сцэнічнага вобраза. Што да рэальнага выніку гэтых намаганняў, дык магу засведчыць: Марфа ў выкананні Галіны Бальчэўскай уражвае абсалютнай натуральнасцю сцэнічнага існавання і рэдкім багаццем акцёрскіх фарбаў і адценняў. Актрыса іграе з такой паўнатой пражывання, што за сцэнічным існаваннем гераіні пачынае дакладна праяўляцца лёс яе пакалення.

Складаную задачу прыходзіцца вырашаць у спектаклі студэнтцы 2-га курса Аксане Буй, якой рэжысёр даверыў ролю Любкі — маладой яшчэ, але ўжо досыць пакамечанай жыццём жанчыны. А. Буй даволі ўдала спалучае знешнюю характарнасць вобраза з разнастайнасцю псіхалагічнага стану гераіні, якая амаль страціла ўсе духоўныя арыенціры і маральныя каштоўнасці. Запамінаецца ў спектаклі і безыменная гераіня Яўгеніі Жуковіч, фінальны маналог якой прасякнуты не толькі трагічным светаадчуваннем, але і спадзяваннем. А яно, як вядома, памірае апошнім...

Сённяшняе жыццё не перастае здзіўляць. Асабліва — жыццё тэатральнае. Яно, здаецца, перастае быць просталінейным адбіткам таго, што робіцца за вокнамі тэатральных будынкаў.

**Рычард СМОЛЬСКІ**

---

Новыя выданні

# ЛЮСТЭРКА МУЗЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ

Імя музыказнаўцы Вольгі Дадзіёмавай вядомае досыць шырока і за межамі нашай краіны. Дацэнт Акадэміі музыкі, яна не так ужо і даўно абараняла кандыдацкую дысертацыю ў Вільні ў Літоўскай кансерваторыі, шмат разоў ездзіла на навуковыя канферэнцыі і ў архівы для пошукаў музычных твораў у Пецярбург, Польшчу і Летуву. Вядомыя яе манаграфіі, артыкулы ў часопісах і газетах. Яна прызнаны спецыяліст па гісторыі музыкі на Беларусі XVIII ст. і больш ранейшага часу. Яе даследаванні і педагагічны вопыт далі ёй магчымасць напісаць і рэцэнзуемы дапаможнік для сярэдніх навучальных устаноў гуманітарнага профілю.

Дапаможнік адносна невялікі — крыху болей за 5 аркушаў, але ўсе асноўныя звесткі па адпаведнай дысцыпліне тут змешчаны. Аўтар выкарыстала ўсе тыя матэрыялы, якія ёсць у навуковай літаратуры па музычнай культуры Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII ст., уключна са сваімі ўласнымі даследаваннямі, знаходкамі невядомых да яе матэрыялаў і нот у архівах Польшчы і Летувы. Выкарыстаны і працы Г. Барышава, А. Капілава, Л. Касцюкавец, В. Масленікавай ды інш., музычныя зборы.

Новая кніга В. Дадзіёмавай падзяляецца на два раздзелы: музычная культура Беларусі да XVIII ст. (складзены з чатырох падраздзелаў) і — музычная культура XVIII ст. (асноўны, з 9 падраздзелаў), акрамя ўводзінаў і заключэння. Такое размеркаванне матэрыялу можна растлумачыць не захапленнем аўтара сваім улюбёным XVIII стагоддзем, а багаццем музычнага матэрыялу, што захаваўся за гэты перыяд. Гістарычны лёс нашай краіны, шматлікія войны на яе тэрыторыі, страта дакументаў, іх наўмыснае часам знішчэнне падчас войнаў і казацка-сялянскіх паўстанняў, урэшце проста незахаванасць запісаў музычных твораў, — праз усё гэта нашчадкам засталося значна менш помнікаў музычнай культуры папярэдняга перыяду. Акрамя таго, трэба зазначыць, што XVIII ст. у культуры Беларусі адметнае яшчэ большым збліжэннем з агульнаеўрапейскай культурай, сведчанне чаго — пераезды на Беларусь шматлікіх артыстаў і музыкантаў-прафесіяналаў па запрашэнні магнатаў, фундатараў музычных тэатраў і аркестраў.

У адрозненне ад сваіх продкаў магнаты і частка шляхты самі вывучаюць музычныя творы таго часу, некаторыя, больш таленавітыя, становяцца выканаўцамі і кампазітарамі-аматарамі, але на ўзроўні прафесійным. Ім было з каго браць прыклад. Вядома, што імператары Свяшчэннай Рымскай імперыі Іосіф II (1741—1796) і Леапольд II (1747—1792), браты французскай каралевы Марыі Антуанеты, былі добрымі скрыпачамі і гралі ў прыдворным аркестры, а кароль Прусіі Фрыдрых Вялікі (1712—1786) быў аўтарам шматлікіх музычных твораў, якія часта выконваліся тагачаснымі аркестрамі. Карацей кажучы, у XVIII ст. музыка пры дварах магнатаў была не толькі моднай, а і зрабілася неад'емнай ад тагачаснай культуры ў вышэйшых колах грамадства.

Аўтар слушна і пераканаўча паказвае, што музычныя творы, якія нараджаліся на Беларусі, мелі свае асаблівасці і былі неад'емнай часткай беларускай музычнай культуры.

Бадай, упершыню ў літаратуры В. Дадзіёмава дакладна разглядае ролю і значэнне музыкі ў розных колах тагачаснага грамадства. У кароткіх нарысах падаецца гісторыя музычнага афармлення царкоўнай службы і пазахрамавых дзеяў у розных канфесіях, музыкі ў жыцці мяшчан. Цікавымі і новымі звесткамі падзялілася аўтар пра музыку ў вайсковым побыце. Тут была нават музыка для адмысловых вайсковых адзінак: напрыклад, турэцкая ў янычарскай харугве Радзівілаў. Толькі цяпер шырока пачалося вывучэнне гісторыі беларуска-літоўскага войска, і аўтар робіць добры ўнёсак у гэтую справу. Абагульняе В. Дадзіёмава звесткі пра музыку ў школьным тэатры XVIII ст.

Асобны падраздзел прысвечаны прыватнаўладальніцкаму тэатру (Нясвіжскі, Слуцкі, Слонімскі, Гарадзенскі, Шклоўскі тэатры). Не кожны чытач можа сабе ўявіць, што ў XVIII ст. на Беларусі ў розных гарадах існавалі не толькі драматычныя, але і музычныя тэатры. Напрыклад, у Шклове тэатр існаваў раней, чым у Маскве!

На падставе сваіх даследаванняў В. Дадзіёмава разглядае гісторыю аркестраў і капэлаў на Беларусі, дзе капельмайстрамі і выканаўцамі былі лепшыя дырыжоры і салісты замежжа і мясцовыя музыканты. Уражвае, напрыклад, такі факт. Аркестр гетмана вялікага літоўскага Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме налічваў 106 інструментаў, у той час як у славутым Мангеймскім аркестры было тады 34 інструменты, а ў аркестры венгерскіх магнатаў Эстэргазі (у якім працаваў Гайдн) было толькі 14 інструментаў.

Аўтар вучэбнага дапаможніка прыводзіць імёны і прозвішчы музыкантаў XVIII ст. У розныя перыяды ў гарадах Беларусі былі дзесяткі прафесійных музыкантаў. Так, у Шклове іх было каля 70, у Гародні — больш за 90, у Слоніме — больш за 100, у Нясвіжы — больш за 120. Большасць іх працавала пры дварах магнатаў, у касцёлах і манастырах, у вайсковых фарміраваннях. Нагадваюцца імёны і галоўныя творы кампазітараў: кампазітар Голанд у Нясвіжы напісаў оперу "Агатка" і балет "Арфей ды Эўрыдыка". Лібрэта "Агаткі" належыць Мацею Радзівілу, таксама музыканту і літаратару-аматару. У Шклове працаваў ураджэнец Чэхіі Эрнст Ванжура, які пазней працаваў у Санкт-Пецярбурзе. Для тэатра графа Зорыча ў Шклове Э. Ванжура напісаў музыку да пантамімы "Двайная жаніцьба Арлекіна, ці Арлекін, шчаслівы ў магіі".

Вольга Дадзіёмава разглядае музычную спадчыну Міхала Казіміра Агінскага, Мацея Радзівіла, Восіпа Казлоўскага, нагадвае паланез Тадэвуша Касцюшкі, гаворыць пра музычную адукацыю ў XVIII ст.

Да тэксту дапаможніка далучаны нотны дадатак — музычныя творы Вацлава з Шамотулаў, Цыпрыяна Базыліка, Міхала Казіміра Агінскага (з вершамі ў перакладзе У. Мархеля), паланезы Міх. Каз. Агінскага, В. Казлоўскага, М. Радзівіла. Нотны матэрыял дае магчымасць выконваць гэтыя малавядомыя або зусім невядомыя дагэтуль творы.

Па тэксту дапаможніка заўваг амаль няма. Толькі на с. 31 недакладнасць з датамі. У кнізе гаворыцца, што ў Бабруйску 29 верасня 1792 г. святкавалася Канстытуцыя 3 мая 1791 г. з гарматнымі стрэламі, мшой у касцёле, музыкай і г. д. Аднак Бабруйск быў захоплены расійскімі войскамі, якія падтрымлівалі таргавіцкіх канфедэратаў, яшчэ ў маі 1792 г., а ў верасні таго ж года таргавічане ўжо скасавалі Канстытуцыю 3 мая (Гісторыя Беларускай ССР. Мн, 1972, т. 1, с. 403). Да таго ў Бабруйску практычна ўжо распараджаўся расійскі камендант, а ў 1793 г. тэрыторыя Цэнтральнай Беларусі была далучана да Расіі.

На с. 40 гаворыцца, што Кацярыну II пад Магілёвам "музыкай і гарматнымі залпамі сустракалі драгунскія, грэнадзёрскія, пяхотныя і артылерыйскія палкі". Ці не занадта палкоў для беларуска-літоўскага войска? Па-першае, паводле пастановы Гродзенскага сойма 1777 г., прынятай пад націскам Пятра I, у беларуска-літоўскім войску было толькі 6 тысяч чалавек (гэта каб аслабіць Беларуска-Літоўскую дзяржаву). Па-другое, Усходняя Беларусь была ўжо з 1772 г. у складзе Расійскай імперыі. Так што гэта былі расійскія палкі, і гэтая вайсковая музыка не мае дачынення да беларускай музычнай культуры.

Чамусьці ў спісе літаратуры няма ўпамінання пра кнігу А. Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме" (Мн., Беларусь, 1993) ці хаця б пра нямецкае выданне гэтай кнігі (1961).

Але асобныя заўвагі не зніжаюць агульнай ацэнкі дапаможніка. Вучні сярэдніх навучальных устаноў гуманітарнага профілю і ўвогуле чытачы атрымалі новую каштоўную кнігу па гісторыі беларускай культуры. Шкада, што яна выйшла невялікім тыражом. Хацелася б пабачыць аналагічную кнігу для больш шырокага чытача і ў значна павялічаным аб'ёме. Аўтарка — маладая жанчына, актыўная даследчыца нашай мінуўшчыны, таленавітая прапагандыстка старадаўніх музычных твораў, і ёсць надзея, што ў хуткім часе яна выдасць новыя кнігі па выніках сваіх пошукаў у архівах і паводле ўласных даследаванняў.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

*Дадзіёмава В. У. Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мінск, Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, 1994, 1500 экз.*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ПРЫСВЕЧАНА КАСЦЮШКУ




**У Мінскім мастацкім вучылішчы пры БелАМ адкрылася выстава вучнёўскіх работ, прысвечаных 200-ым угодкам Вызвольнага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам А. Т. Касцюшкі. Адкрыццё выставы адбылося ў рамках Нацыянальнай праграмы па святкаванні ўгодкаў.**



**Звыш дваццаці мастацкіх работ навучэнцаў — партрэты, пейзажы, графічныя творы — аб'яднаныя тэмай выдатнай падзеі беларускай гісторыі.**



*На здымках: М. КУКТА, А. КАНДЗЕР. 4 курс. Плакат. А Касцюшка; С. НЕЖБАРТ. 4 курс. Арышт Касцюшкі; Т. АДАМОЎСКАЯ. 1 курс. Сядзіба А. Касцюшкі ў Марачоўшчыне.*

# ПОЛЬСКАЙ ШКОЛЕ ТРЭБА ПАДТРЫМКА

**Шэраг прадстаўнікоў грамадска-палітычных арганізацый Рэспублікі Беларусь (сярод іх народны дэпутат, старшыня культурна-асветніцкага фонду "Бацькаўшчына" М. Маркевіч, дэпутат Гродзенскага абласнога Савета, сакратар камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных зносінах абласнога Савета народных дэпутатаў Я. Скрабоцкі, старшыня камісіі па культуры і міжнацыянальных зносінах Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Т. Маліноўская, старшыня Гродзенскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны А. Пяткевіч, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры С. Габрусевіч, старшыня Гродзенскай гарадской рады БНФ К. Жынь і іншыя) звярнуліся ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з лістом, у якім просяць улічыць інтарэсы палякаў, якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей на роднай мове.**

**Сутнасць пытання вось у чым. Дзякуючы актыўнай дзейнасці Саюза палякаў на Беларусі, Таварыства сяброў польскай школы на Беларусі, Грамадскага камітэта будовы польскай школы распачалося праектаванне дзвюх польскіх школ у Гродне і адной ў Ваўкавыску. Але фінансавых сродкаў, атрыманых перш за ўсё дзякуючы грамадскім арганізацыям з Польшчы, хапае ўсяго на адну школу ў Гродне і на адну ў Ваўкавыску.**

**Абяцанае фінансаванне будаўніцтва другой школы з бюджэту Кабінета Міністраў, прынамсі, аб гэтым паведамляў друк, пакуль што не ажыццяўляецца. Вось аўтары ліста і пішуць: "Абяцанні на такім узроўні не павінны кідацца на вецер, а павінны выконвацца. І нам цяжка зразумець адмову ўрада фінансаваць будаўніцтва школы ў Гродне".**

*Меркаванне*

# НЕЛЬГА ДАГАДЗІЦЬ УСІМ...

Паважаная мною газета "Наша слова", як гэта ні прыкра, ужо ладна часу, як распачала сумнеўную кампанію па рэанімацыі бальшавіцкага гімна БССР: да старой музыкі падбіраюць асучаснены тэкст. Кампаніі, да таго ж, імкнуцца надаць агульнанародны размах; маўляў, "створым гімн разам". Ужо і "Звязда" паспела "развіць" задуму. Не ў пару гэткія жарты чыніць, калі пэўныя сілы толькі і мараць ажыццявіць падобныя захады, але не пра тых гаворка.

Некаторыя людзі наіўна думаюць, быццам музыка не нясе адбітку свайго часу, а значыць — не напоўнена зместам. Гэта далёка не так. Пра канататыўныя значэнні той музыкі, пра асацыяцыі, якія яна нясе, і заўсёды будзе несці, ужо выказваліся. Думаю, музыказнаўцы маглі б таксама паказаць, што і прамое, дэнататыўнае значэнне ў гімна прысутнічае. Калі бальшавікі змагаліся з "сумбурам замест музыкі", то, нягледзячы на невуцтва, яны ведалі, што рабілі і чаго дамагаліся. Дзяржаве патрэбны былі не толькі "людзі, прамыя, як кінжалы" (выраз М. Горкага), але і адпаведнае мастацтва: прамое, прымітыўнае, плакатнае і, разам з тым, пампезнае. Такі стары гімн. Няхай нехта даказвае, нібы музыка яго вельмі ўдалая (дапусцім, што так яно насампраўдзе), але гэта яшчэ нічога не значыць, бо і ў савецкай культуры былі свае шэдэўры. Няхай жа яны служаць таму часу.

Словы ж колішняга гімна (мяркую з пазіцыі і філолага і літаратара) не вылучаліся асаблівай таленавітасцю, а што да цяперашніх, то ўвогуле — усе рэаніматарскія варыянты не вытрымваюць элементарнай крытыкі. Проста — яны не нясуць ніякага зместу. Ёсць тут аскепкі савецкіх стэрэатыпаў, сентыментальныя масавыя клішэ і жменька наваспечаных лозунгаў на ўзор савецкіх. Увесь тэкст наскрозь таўталагічны. Пра паэзію і гаварыць няварта. Няўжо аўтары наіўна мараць стаць стваральнікамі гімна і не разумеюць, што любы больш-менш прыстойны паэт наштампуе падобных заклікаў яшчэ з дзесятак, але навошта? Спроба адрадзіць стары гімн аналагічная спробам чырвона-карычневых падмяніць дзяржаўную сімволіку прадукцыяй іх убогае фантазіі.

Сярод іншых прапаноў, на маю думку, заслугоўваюць увагі тры рэчы: "Пагоня" Багдановіча, "Развітанне з радзімай" Агінскага і "Малітва" Арсенневай. Першыя дзве вельмі спакушальныя, бо надта ж гэта рамантычна — мецъ геніяльныя творы за дзяржаўны гімн. А творам Багдановіча і Агінскага ніяк не адмовіць у геніяльнасці. Але дзе ўзяць адпаведную музыку? Баюся, што, спакусіўшыся на геніяльнасць, мы атрымаем аднабаковы гімн. Да прыкладу, узяўшы паланез, на доўгі час акажамся зусім без слоў, як расейцы з музыкаю Глінкі (дарэчы, беларусы таксама маюць нейкія правы на гэтага кампазітара).

Такім чынам, найбольш рацыянальная развязка наступная: трэба вярнуцца да гімна Н. Арсенневай. Няхай гэта не "Пагоня" і не "Развітанне...", але тут ёсць усё неабходнае, і ў форме і ў змесце, што трэба для гімна. Вобразы паэткі не кідкія, затое дакладныя і змястоўныя. Няма тут нічога лішняга, у тым ліку і самахвальства, уласцівага тэксту Жыгалкі з "Нашага слова", які хутчэй удае на пародыю ўсяе беларускае гісторыі.

І тут мне з нагоды хацелася б прывесці адзін амаль містычны выпадак, звязаны з "Малітвай" Н. Арсенневай. У XIX ст. ужо існаваў твор Зоф'і Манькоўскай, які пазней нездарма назвалі "Беларуская малітва", бо ён вельмі ж падобны да "Магутны Божа...". Вядома, тэкст Манькоўскай для нашага часу абсалютна састарэў, прывяду яго толькі для параўнання, але праз яго радкі, мы ўбачым, праступаюць іншыя словы і рытмы:

I

**Божа, наш бацька, мы твае людзі,**
**А неба цёмна ад чорных хмар.**
**На свеце цяжка, аж баляць грудзі,**
**Дзе ні пачуеш — голад, пажар.**

**Гулялі ветры па нашым полі**
**І сапсавалі нам ураджай,**
**І няма шчасця і няма долі.**
**Божа, наш бацька, хлеба нам дай!**

**Дай нам здароўя, шчыру ахвоту,**
**Калі з сахою пойдзем араць.**
**Ты бачыш цяжку нашу работу,**
**Дай жа пажытку з яе прыждаць!**

**Пашлі нам сонца з цёплай расою,**
**Каб зашумела ніва, як гай.**
**Кажуць, ты — бацька, мы — пад табою;**
**Хлеба, і сонца, і шчасця нам дай!**

2

**Магутны Божа! Ўладар сусветаў,**
**Вялікіх сонцаў і сэрц малых**
**Над Беларуссяй ціхай і ветлай**
**Рассып прамені свае хвалы.**

**Дай спор у працы, штодзённай, шэрай,**
**На лусту хлеба, на родны край,**
**Павагу, сілу і веліч веры**
**У нашу праўду, у прышласць дай!**

**Дай урадлівасць жытнёвым нівам,**
**Учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай**
**Краіну і наш народ!**

Першы верш не магла ведаць і перапрацаваць у падсвядомасці аўтарка другога, бо яго адшукаў У. Казбярук у 1980 годзе ў прыватным лісце Манькоўскай (тут жа была і прыпіска: "спяваць на мелодыю "Харала" Уейскага"). Значыць, калі дапусціць, што паэт — гэта медыум, які агучвае рэальнасці, палеглыя па-за свядомасцю і нават па-за моваю, то можна лічыць, што Манькоўская "падслухала" і запісала зямны варыянт, а Арсеннева — нябесны аднаго і таго ж тэксту, — тэксту, дзе зашыфраваны архетыпы і праграма беларускага народа.

Мне могуць запярэчыць, маўляў, некаму не да густу прыйдзецца слова Бог. Ну і што! Можа, нейкаму сатаністу ці ваяўнічаму атэісту не да душы і само Дабро, не станем жа мы яму дагаджаць. Зрэшты і сама Манькоўская не была рэлігійнай асобай, у тым жа лісце яна заўважала свайму адрасату: "Знаеш, шаноўны пане, мае рэлігійныя перакананні, але ў народзе абысціся без іх немагчыма..." Няма на свеце культуры, дзе б слова Бог, ці нейкі яго адпаведнік, не было б сэрцам, засяроджаннем усіх памкненняў і ўчынкаў. Сімвалічнасць гэтага слова разумее кожны больш-менш разумны чалавек. Паспрабуйма выкінуць Бога з літаратуры, і яна ўся звядзецца да агітак Дзям'яна Беднага. Сапраўды, як той казаў, няма нічога больш смешнага, чым дагаджаць усім.

**Юрась ПАЦЮПА**

*г. Гродна*

*Мартыралог*

# ПАКУТНІКІ "ГУЛАГу"

**МІРОН Восіп Вікенцьевіч**, 1902 г. н., ураджэнец вёскі Боркі Беларусі Беластоцкай вобл. Асуджаны ў 1942 г. сесіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 6 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**БОБРЫК Захар Іванавіч**, 1895 г. н., ураджэнец сяла Новазарэчанск Гомельскай вобл. Асуджаны ў 1944 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**КАРБУТА Парфірый Андрэевіч**, 1909 г. н., ураджэнец Валасавецкага сельсавета Мінскай вобл. Асуджаны ў 1943 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ВОЛЬСКІ Вікенцій Вікенцьевіч**, 1913 г. н., ураджэнец Новадворскага сельсавета Заслаўскага раёна БССР. Асуджаны ў 1938 г. тройкай НКУС па арт. 58 1а КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**ЛЕШЧАНКА Барыс Германавіч**, 1914 г. н., ураджэнец г. Магілёва Беларусі. Асуджаны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР і арт. 58 п. 14 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**КАСАЧ Яфім Навумавіч**, 1899 г. н., ураджэнец Тураўскага раёна Беларусі. У 1941 г. асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**САКАЛОЎСКІ Мікалай Паўлавіч**, 1912 г. н., ураджэнец Лякавінскага раёна Беларусі. Асуджаны спецкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Усцьвымлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ГРЫНЧЫКАЎ Аляксей Аляксандравіч**, 1913 г. н., ураджэнец вёскі Бабынічы Баранавіцкай вобл. Асуджаны ў 1952 г. лагерным судом ІТЛ АН МУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**МІРАНЧУК Ісідор Пятровіч**, 1906 г. н., ураджэнец сяла Пусачова Брэсцкага павета. Асуджаны ў 1941 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Усцьвымлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**АСТАПЕНКА Андрэй Васільевіч**, 1897 г. н., ураджэнец п. Пчалнікі Добрушскага раёна Гомельскай вобл. Асуджаны ў 1942 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ВЕРАСАЎ Фёдар Паўлавіч**, 1898 г. н., ураджэнец Казацкага сельсавета Гомельскай вобл. Асуджаны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ГУСАКОЎ Іван Купрыянавіч**, 1905 г. н., ураджэнец Віцебскай вобл. Беларусі. Асуджаны ў 1942 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ЗЯЛЁНЫ Ульян Мікалаевіч**, 1902 г. н., ураджэнец вёскі Сасноўка Парыцкага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**НАКУЦІС Іван Дзяменцьевіч**, 1923 г. н., ураджэнец сяла Глінкі Віцебскай вобл. Асуджаны ў 1942 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 14 КК РСФСР да 5 гадоў пазбаўлення волі і 2 гадоў паражэння ў правах.

**ГІРНІС Антон Іванавіч**, 1906 г. н., ураджэнец Магілёўскай губ. Беларусі. Асуджаны ў 1942 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ПЛАХОЎСКІ Аляксандр Адамавіч**, 1899 г. н., ураджэнец вёскі Карма Даманавіцкага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1943 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**КАНАШ Назар Аляксандравіч**, 1907 г. н., ураджэнец Азарыцкага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1943 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення і 3 гадоў паражэння ў правах.

**ДЗЕМІДОВІЧ Андрэй Рыгоравіч**, 1900 г. н., ураджэнец Даманевіцкага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1943 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**ЛАЎРЫНОВІЧ Аляксей Канстанцінавіч**, 1902 г. н., ураджэнец Мінскай вобл. Асуджаны ў 1942 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ЖУКОЎСКІ Пётр Мацвеевіч**, 1916 г. н., ураджэнец Лагойскага раёна Мінскай вобл. Асуджаны ў 1942 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўленя волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**КАРЭТКА Юсіф Андрэевіч**, 1901 г. н., ураджэнец Пружанскага раёна Гродзенскай вобл. Асуджаны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**САМАРДАК Васіль Максімавіч**, 1922 г. н., ураджэнец вёскі Касятаў Мазырскага раёна. Асуджаны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**ЦІХАНАЎ Мікалай Сяргеевіч**, 1916 г. н., ураджэнец вёскі Сычава Віцебскай вобл. Асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Вярхоўны суд РСФСР замяніў вышэйшую меру да 10 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**ФЛЕПШЭР Барыс Навумавіч**, 1929 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Асуджаны ў 1948 г. спецлагсудом ІТЛ МУС па арт. 58 п. 14 КК РСФСР да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**ГРЫНЕВІЧ Алена Аляксееўна**, 1928 г. н., ураджэнка Кастрычніцкага раёна Бабруйскай вобл. Асуджана ў 1948 г. спецлагсудом ІТЛ "АН" МУС па арт. 58 п. 14 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**Г. УСЦІЛОЎСКІ,**
**старшыня Саснагорскага таварыства "Мемарыял" (Рэспубліка Комі)**

*Заканчэнне. Пачатак у нумарах за 13, 20 і 27 студзеня г.г.*



Аляксандр ГАРЦУЕЎ





Віктар МАНАЕЎ

# ВАЖНЕЙ ЗА ІМГНЕННІ САМОГА ЖЫЦЦЯ...

***Яшчэ тады, калі "Тутэйшыя" не рыхталіся і да свайго пяцідзесятага паказу... Калі, памінаючы тутэйшую незалежнасць, мы ўсміхаліся не роспачна, а вінавата... Калі, збянтэжыўшы дырэктара, малады акцёр, які любоўю да гэтай незалежнасці не вылучаўся, умацаваў на даху тэатра нацыянальны сцяг і адказныя асобы не маглі патрапіць той сцяг зняць (казалі, што выхад на дах быў надта вузкі)... Калі насупраць Купалаўскага тэатра, з будынка кіруючае партыі, на ўсіх і кожнага ўтаропліваліся вочы пад сярпаста-малаткастымі павекамі... Калі зарплату яшчэ не затрымлівалі і мы штодня дазвалялі сабе каву...***





...Напіўшыся яе, кавы, накупляўшы колькі штук фотакатушак, зірнуўшы на сцягі і, напэўна, усміхнуўшыся, мы з фотамастаком Аляксеем Ільіным рабілі сабе прыемнае: сустракаліся з выканаўцамі "Тутэйшых" за кулісамі падчас спектакля. Калі анёлы часова адчаплялі крылы і дачытвалі газеты. Галоўны з белых анёлаў, спадар Падабед, які дазволіў клікаць сябе проста Сашам, яшчэ жартаваў, што вось, нават спраўнаму анёлу рэчаіснасць не спрыяе мецъ анёльскую чытанку... Юры Авяр'янаў, Заходні вучоны, ужо прадчуваў свой поспех у "Ідыліі" ды ўсведамляў — у "Рэвізоры". У Беластоку, па-польску... Там ён працаваў разам з Уладзімірам Кін-Камінскім, — тады, калі Уладзімір, сербануўшы праз беражок "Тутэйшых" тэатральнае славы-папулярнасці, толькі-толькі гартаў сваё першае інтэрв'ю ў "ЛіМе"...

Здалося тады, што імгненні спектакля гэтага (незалежна, адкуль глядзець — з залы або з-за заслоны) важнейшыя за імгненні самога жыцця. І што акцёры, толькі акцёры ведаюць, як з ім патрапіць паразумецца. Як з ім патрапіць абысціся...

А на сцэне тым часам адметна даводзілі пра звыклае, шараговае, несамавітае тутэйшае абыходжанне з нашым і вашым жыццём. З нашымі і вашымі праблемамі. Паказвалі, як прасцей за ўсё запраторыць "усіх, хто не з намі" ў пякельны люк пад сцэнай. Няма чалавека — няма праблемы...

"Тутэйшыя" ўпарта нарываліся. "Тутэйшыя" ўпарта абрыньвалі на нас успаміны пра будучыню.

Сцэнічны фарс хутка зрабіўся трагікамедыяй. Пэўна, антаганіст ды пратаганіст (умоўна, умоўна!), Зносак ды Здольнік, дакладней, Віктар Манаеў ды Аляксандр Лабуш, ніяк бы не здолелі патлумачыць, як так сталася. Як вострыя рагі-вуглы іх вонкавых дачыненняў абламаліся. Як усё засяродзілася на думках. Як вынікнула — пра Беларусь, якая ці не ў кожнага — свая. З гэтага ўжо мала хто цяпер смяецца. Шмат хто роспачна ўсміхаецца, угледзеўшы, зразумеўшы тутэйшыя варункі, умовы, акалічнасці. Такія ж самыя нават з адукаванага й вытанчанага (тэатрам ды спадаром Шэкспірам!) прынца Гамлета зрабілі забойцу ды тэрарыста. Ад Мікіты з Янкам вымагаюць, сама менш, каралеўскага трывання ды абачлівасці. Або — каб ім за Беларусь балела ды балела: нечалавечым болем.

Мне і цяпер мірсціцца маё жыццё ў імгненнях "Тутэйшых". Мне і цяпер здаецца, што часам імгненні спектакля "Тутэйшыя" важней за імгненні тутэйшага жыцця. Мяне самотна цешыць, што я бачыла тэатральны эпілог, сцяг з дзіцячых пялюшак ды крывавай пякельна-чырвонай паласы пад малітву за тую, якая карае і нішчыць горш за каго! За тую, чый назоў — радзіма — яшчэ не супадае з найменнем — дзяржава. Бо фінал спектакля — зусім тутэйшы. Каб не было мяне, не было б і маіх праблем з маёй Беларуссю. А дажыць да эпілога, спадарове, няшмат каму наканавана...

І толькі акцёры — часам — перажываюць фінал.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЬІНА і Яўгена КОКТЫША*





Аляксандр ПАДАБЕД



Уладзімір КІН-КАМІНСКІ



Юры АВЯР'ЯНАЎ

# ЮРЫ АНТОНАЎ ВЫБІРАЕ...

**Вядомы маскоўскі кампазітар і выканаўца песень Юры Антонаў, дарэчы, наш зямляк, спраўляе свой юбілей. З гэтай нагоды 19 лютага ў канцэртнай зале "Расія" мусіць адбыцца вялікі аўтарскі вечар. Галоўным чыннікам канцэртнай праграмы Ю. Антонаў запрасіў быць знаны беларускі аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі Міхаіла Фінберга. У Мінску прайшлі рэпетыцыі...**

# ГІТАРА, СЯБРОЎКА...




**Нават у больш спрыяльныя для існавання нашай культуры часы гэта была б сапраўдная падзея: з'явіўся новы нотны зборнік! Міністэрства культуры і друку, выдавецтва "Беларусь" паспрыялі выхаду ў свет доўгачаканага і ўнікальнага на сённяшні дзень выдання — "Альбома юнага гітарыста". Лепшая рэкамендацыя для гэтага зборніка — імя яго ўкладальніка ды аўтара прадмовы, знанага выканаўцы, прапагандыста гітарнай культуры на Беларусі, педагога Валерыя Жывалеўскага. Дзякуючы ягонаму энтузіязму, упершыню з'явіліся беларускія ноты для гітары, рэкамендаваныя выдаўцамі ў якасці дапаможніка, прыдатнага ў практыцы музычных навучальных установ. Пад адной вокладкай — тры дзесяткі самых розных п'ес. Тут і апрацоўкі народных беларускіх песень, і эцюды, і кампазіцыі ў рытмах вальса, полькі, мазуркі. Розныя паводле вобразнага зместу, розныя з пункту гледжання тэхнічнай складанасці... Чалавека, неабыякавага да праблем нашага культурнага досведу, нашага духоўнага ўратавання і адраджэння, безумоўна, усцешыць, што ў "Альбоме юнага гітарыста" ёсць старонкі, звязаныя і з гістарычнай мінуўшчынай Беларусі: "Сюіта на тэмы невядомых аўтараў XVI—XVII стст.", "Танец" В. Бакфарка для лютні, у пералажэнні для дуэта гітар, танец Д. Катона "Фаварыт" для лютні, апрацаваны для гітары ды спінета (клавесіна), "Полька" М. Сакалоўскага... Аўтар многіх апрацовак ды пералажэнняў — В. Жывалеўскі, яму ж належыць аўтарства "Мелодыі" для габоя і гітары. Але побач — шэраг іншых значных для беларускай музычнай культуры імёнаў, што фігуруюць у зборніку ў якасці аўтараў апрацовак, пералажэнняў або стваральнікаў арыгінальных п'ес. Гэта С. Бураў, В. Войцік, А. Віннік, У. Дзмітрыенка, У. Захараў, С. Плужнікаў, Б. Спектар ды інш.**

**Застаецца толькі парадавацца за тых нашых дзяцей, падлеткаў ды дарослых меламанаў, якія разам са сваёй сяброўкай-гітарай пачнуць спасцігаць свет арыгінальнай ды самабытнай музыкі. Друкаванне нотаў — справа карпатлівая, і таму зразумела вялікая ўдзячнасць В. Жывалеўскага як укладальніка супрацоўнікам музычнай рэдакцыі выдавецтва "Беларусь" Л. Рэцкай, В. Лучанок, І. Гнеўцы, Л. Раменчык за прафесійнасць ды зацікаўленасць у працы. Ну, а якім чынам прыдбаць "Альбом..."? Гэта ўжо каму як пашанцуе: ён з'явіўся на свет яшчэ летась і ў колькасці 5 тысяч нотных кніжак. Малавата...**

**С. ВЕТКА**

# ПРЫНЯЛІ З УДЗЯЧНАСЦЮ

**Саюз кінематаграфістаў РБ, Многафункцыянальны выставачны комплекс "На ростанях" і Клуб творчай інтэлігенцыі "На ростанях" Дома ветэрана сталіцы правёў сустрэчу з творчай групай мастацка-публіцыстычнага фільма "Слёзы блуднага сына" вытворочасці студыі "Спадар-Д". Яе мастацкі кіраўнік народны артыст Беларусі, кінарэжысёр Віктар Дашук прадставіў мінчукам здымачную групу новай стужкі — рэжысёра і аднаго з аўтараў сцэнарыя Віктара Аслюка, свайго вучня сцэнарыста Генадзя Сагановіча, аператара-пастаноўшчыка Анатоля Казазаева, выканаўцу галоўнай ролі — акцёра Гродзенскага тэатра лялек Віктара Шалкевіча і іншых. Гледачы з удзячнасцю паставіліся да прэм'ернага прагляду, а таксама песняў барда В.Шалкевіча.**

Пятро ГАРДЗІЕНКА

# ХТО МЫ І КУДЫ ІДЗЁМ?

Мы ЎЖО ўсяго начуліся і набачыліся, да ўсяго прызвычаіліся, таму жыхара Беларусі цяжка чым-небудзь здзівіць.

Выяўляецца, аднак, што можна. Ды не толькі здзівіць, а нават і ашаламіць...

Перш, чым сказаць пра канкрэтны выпадак, хацелася б крыху паразважаць пра дачыненні Беларусі з дыяспарай, гэта значыць з беларусамі, якія воляю лёсу апынуліся ў далёкім і блізкім замежжы.

Мабыць, як расліна чэзне без вады і сонца, так і чалавек духоўна мізарнее, калі жыве ў ізаляцыі ад духоўных набыткаў роднага народа, не мае сувязі з ім. У гэтым я асабліва пераканаўся падчас паездкі ў Франкфуркт-на-Майне да свайго славутага земляка, прафесара матэматыкі Барыса Кіта. Гэта была радасная і кранальная сустрэча, на той час мы былі першымі, хто завітаў з Беларусі да Барыса Уладзіміравіча. Мы — гэта мастакі Раіса Сіплевіч і Сымон Свістуновіч, я і сужэнства Акалатовічы, якія мелі намер наведаць свайго дзядзьку, якога хлопцам немцы вывезлі ў Нямеччыну. Але найперш усе разам спыніліся ў спадара Кіта. Ён быў усхваляваны, бязмерна рады, што мы на маім "Масквічы" адважыліся ехаць у такую далечыню. Яго ўсё цікавіла, мы адказвалі, самі распытвалі, карацей кажучы, чуліся блізкімі і роднымі людзьмі, якім ёсць пра што пагаварыць. Барыс Уладзіміравіч свабодна арыентаваўся ў пытаннях гісторыі, культуры, палітычнага і эканамічнага стану Беларусі як дзён сённяшніх, так і даўно мінулых. Гаварылі, зразумела, на роднай мове, з асаблівасцямі навагрудскага маўлення.

Пабыўшы тут, паехалі, папярэдне патэлефанаваўшы, да таго Акалатовічавага дзядзькі. Кантраст быў проста ашаламляльны. Ну, папершае, выявілася, што дзядзька начыста забыў матчыну мову, пляменнікі ж нямецкай не ведалі. Было ўражанне, што перад намі чалавек пакалечаны, які перахварэў на нейкую цяжкую хваробу, у выніку чаго ў галаве збэрсаліся думкі, а на языку — словы. У гэтай несусветнай мешаніне можна было ўлавіць асобныя беларускія, польскія, рускія, нямецкія, украінскія словы, але разам атрымлівалася несусветнае бязладдзе. Дзякаваць Богу, што Барыс Уладзіміравіч бездакорна валодаў тымі мовамі, якія мітусіліся ў дзядзькавай галаве, і спачатку перакладаў нам адразу з некалькіх на адну,беларускую, а потым, калі "паліглот" дарэшты выдыхся і перайшоў на нямецкую, дык з яе.

Не менш, чым мова, здзівіў нас і дзядзькаў пачастунак — раз дастаў з шафіка бутэльку з каньяком, цыркнуў у чарачкі-напарсткі па грамаў дзесяць, закруціў пляшку і паставіў назад, потым, спытаўшы, ці вып'ем яшчэ, зноў лінуў на камарову дзюбку. У заключэнне выпілі па шклянцы піва і на гэтым частаванне скончылася. Але сустрэчу можна лічыць сапраўдным балем, бо, калі мы праз тры дні ад'язджалі, фраў папрасіла прабачэння, што не частуе і не можа з мужам пабыць з намі перад ад'ездам: у іх у нядзелю заўжды сустрэча з сябрамі ў рэстаране і яны не могуць парушыць гэтую завядзёнку...

Ён жа стаяў, маўклівы, набычаны, падобны на вала ў ярме, зрэдку матляў галавой, засяроджана пазіраў кудысьці паўзверх нас, магчыма, пакутліва згадваў край свайго маленства і юнацтва, адкуль, як снег на галаву, нечакана-негадана зваліліся гэтыя сваякі-землякі, незразумелыя і чужыя яму, надакучлівыя, сваёй мітуслівасцю парушаючы адладжаны за дзесяцігоддзі парадак жыцця, ды аповядамі пра нейкую непатрэбную яму Беларусь, якую невядома дзеля чаго хтосьці прыдумаў, але якую ён ніколі не ведаў і цяпер ведаць не жадае...

У мяне і дасюль перад вачыма постаць нейкага разгубленага і роспачнага ад сустрэчы земляка, які стаўся такім не ад добрага жыцця і не па сваёй, зрэшты, волі. Дарэчы, гаспадар з таго дзядзькі быў проста выключны, дом меў на тры паверхі, збудаваны сваімі рукамі, якія ўмелі трымаць і гэблік, і капанічку, даглядаць, як малых дзяцей, градкі, на якіх раслі і памідоры, і кветкі, і шмат чаго іншага. І жонка са свайго мужа не магла нарадавацца. Але для Беларусі, нават для сваякоў гэта быў чалавек назаўжды страчаны. Ну а для сябе? Гэта ўжо як хто разумее сэнс жыцця і сваё прызначэнне на зямлі...

Наш знаёмы, як я зразумеў, быў удзячны лёсу за тое, што яго, — рослага, плячыстага, але да рэшты на пустой баландзе згаладнелага, — выбрала са стракатага шматмоўнага гурту гэтая невялічкая, амаль квадратная, за яго на гадоў дзесяць старэйшая фраў, якая з малодшымі братамі жыла на сваёй гаспадарцы. Там і асталяваўся наш беларускі дзяцюк. Спачатку як работнік, а потым, па вайне, і як гаспадар. Яму вельмі цяжка давалася чужая мова, у галаве назойлівымі аваднямі круціліся прынесеныя з Беларусі словы, і ён рабіў усё, каб пазбыцца іх. Поспехаў у гэтым дасягнуў, але, як выявілася, нямецкай мовай пры гэтым валодаў з горам-бядою.

Што тут скажаш: кожны авалодвае чужой і захоўвае веданне сваёй у меру сваіх магчымасцей, ды таго, як складваюцца абставіны. Бясспрэчна адно: каб быць самім сабой — трэба хацець гэтага, не задушваць у сабе самога сябе, пачуцця роднасці са сваім народам, а калі перайсці да больш канкрэтных рэчаў, дык па магчымасці слухаць на роднай мове радыё, чытаць газеты, часопісы, кнігі. Гэта тое, што лучыць эмігрантаў з зямлёй продкаў, дапамагае ім заставацца нацыянальна свядомымі людзьмі ў чужародным і чужамоўным асяроддзі. Адсюль, з гэтай далучанасці, вынікае зацікаўленасць дыяспары справамі Бацькаўшчыны, жаданне дапамагаць ёй у меру магчымасцей. Дапамога гэтая, калі разабрацца, не такая і малая. Адзін Сяргей Карніловіч з Кліўленда (ЗША), які, на глыбокі жаль, заўчасна пакінуў нас, столькі спрыяў Беларусі і яе людзям, што, бадай, яго асабісты ўклад перавышаў дасягнутае некаторымі дабрачыннымі фондамі з гучнымі назвамі. А ён рабіў дабро па-беларуску ціха, не вылазячы на трыбуны, не б'ючы сябе кулакамі ў грудзі і не крычучы пра патрыятычныя абавязкі. У гэтым рэальным, а не паказным служэнні Беларусі не быў адзінокім.

Дай Божа, як кажуць, здароўя і доўгіх гадоў жыцця ягонаму сябру Толіку Лук'янчыку — чалавеку ахвярнаму, бескарысліваму і сціпламу. Толькі на аднаўленне Мірскага замка ён перадаў ужо некалькі дзесяткаў тысяч даляраў.

Альбо такі факт. Летась на Бацькаўшчыну прыязджала вялікая група суродзічаў з Амерыкі, аснову якой складалі сябры аднаго з самых моцных беларускіх асяродкаў на чужыне — Беларуска-Амерыканскага грамадска-культурнага цэнтра ў Саўт-Рыверы (старшыня Юрка Навумчык). Мы зрабілі ўсё, каб іх вандроўка па Беларусі была цікавай, па-належнаму арганізаванай і вясёлай. Але нашы суродзічы не толькі весяліліся, купаліся ў празрыстай Нарачы і пілі весялун-крупнік на Купаллі, наладжаным моладдзю Наваполацка. Бо ехалі сюды з намерам дапамагчы людзям у чарнобыльскай бядзе. Не на словах, а на справе. Саўтрыверцы прывезлі з сабою і перадалі ў шпіталі і сірацінцы Беларусі лекаў і гуманітарнай дапамогі на мільёны даляраў, сабраных падчас дабрачынных абедаў, вечарынаў і баляў у Грамадска-культурным цэнтры.

А колькі зрабіў для Беларусі, для ахвяраў Чарнобыля Мікола Прускі! Жыве ён з сям'ёй адзінцом, наўзбоч ад беларускай супольнасці ў невялікім амерыканскім гарадку Гранд-Рэпіс і супрацоўнічае з магутнай дабрачыннай арганізацыяй, якая скіроўвае дапамогу ў дзесяткі краін. У тым ліку, зразумела, і ў Беларусь, бо дзякуючы Міколу кіраўніцтва арганізацыі дасведчана ў тым, як мы тут жывём і ў чым маем патрэбы. Нямала зрабіла добрага для Беларусі і доктар Марыя Дзямковіч, пра якую пару гадоў назад досыць шырока пісалі ў беларускім друку.

Аднак пра многіх вартых таго людзей пішам і ведаем да недаравальнасці мала. Напрыклад, пра сп. Браніслава Даніловіча, чалавека паважанага ўзросту, па-дзіцячаму шчырай, чуллівай беларускай душы, сэнс жыцця якога ў служэнні роднай грамадзе, што гуртуецца вакол царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Джэрсі. Да гэтага ж прыходу належыць і яго зямляк па бацькоўскім краі Алекс Сільвановіч. Гэта чалавек другога пакалення эміграцыі, гадаваўся і выхоўваўся не на роднай зямлі, а ў амерыканскім асяроддзі, якое, аднак, не заглушыла ў ім прыроджанай беларускасці; ёю ён літаральна свеціцца — мяккі памяркоўны характар, разважлівасць, гасціннасць, спагадлівасць, а ў дадатак і такая наша, свойская, пявучая беларуская мова. Гэтыя ж якасці ашчадзіла, зберагла і выспеліла ў сваёй душы і ягоная сяброўка жыцця, спадарыня Ніна, з якою ён вельмі шмат робіць па зборы сродкаў і набыцці лекаў для пацярпелых ад Чарнобыля. Нельга не адгукнуцца добрым словам і пра здольнасці сп. Сільвановіча як кіна- і фотааматара. Зрэшты, у апошнім выпадку, бадай, прыдатней казаць пра прафесіянала. Так, прынамсі, аднагалосна ацэньвалі па-сапраўднаму мастацкія фотапрацы гледачы, што сабраліся мінулагоднімі ліпеньскімі днямі на адкрыццё выставы ў краязнаўчым музеі горада Вілейкі.

Як быў нядаўна душою прыхода яшчэ адной беларускай царквы Жыровіцкай Божай Маці Сяргей Карніловіч, такім жа з'яўляецца душэўна роднасны яму Міхась Сенька, што належыць да прыходу св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. Ягоная хата — заўсёды насцеж расчынена для людзей з Беларусі: гасціннасцю гаспадара, як кажуць, на поўную чарку ў свой час карысталі паэт, аўтар нядаўна выдадзенай у выдавецтве "Полымя" кнігі "Беларуская Амерыка" Леанід Пранчак, кампазітар Зміцер Еўтуховіч, аўтар гэтых радкоў і многія іншыя, якія пачуваліся тут як дома, бо ў дзядзькі Міхася заўсёды раяцца іншыя беларусы, якіх у Саўт-Рыверы так шмат, што можна забыцца, што ты не дома, у якой-небудзь Любчы ці Аўселюбе, а ў далёкай Амерыцы.

Вельмі шмат можна расказваць пра сям'ю Пашкевічаў — бацькоў і дзяцей — з Канады. Нават з мовазнаўцаў мала хто ведае, што Валянціна Пашкевіч напісала і ўласным коштам выдала два грунтоўныя, з гледзішча друкарскага шыкоўна выкананыя, тамы "Беларускай мовы", прызначаныя для тых, хто гаворыць па-англійску, але хоча вывучыць і нашу мову. Цяпер спадарыня Валянціна дбайна і шчыра працуе над завяршэннем грунтоўнага "Англа-беларускага слоўніка". Ну а верны сябар жыцця спадар Міхась робіць належнае, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для працы. Увогуле ж ён чалавек унікальны. Трывалую цягу да ведаў вынес з Віленскай беларускай гімназіі. Гэта сапраўдны інтэлігент з народа. Працаваў у Таронта на фабрыцы звычайным рабочым. Але якую беларускую бібліятэку за гэты час назапасіў у сваёй хаце! Там сабрана, па сутнасці, усё найбольш вартае, што выходзіла ў апошняе паўстагоддзе на беларускай мове. Проста неверагодна, бо цяжка ўявіць, як можна, жывучы на чужыне, сабраць такое багацце! І глядзіце, як высакародна ён распарадзіўся гэтым багаццем: падараваў бібліятэку БелНіМу (Беларускаму Інстытуту Навукі і Мастацтва) у Нью-Йорку. Такім людзям, як спадарства Валянціна і Міхась Пашкевічы, трэба пры жыцці помнікі ставіць. Ды не там, на чужыне, а тут, у Беларусі!

Можна было б доўга расказваць і пра іх, і яшчэ пра адну беларускую, інтэлігентную і ахвярна-актыўную сям'ю Сурвілаў з Канады, якія так шмат робяць для актывізацыі канадскай грамадскасці на дапамогу ў чарнобыльскай бядзе; альбо пра майго земляка Барыса Рагулю, які на эміграцыі дасягнуў вялікіх поспехаў у лекарскіх справах, працай набыў уласную паліклініку і званне прафесара. Апошнім часам спадар Рагуля прыкладваў вялікія намаганні, каб з дапамогай улад Канады і беларускай дыяспары Амерыкі здабыць сродкі на будаўніцтва і абсталяванне ў Мінску зубной дзіцячай клінікі. Выглядае, што гэта яму ўдаецца і праект будзе ажыццёўлены.

Безумоўна, не толькі амерыканскія беларусы заклапочаны лёсам Бацькаўшчыны. Ці ж невядома, колькі старання і напорыстасці прыкладае айцец Аляксандр Надсан, збіраючы сродкі на набыццё лекаў, а потым дастаўляючы іх аўтамабілем з Вялікабрытаніі ў Беларусь?! З Аўстраліі, вядома, такім чынам сюды не прыедзеш, дый, скажам, Уладзімір Сідлярэвіч увогуле ўжо не цешыць сябе надзеяй, што трапіць на Бацькаўшчыну, але, тым не меней, робіць усё належнае, каб дапамагчы ёй у чарнобыльскай бядзе. Гэтай жа думкай жыве ўсё кіраўніцтва Федэральнай Рады Беларусаў Аўстраліі: Паўла Гуз, Яўген Груша, браты — Алег і Уладзімір — Шнэкі. Да іх у Мельбурн ужо праклалі дарогу арганізатары чарнобыльскіх дзіцячых адпачынкавых груп. Часамі, праўда, пра што згадвалася ў друку, трапляюць сюды і тыя, хто да Чарнобыля ніякага дачынення не мае, але дзеці ёсць дзеці і беларусы ставяцца да іх з душэўнай шчырасцю, дбайнасцю і цеплынёй.

Можна толькі пашкадаваць, што эміграцыя наша старэе, з кожным годам змяншаецца, што замяніць адданых патрыётаў Беларусі, за асобнымі выключэннямі, няма кім, бо пакаленне, якое нарадзілася і выгадавалася на чужыне, мае іншы менталітэт, іншае ўяўленне пра свой грамадзянскі і патрыятычны абавязак. Хто, напрыклад, можа замяніць на эміграцыі такога апантанага і да апошняй крывінкі адданага Беларусі патрыёта, як шаноўны спадар Міхась Зуй, які захварэў на цяжкую і, на жаль, невылечную хваробу...

На днях перамаўляліся па тэлефоне з Алегам Шнэкам, я спытаў пра самапачуванне спадара Зуя — весткі невясёлыя, папраўкі няма. Ды адна бяда да беларусаў не ходзіць: тая ж хвароба аблажыла і Алегавага брата Уладзіміра, якога ён ласкава называе Валодзька, які на працягу ўсяго жыцця таксама быў усёй душой і сэрцам адданы Беларусі, роднаму слову і культуры. Уладзімір падпісваўся псеўданімам Случанскі, ён аўтар апавяданняў, аднаго з першых у беларускай літаратуры гістарычнага рамана "Драбы", паэмы "Рагнеда". Творы Случанскага выдаваліся на эміграцыі, мяркую, іх варта перавыдаць і на Бацькаўшчыне.

Дапамога Беларусі эміграцыяй неабавязкова вымяраецца матэрыяльна-грашовым укла-

дам. Напэўна, калі трэба на нешта ахвяраваць пэўную суму, жыхар Вашынгтона, Старшыня Беларуска-Амерыканскага Кангрэсавага камітэта Расціслаў Завістовіч з лёгкай душой зробіць гэта. Але, перакананы, куды больш для Беларусі зрабіў ён як грамадскі дзеяч, як чалавек, які карыстаецца аўтарытэтам і павагай у амерыканскіх афіцыйных колах, асабіста знаёмы з кангрэсменамі, кіраўнікамі этнічных арганізацый. Мяркую, што дзейнасць такой "народнай" дыпламатыі на чужыне не менш патрэбная і карысная Беларусі, чым дыпламатыі прафесійнай, афіцыйных прадстаўніцтваў Рэспублікі Беларусь у замежжы. Цікавая тут асоба і роля Янкі Запрудніка, які на эміграцыі робіць за дзесяцёх, ды не за грошы, а па поклічу сэрца, душы і сумлення. А колькі дапамог дэлегацыям з Беларусі Васіль Мельяновіч, які, як і Янка Раковіч, з'яўляецца актыўным дзеячам Рэспубліканскай партыі ЗША, мае добрыя сувязі і знаёмствы.

"За так" на эміграцыі робіцца ўсё, што звязана з беларускімі справамі. Для многіх, напэўна, будзе ў навіну пачуць, што беларускія пісьменнікі на чужыне за свае творы не атрымалі ніводнага цэнта. Больш таго, выданне кнігі патрабуе ад аўтара значных выдаткаў, пайсці на якія могуць далёка не ўсе. Таму некаторыя стараюцца выдаваць сябе самі, ва ўласнай друкарні. Так, напрыклад, зрабіў паэт Янка Золак, які набыў патрыманы друкарскі варштат і выштукаваў на ім, пачынаючы ад набору і канчаючы выданнем, свой двухтомнік. А дзейнасць Яна Пятроўскага ўвогуле ўяўляецца мне тытанічнай. Проста дзіву даешся, як чалавек мог перакласці з грэчаскай мовы шматтомны збор твораў Платона і выдаць іх без нічыёй дапамогі ва ўласнай друкарні. Захапленне і здзіўленне выклікае ў гэтым плане і дзейнасць Міколы Прускага. Сяму-таму з чытачоў, мабыць, трапляліся салідныя "акадэмічныя", з густам выдадзеныя тамы такіх эміграцыйных аўтараў, як, скажам, Наталля Арсеннева ці Алесь Салавей. У нас такія кнігі выдаюцца на такіх гігантах, як фабрыка каляровага друку ці Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа. Ну а Мікола Прускі, чалавек надзвычай сціплы, выдаў гэтыя тамы ў падвале ўласнага дома, дзе стаяць "дапатопныя" варштаты. Цяпер спадар Прускі перайшоў на камп'ютэры — ён рэгулярна выдае ўласным стараннем часопіс "Беларускі свет" і газету "Беларускі дайджэст" — і падумвае, куды падзець тыя старыя друкарскія варштаты, якія саслужылі добрую службу. Перакананы, не цяпер, дык з часам, калі Беларусь самаўсвядоміць сваю годнасць, значнасць сваёй гісторыі і культуры, абавязкова будзе ў Мінску адчынены музей эміграцыі. Дык давайце, шаноўныя, ужо цяпер парупімся, каб захаваць такія экспанаты, якім у тым будучым музеі цаны не будзе! Бо заўтра будзе позна...

Прыведзеных фактаў, мяркую, дастаткова, каб пераканацца, што сабой уяўляе беларуская эміграцыя і чым яна дыхае. Тыя суродзічы, якія захавалі і свята шануюць у душы вернасць роднаму слову, культуры, традыцыям продкаў, у якую б далеч іх лёс ні закінуў, дыхаюць паветрам Бацькаўшчыны, бо бачаць яе наяве і ў снах і імкнуцца зрабіць усё магчымае для яе духоўнага, нацыянальна-культурнага і эканамічнага Адраджэння.

Ну а мы, а Беларусь у дачыненні да дыяспары? Бо, калі лагічна, дык на дабро трэба адказваць дабром, на гасціннасць — гасціннасцю. Прыкладам такога ўзаемаразумення, згоды і шчырасці можа быць скліканы па ініцыятыве ЗБС "Бацькаўшчына" ў ліпені 1993 года Першы з'езд беларусаў свету, у арганізацыі і фінансаванні якога чынны ўдзел брала і дзяржава. Беларусы замежжа адчулі тады цеплыню, паверылі, што ў нас сапраўды будуецца незалежная Беларуская дзяржава і з лёгкай душою раз'ехаліся па сваіх краінах.

Хочацца спадзявацца і верыць, што і сёлетняя прадстаўнічая сустрэча эміграцыі, прымеркаваная да святкавання Навагрудка — колішняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага, гэтай магутнай старадаўняй Беларускай дзяржавы, — таксама пройдзе пад знакам яднання Бацькаўшчыны з дыяспарай, кансалідацыі і духоўнага ўзмужнення беларускага народа і назаўжды западзе ў сэрца ўсім, хто адчувае трывалую повязь з родным краем.

Што датычыць звычайнага чалавечага яднання, сустрэч, святкавання, то, перакананы, усё тут будзе як паміж людзьмі адной сям'і, у гэтым выпадку — сям'і беларускай. Бо я ўжо пяць гадоў назіраю, як хораша пачуваюцца ў супольным яднанні прадстаўнікі Бацькаўшчыны і эміграцыі, звычайныя беларускія людзі, якія адны адным не перакасілі і не пераехалі. І так было заўсёды, нават тады, калі смуродлівым гарам нялюдскасці дыхала наша прапаганда, настройваючы людзей Беларусі супраць так званых "бебурнацаў", гэта значыць нацкоўваючы беларусаў на беларусаў. Дык вось, у той час, у гады пяцідзесятыя, але ўжо, вядома, пасля смерці Сталіна, прыехаў з Аргенціны на Радзіму наш сваяк Алесь Лецка з сям'ёю. І гэта сталася святам для ўсёй вёскі!

Здавалася б, з набыццём незалежнасці ўзоры антынацыянальнай "прапаганьбы" назаўсёды адыдуць у нябыт, стануць набыткам гісторыі. Аж не: на пачатку года газета "Белорусская нива" друкуе вялізны артыкул, зроблены па класічных узорах гэтай самай "прапаганьбы". Разглядаць яго ўвесь, спрачацца па кожным факце — значыць марнаваць свой і чытачоў час! Усё гэта было пісана, казана і не адзін раз абвергнута. Ну хоць бы тое, што цяперашні старшыня Згуртавання беларусаў Канады Мікола Ганько ніякі не нямецкі паслугач і злачынец, не кіраўнік Саюза беларускай моладзі хоць бы па той прычыне, што гэтай саліднай агульнабеларускай арганізацыяй не мог кіраваць хлапчук, якому ў вайну споўнілася дзесяць гадоў. Пра гэта ўжо дзесяць разоў пяць гадоў таму назад пісалі! Але "Белорусской ниве" пад зарэз трэба знайсці на эміграцыю кампрамат і прычынай у гэтым выпадку сталася сугучнасць прозвішчаў Міколы і Міхася Ганько, які сапраўды ўзначальваў СБМ.

Узнікае пытанне: газета сама праявіла ініцыятыву ці мела адпаведны так званы сацыяльны заказ? Пажывём, як той казаў, пабачым. Але ўжо і сёння ёсць факты, якія насцярожваюць, што ўсё гэта невыпадкова, што ўлады пачынаюць мяняць свой курс у дачыненні да эміграцыі. Мне давялося ўдзельнічаць у XX і XXI Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, гэтых прадстаўнічых форумах беларускай эміграцыі ЗША і Канады, на якія ў якасці гасцей з'язджаюцца беларусы і з іншых краёў. На папярэдняй прысутнічала і афіцыйная дэлегацыя з Беларусі на чале з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятром Краўчанкам. Быў там і паўнамоцны і надзвычайны пасол Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзь Бураўкін, былі прадстаўнікі беларускага пасольства ў ЗША. Ну а ў верасні мінулага года? Нікога! І ніякага прывітання ад афіцыйных улад Беларусі не было атрымана. Што гэта: выпадковасць ці яшчэ адно — і вельмі істотнае! — сведчанне змены курсу?!

Альбо факт, які, уласна кажучы, і падбіў мяне на напісанне гэтага матэрыялу. Звязаны ён з перасылкай перыёдыкі і кніг патрыятычнага гучання беларусам замежжа. Пачаў я гэта рабіць задоўга да ўтварэння Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і, зразумела, працягваў, пашыраючы геаграфію адсылкі, будучы на пасадзе старшыні Рады гэтай грамадскай арганізацыі. Потым, пасля Першага з'езда беларусаў свету, гэты, уважаю яго адказным і ганаровым адначасова, абавязак выконваў праз узначалены Выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" — юрыдычна і фінансава самастойную структуру ў сістэме сусветнай беларускай супольнасці.

Напачатку, у параўнанні з пазнейшымі, кошты перасылкі былі амаль сімвалічнымі. Але і потым сяк-так можна было трываць. І раптам, як абухам па галаве, шчодры навагодні "падарунак": кошты перасылкі ўздыбіліся на дзесяціразовую вышыню! Тут мы, бадай, пабілі ўсе вядомыя рэкорды, і цэны сталі не сусветнымі, а несусветнымі!

Узнікае пытанне: хто і якімі памкненнямі быў пабуджаны, ідучы на такі круты віраж? Пра эканамічныя матывы, мабыць, казаць не даводзіцца, бо якая ж гэта эканоміка, якая дасюль была дзесяцікроць стратнай! Верагодней за ўсё, што заўзятыя цэнаўтваральнікі ў сваіх дзеяннях кіраваліся палітычнымі меркаваннямі, бо напэўна ведалі, што такі крок прывядзе да істотнага абмежавання кантактаў Бацькаўшчыны з замежжам. Такім чынам на месца колішняй ідэалагічна-жалезнай заслоны (а яна наскрозь пражавела і сталася зусім непрыдатнай для нашага часу) узводзіцца новая, назавём яе дубова-эканамічнай, пераскочыць праз якую не лягчэй, чым пра тую, ранейшую...

Яшчэ раз упэўніўся ў гэтым на прэзентацыі Выдавецкім цэнтрам "Бацькаўшчына" кнігі Ніла Гілевіча "Талісман". Там прысутнічаў і ўзяў слова яшчэ адзін светлай душы чалавек беларускага замежжа Юрка Рапэцкі з Канады. Голас яго на працягу некалькіх гадоў у запісе, а часамі, падчас прыезду ў Беларусь, і ў жывым эфіры гучаў па радыё ў перадачах "Для веруючых і няверуючых". Выступаў спадар Рапэцкі, не ў прыклад нашым святарам, на роднай мове, якою ён валодае бездакорна. Ды гэта, мабыць, было некаму не даспадобы, бо кіраўніцтва Тэлерадыёкампаніі паставіла пытанне рубам: або плаці, таварыш Рапэцкі, па 500 доляраў за 10 хвілін эфіру, альбо больш ваш голас гучаць тут не будзе. Мабыць, і не будзе, бо спадар Рапэцкі ніякі не багач, яго пастырская і грамадская дзейнасць мае дабрачынны характар. Як і выдадзеная ім кніга "Новае жыццё ў Хрысьце".

Адказ на пытанне, чаму і дзеля чаго так робіцца, трэба, мяркую, шукаць не ў канкрэтных ведамствах, дзе тое ці іншае рашэнне прымалася (падобных на прыведзеныя факты можна згадваць дзесяткі), а ў вызначальным і сакраментальным: **хто мы і куды ідзём**. Пад гэтым "мы" маю на ўвазе дзяржаву і народ, а калі больш канкрэтна, дык тыя афіцыйныя інстытуты і тых людзей, якія вызначаюць сённяшні палітычны і эканамічны курс краіны.

Так, Беларусь аб'явіла сябе суверэннай дзяржавай і, здавалася, павінна была б рабіць высілкі па мацаванні свайго дзяржаўнага падмурка, якога яна была пазбаўлена на працягу амаль чатырох стагоддзяў. Ды назіраецца штосьці адваротнае ў дзеяннях вышняй улады. Маю на ўвазе тэндэнцыю, накірунак, бо і на высокіх пасадах ёсць нямала людзей, якія ўсведамляюць усю адказнасць ускладзеных на іх воляю лёсу правоў і абавязкаў. На прыкладзе Старшыні Вярхоўнай Рады, шаноўнага спадара Мечаслава Грыба мы бачым, як высокая пасада падняла асобу да разумення асабістай ролі і адказнасці перад гісторыяй, будучыняй, народам, яго духоўнымі здабыткамі, у тым ліку і мовай, якая загучала ў вуснах колішняга генерала міліцыі натуральна, нязмушана і не перашкаджае яму выказваць самыя складаныя думкі, адстойваць суверэнітэт маладой дзяржавы. Але далёка не ўсё залежыць ад кіраўніка парламента, дый паўнамоцтвы яго, як вядома, разам з парламентам скончацца ў маі гэтага года. І хіба не можа не хваляваць пытанне, якія людзі прыйдуць на змену цяперашнім народным дэпутатам, хто будзе іх старшынёй? Сітуацыя сапраўды трывожная, калі ўлічыць, што дзеянні ўлад Беларусі вельмі часта ідуць у разрэз з усталяванымі нормамі, з тым, што мы бачым у іншых дзяржавах. Як у тых, чыя палітыка і практыка шліфавалася на працягу стагоддзяў, а то і тысячагоддзяў, так і ў маладых, што ўтварыліся ў выніку распаду СССР і ўсяго сацыялістычнага лагера.

Уявіць, што вышэйшая асоба дзяржавы можа дазволіць сабе выпады супраць роднай мовы, сімволікі, суверэнітэту, скажам, у Грэцыі, Чэхіі, ці краінах Балтыі проста неверагодна — там адразу ж было б пастаўлена пытанне аб адстаўцы. А ў нас?.. Ды што тут парадзіш, калі і сам бацька, і многія яго дзеці — як той у Нямеччыне дзядзька...

І гэта не можа не хваляваць нашу эміграцыю, што адчуваецца ў матэрыялах газеты "Беларус", якая выдаецца ў Нью-Йорку і ад пэўнага часу перавыдаецца ў Мінску НВК "Тэхналогія". Трывога за лёс Беларусі гучыць амаль у кожным лісце, які я атрымліваю з беларускага замежжа. Вось, да прыкладу, зацемка з уражанняў ад нядаўняй вандроўкі старшыні Згуртавання беларусаў у Бельгіі, спадара Янкі Жучкі:

"Будучы вельмі коратка апошнім разам на Беларусі, я з жахам заўважыў аграмадны крок назад на дарозе адраджэння беларушчыны. Слухаючы некаторыя выступленні "высокай асобы", я часамі амаль у вобмарак падаў. Зрэштай, думаю, залішне Вам усё расказваць — Вы самі ўсё вельмі дакладна ведаеце".

Кожная паўнацэнная дзяржава бярэ на сябе клопат пра эміграцыю, тым больш пра насельніцтва сваіх этнічных тэрыторый, якія ў выніку гістарычных абставін апынуліся ў іншых дзяржавах. Такія арганізацыі, як "Бацькаўшчына", Таварыства "Радзіма", а цяпер і Згуртаванне навагрудцаў свету, прызначэнне якіх у клопаце пра сваіх суайчыннікаў за мяжой, у іншых краінах, служаць хутчэй своеасаблівай шырмай, прыкрыццём для дзяржаўнай палітыкі, каб яна не выглядала такой аголенай і, у выпадку пэўных непаразуменняў, канфліктных сітуацый, каб дзяржаве можна было схавацца за гэтыя арганізацыі: і я не я, і хата не мая! Для нагляднасці звернемся да вопыту нашай заходняй суседкі. Сувязямі з замежжам займаецца там "Палонія" — "Еднота Польска". Гэта надзвычай разгалінаваная і магутная структура, якая мае ў цэнтры Варшавы выдатны, на некалькі паверхаў, палац, сядзібы ў многіх іншых польскіх гарадах і свае філіі ў замежжы. Але ўсё гэта трымаецца не на голым энтузіязме, а на грашах, якія шчодра выдзяляе непасрэдна сенат — і на зарплату супрацоўнікам, і на ўсё тое, што ідзе на падтрымку польскасці, польскага духу ў замежжы. Перыёдыка і кнігі з Польшчы калі не тонамі, дык пудамі рассылаюцца ва ўсе канцы свету. І не толькі гэта. Той, хто сутыкаўся з дзейнасцю польскага (!) касцёла на Беларусі, ведае, як прысланыя сюды з Польшчы, або ўзгадаваныя з тутэйшых касцельных палякаў ксяндзы не толькі абяцаюць шчырым вернікам рай нябесны, але і абдорваюць іх зямнымі падарункамі, заахвочваючы гэтым умацоўвацца ў польскасці і пазбаўляцца беларускасці. Таго ж, хто не паддаецца гэтаму, чакае амаль што адлучэнне ад касцёла. Два гады назад я быў сведкам таго, як Івянецкі ксёндз адмовіўся абвянчаць маладую пару за падобныя непаслушэнствы, і яны змушаны былі звярнуцца да Міхала Сапеля, аднаго з нямногіх беларускіх ксяндзоў, які іх благаславіў і павянчаў у Ракаўскім касцёле. У асноўным жа беларусы паддаюцца на апрабаваны стагоддзямі падман: калі каталік — значыць паляк і мусіш звяртацца да Бога толькі па-польску, бо, маўляў, сам Езус Хрыстус прамаўляў на польскай мове. Абсурд, але пазбаўлены ўладарамі нацыянальнай свядомасці беларус верыць у гэту лухту. Ну а яшчэ як яна падмацоўваецца прысланымі з Польшчы дарункамі, абяцаннямі накіраваць пасля школы дзіця ў Польшчу і забяспечыць стыпендыяй — хто ж тут устоіць! Так, польская дзяржава мае сваю выразную нацыянальную палітыку, клапоціцца не толькі пра палякаў, але і пра тых, каго можна схіліць, пераважна праз веру, да польскасці.

Прыйшоў час вызначыцца і нам: калі мы сапраўды будуем вольную незалежную Беларусь і хочам забяспечыць сваім дзецям і ўнукам годнае жыццё, дык тады гэтай асноўнай мэце трэба падпарадкаваць волю, розум і здольнасці. Калі ж не... Не, другога шляху няма, бо спробы штурхаць Беларусь у абдымкі суседзяў, якія прытарна пахнуць свежай чалавечай крывёю, немінуча і нас прывядуць да таго, што цяпер назіраем у Чачні: мора пакут, рэкі слёз і крыві, несуцешныя галашэнні ўдоў і матак над палеглымі пад бомбамі, снарадамі, кулямі. Дапусціць падобнае — узяць на сябе найцяжэйшы грэх перад Богам, сучаснымі і наступнымі пакаленнямі!

Дык давайце думаць не пра варажнечу, а пра згоду ўсіх, хто жыве на Беларусі і хто яе па розных прычынах пакінуў, але лічыць сябе адданым яе сынам, каб нам усім разам пабудаваць вольную ад усякага прымусу і шчаслівую Беларусь, якая, спраўджваючы словы вялікага Купалы, зойме свой пачэсны пасад між народамі!

Жыве Беларусь!

**Яўген ЛЕЦКА**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Раісе Баравіковай з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю ЗВОНАКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтарыя *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11168.
Нумар падпісаны 16.2.1995 г.
Заказ 114.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

